


Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

4 СТУДЗЕНЯ 2002г. № 1/4135 КОШТ 275 РУБ.





# З Новым Годам! З Калядамі!

Фотакалаж Ю. ЗАХАРАВА.

*Здароў, марозны, звонкі вечар!*
*Здароў, скрыпучы, мяккі снег!*
*Мяцель не вее, сціхнуў вецер,*
*І волен лёгкіх санак бег...*



# КОЛА ДЗЁН

***Усе людзі на Зямлі здаўна звязваюць з прыходам Новага года новыя і, само сабою, лепшыя спадзяванні. Мы, беларусы, тут не выключэнне. Тым больш, што жывём мы пакуль не надта заможна і шчасліва. І прыход кожнага новага года нас цешыць асабліва: а, можа, ён, нарэшце, спраўдзіць нашыя спадзевы на лепшае жыццё? 2002-гі ўжо самою сіметрычнасцю свайго графічнага абрысу (чытаецца кругом, з усіх бакоў аднолькава) узмацняе гэты спадзеў. Згадваецца з гэтае нагоды год 1991-ы, парадкавы нумар якога таксама чытаўся аднолькава злева направа і справа налева і які прынёс нашай Бацькаўшчыне чаканую незалежнасць і спарадзіў веру ў наша нацыянальнае Адраджэнне. 2002-гі адметны тым, што сёлета спаўняецца 485 гадоў беларускай — Скарынаўскай — кнізе, што акурат на гэты год прыпалі 120-ыя ўгодкі Янкі Купалы і Якуба Коласа — нашых народных песняроў, стваральнікаў нашай Нацыянальнай Літаратуры, выказнікаў дум і мар народных, Прарокаў і Апосталаў нашай святой і шматпакутнай зямлі. І, нарэшце, сёлета і нашаму "ЛіМу" спаўняецца 70 гадоў. Апошні юбілей у параўнанні са згаданымі сціплы, вядома, але для нас, лімаўцаў, ён таксама значны. Усё гэта дае падставы для добрых, светлых здзяйсненняў і плённых здабыткаў у Новым годзе.***

***Будзем верыць у гэта, сябры! З Новым годам вас і з Калядамі! Здароўя вам, шчасця, спакою і дабрабыту!***

## ХУТКАСЦЬ ТЫДНЯ

Ужо ці не сёлета на Беларускай чыгунцы цягнікі змогуць развіваць хуткасць да 200 кіламетраў у гадзіну. Гэта стане магчымым дзякуючы сумеснай праграме арганізацыі хуткаснага руху Беларускай чыгункі і Міністэрства шляхоў зносін Расіі. Ідзе капітальны рамонт і рэканструкцыя чыгуначнай магістралі Масква—Брэст. На маршруце Вязьма—Орша праходзіць эксплуатацыйныя выпрабаванні новы расійскі электравоз ЭП-200, які й будзе вазіць цягнікі з хуткасцю 200 кіламетраў у гадзіну.

## ІМПЛАНТАНТ ТЫДНЯ

Доўгі час пра "запчасткі" для чалавека гаварылася хіба што ў казках і кнігах фантастычных. Ды прагрэс развенчваў казкі і абганяў самую неверагодную фантазію. І "запчасткі" для чалавека — ужо даўно не навіна. Ёсць у гэтым уклад і беларускіх вучоных. Апошняе іх дасягненне — матэрыял, што атрымаў назву "Біясітал—ІІ". Гэты новы біяімплантант, блізкі па хімічным складзе да натуральнай касцявой тканкі, прапанавалі вучоныя Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага універсітэта. Яго з поспехам можна выкарыстоўваць для замены фрагментаў касцей, асабліва ў сківічна-тварнай хірургіі. Мо ўжо ў гэтым годзе "Біясітал-ІІ" дапаможа людзям, што будуць мець у ім патрэбу?

## ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ ТЫДНЯ

Гэтак можна назваць кнігу "Навука Беларусі ў ХХ стагоддзі", што выйшла ў выдавецтве "Беларуская навука". Над ёй цягам шасці гадоў працавалі 109 акадэмікаў, членаў-карэспандэнтаў і дактароў навук. У ёй сабраны матэрыял аб станаўленні і развіцці сістэмы арганізацыі навукі ў Беларусі за апошнія 100 гадоў, пададзены звесткі пра акадэмікаў, членаў-карэспандэнтаў, ганаровых і замежных членаў НАН і Акадэміі аграрных навук, пра вучоных, якія маюць званні герояў працы, заслужаных дзеячаў навукі, лаўрэатаў дзяржаўных прэмій, пра аўтараў навуковых адкрыццяў. А як сёння жыве беларуская навука? Пра гэта даведнік, на жаль, не гаворыць. Зрэшты, гэтага ад кнігі і патрабаваць, бадай, нельга, бо даведнік — гэта ўсяго толькі даведнік, хоць і энцыклапедычны.

## ЧЫНАВЕНСТВА ТЫДНЯ

Савет Міністраў Беларусі ўстанавіў колькасць работнікаў апаратаў міністэрстваў і іншых структур сістэмы органаў дзяржкіравання. Лічбы — цікавыя. Так, у апараце Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва павінна быць 149 супрацоўнікаў, жыллёва-камунальнай гаспадаркі — 55, аховы здароўя — 113, замежных спраў — 349, інфармацыі — 72, культуры — 95, адукацыі — 190, па падатках і зборах — 196, па надзвычайных сітуацыях — 148, прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя — 64, прамысловасці — 158, сувязі — 81, сельскай гаспадаркі і харчавання — 274, спорту і турызму — 74, статыстыкі і аналізу — 360, гандлю — 95, транспарту і камунікацый — 135, працы і сацыяльнай абароны — 320, фінансаў — 397, эканомікі — 485, энергетыкі — 55, юстыцыі — 131 чалавек. Многа гэта ці мала? Цяжка сказаць, пра гэта можна меркаваць хіба ў параўнанні з нечым. Здаецца ўсё ж, што — нямала, зважаючы на тое, што гэта — толькі склад апаратаў міністэрстваў і ведамстваў. Ад верху ж да нізу вунь колькі набярэцца чынавенства!.. І забяспечана яно досыць прыстойна, асабліва, калі мець на ўвазе, што дзяржава наша пакуль што вельмі і вельмі небагатая...

## АБМЕЖАВАННЕ ТЫДНЯ

Урад Польшчы ўвёў новыя абмежаванні на ўвоз у краіну гарэлкі і тытуню. З гэтага года той, хто захоча паехаць у Польшчу, можа ўзяць з сабой толькі адну бутэльку моцнага пітва і адзін пачак цыгарэт. Польшча зрабіла гэта дзеля абароны свайго ўнутранага рынку алкагольных і тытунёвых вырабаў. Аднак жа чым заменяць чаўночны бізнес на цыгарэтах і гарэлцы жыхары памежных з Польшчай заходніх раёнаў Беларусі? Салярка наўрад ці ўратуе ўсіх...

## РАДЫЁСЕТКА ТЫДНЯ

Зацверджана (калегіяй Белтэлерадыёкампаніі) новая сетка радыёвяшчання: удвая павялічаны аб'ём інфармацыйнага і ўтрая — аб'ём палітычнага вяшчання, пашырана і так званае інфармацыйна-аналітычнае вяшчанне (праграмы "Радыёфакт" і "Постфактум"), уведзены іншыя змены і карэктывы. Зроблена гэта па прыкладзе аналагічнай рэформы паўтара года назад на БТ, якое, дайце веры, нібыта набыло ў выніку новае аблічча, стала дынамічным і нармальна развіваецца. Рэформы — справа неблагая. Толькі ж чамусьці на БТ яна праведзена відавочна не на карысць беларускасці. Няўжо тое самае адбудзецца і на радыё?

## ВЫБАРЫ ТЫДНЯ

Тое, пра што гэтак доўга гаварылі і пісалі СМІ, адбылося. Уладзімір Ганчарык пакінуў пост старшыні Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай — ён абраны намеснікам старшыні Усеагульнай канфедэрацыі прафсаюзаў, якая аб'ядноўвае буйнейшыя прафарганізацыі ўсіх краін СНД. Новым кіраўніком ФПБ стаў Франц Вітко — былы першы намеснік У. Ганчарыка.

## ДАВЕДКА ТЫДНЯ

"Белтэлекам" завяршыла мантаж абсталявання Вузла спецслужбаў (ВСС) у Мінску. ВСС — спецыяльная аўтаматычная тэлефонная станцыя для арганізацыі сувязі абанентаў тэлефонных сетак з экстраннымі, даведачна-інфармацыйнымі і адказнымі спецслужбамі. На яе базе працуюць 39 даведачных службаў, у тым ліку экстраныя службы "01", "02", "03", "04", даведачныя службы Мінлегаўтатранса — "061", "081", Мінгарвыканкама — "065", "067" і аб'яднання "Белтэлекам" — "053", "064", "066", "07", "080". Новае абсталяванне дазволіць істотна палепшыць умовы работы ўсіх гэтых даведачна-інфармацыйных службаў. ПРынамсі, ніводзін званок абанента не будзе пакінуты без адказу.

ВІНШУЕМ!

# Асоба ў музыцы

Кароткае газетнае паведамленне: прэзідэнт краіны падпісаў указ аб узнагароджанні медалём Францішка Скарыны дэкана педагагічнага факультэта Беларускай акадэміі музыкі Леаніда Іванова. За гэтым фактам — яркае жыццё творчай асобы.

Педагагічны факультэт, як вядома, — своеасаблівая філія БАМ, месціцца ў Магілёве і лічыцца адносна маладой вышэйшай навучальнай установай. Аднак творчыя і педагагічныя дасягненні Леаніда Іванова звязаныя не толькі з яго працай на гэтым факультэце. Самаадданы спецыяліст, ён шмат зрабіў для развіцця беларускага музычнага мастацтва і як спрактыкаваны таленавіты педагог Магілёўскага музычнага вучылішча. Да таго ж, створаны Л. Івановым аркестр народных інструментаў са сціплага вучэбнага калектыву вырас у прафесійны, які сёння паспяхова працуе ў структуры абласной філармоніі. (Цыкл канцэртаў пад назвай "Рамансіяда" ў праграме "Залатога шлягера"—2001, напрыклад, прайшоў пад яго акампанемент.)

У Леаніда Леанідавіча багата вучняў, якія ўспамінаюць яго строгія ўрокі ды каштоўныя прафесійныя парады з вялікай удзячнасцю.

**Н. К.**

# Жанчына, якая дыктуе ўмовы



«Мінск. Тэатр імя Янкі Купалы. Віншую цудоўную, дзіўную, унікальную, чароўную, любую, ненаглядную, прамяністую, брыльянтавую Лілечку Давідовіч з юбілеем. Назаўсёды закаханы Барыс Эрын».

Сваёй тэлеграмай вядомы рэжысёр амаль не пакінуў эпітэтаў для ўсіх астатніх, хто выходзіў на сцэну Купалаўскага тэатра, каб павіншаваць народную артыстку Беларусі Лілію Міхайлаўну Давідовіч. А гэтакіх людзей было шмат. Тэлеграмы з лепшымі пажаданнямі даслалі Савет рэспублікі Нацыянальнага сходу краіны, Федэрацыя прафсаюзаў РБ, лаўрэатам прэміі якой з'яўляецца Лілія Міхайлаўна. Засведчыць павагу да зоркі першай велічыні прыйшлі прэзідэнт Беларускай канфедэрацыі творчых саюзаў І. Вашкевіч, старшыня Беларускага саюза мастакоў У. Басалыга, які ўручыў актрысе карціну з выявай яе роднага Нясвіжа, старшыня Саюза тэатральных дзеячаў, драматург А. Дудараў (лепшым падарункам для актрысы сталася роля каралевы Боны ў яго спектаклі «Чорная панна Нясвіжа»), дэкан тэатральнага факультэта Беларускай акадэміі мастацтваў У. Мішчанчук, драматург А. Дзялендзік, які «прыгразіў» актрысе складанай роляй у сваёй новай п'есе.

Сядзець у крэсле ды слухаць прыгожыя словы ў свой адрас — не ў характары Л.Давідовіч. Як сапраўдная актрыса, яна ў свой юбілей зноў працавала. Працавала для нас, гледачоў, у спектаклі «Умовы дыктуе жанчына» Э. Эліса і Р. Рыза. Яе гераіня Філіпа дзіўна спалучае ў сабе халодны разлік і незвычайную лірычнасць, якая ў рэшце рэшт перамагае. Філіпа — толькі адзін са шматлікіх, але непаўторных вобразаў, якія Лілія Міхайлаўна стварыла за чатыры дзесяцігоддзі працы ў тэатры і кіно, на радыё і тэлебачанні. Гледачы шасцідзесятых захапляліся яе Ганнай Чарнушкай у «Людзях на балоце» паводле І. Мележа. За выкананне гэтай ролі ў тэлевізійнай версіі твора актрыса была ўзнагароджана Дзяржаўнай прэміяй БССР. Сёння яе можна ўбачыць у спектаклях «Паўлінка» Я. Купалы, «Ажаніцца — не журыцца» братоў Далецкіх і М. Чарота, «Страсці па Аўдзею» У. Бутрамеева, «Піраміда Хеопса» Ю. Ломаўцава, «Ідылія» В. Дуніна-Марцінкевіча. Бясспрэчным поспехам стала апошняя роля Ліліі Міхайлаўны ў спектаклі «Чорная панна Нясвіжа» А. Дударава. Бона — Давідовіч перш за ўсё каралева, галоўны клопат якой — дабрабыт дзяржавы. Але разам з тым яна жанчына, маці, якая адважна абараняе свайго сына ад «ведзьмы дзікае Літвы», якой уяўляецца ёй Барбара. Ад сялянкі да каралевы — не кожнай актрысе шчасціць прайсці такі вялікі шлях у тэатры.

Лілія Давідовіч займае ў трупе Купалаўскага тэатра пачэснае месца. Яе аўтарытэт бясспрэчны, яе словам заўсёды даюць веры. Гэта жанчына, якая заўсёды дыктуе ўмовы — і ў жыцці, і на сцэне. Яна — светлы, моцны, шчыры чалавек і яркі талент. Са святам вас, Лілія Міхайлаўна!

**Юлія ПАЛАЧАНІНА**

# Гармонія Грома

Дзе Гром, там і навальніца. Не сустаршальная стыхія, а жыватворная з'ява, якая нясе свежасць і чысціню творчага абнаўлення. Пазнаёмцеся з Громам, услухайцеся ў яго! Вы адчуеце Мелодыю і Рытм, Гармонію і Тэмбр.Зразумееце, якая ж яна — сапраўдная, жывая, ненадуманая народная Музыка.

Гром — гэта той, хто з нябёсаў. Народжаны ў сутыкненні маланак. Калі пра гэта памятаеш, дык не задаеш пустых пытанняў: чаму ён, маўляў, такі "электрычны чалавек", "энергетычны", адкуль такая невылумачальная арганічнасць шматгранных праяў ягонага таленту, чым сілкуецца перпетуум мобіле яго невычэрпных ідэй, нескончоных спраў...

Гром — гэта...

Гэта — Уладзімір Мікалаевіч Гром, заслужаны работнік культуры Беларусі.Музыкант-мультыінструменталіст, майстар па адраджэнні ды вырабе амаль забытых народных, спаконвечных беларускіх інструментаў, знаўца ды аранжыроўшчык, творчы інтэрпрэтатар фальклору, педагог.

"Крупіцкія музыкі", знаны далёка за межамі Беларусі ансамбль, — самабытная мастацкая з'ява Міншчыны, выпеставаная палешуком Громам.

Беларуская дуда (не блытаць з дудкай!)... У даўнія часы дуды, прабацькаўшчына якіх — Персія, былі распаўсюджаныя на землях беларускіх мо нават шырэй за пазнейшыя нацыянальныя цымбалы — цымбалы ды гармонік. Яны маглі б сцвердзіцца ў якасці нашай музычнай візітоўкі, даўшы фору рытуальным шатландскім валынкам.Адна з першых адроджаных у 20-м стагоддзі беларускіх дудаў — справа рук чарадзея-Грома, які для вырабу пявучага "скуранога меха" ахвяраваў... модную жончыну спадніцу!

Рэпертуарныя зборнікі для фальклорных ансамбляў, для унікальных, мала распаўсюджаных сёння, але перспектыўных народных інструментаў — плён рупнасці Грома.

Тэматычныя заняткі творчай лабараторыі падчас фестывалю "Звіняць цымбалы і гармонік" у Паставах — захапляючыя, каларытныя, эстэтычна змястоўныя, відовішчныя, нібы музычны тэатр аднаго акцёра і "сам сабе рэжысёра" — гэта неацэнныя, жывыя, практычныя, прафесійны досвед і дар Грома.

Некалькі летаў таму разам з музыкамі-аднадумцамі ён стварыў ансамбль дудароў, які дэбютаваў у Паставах падчас фестывалю. (Асабліва эфектнай была праходка беларускіх музыкаў — Мікалая Сіраты, Аляксандра Крамко,Уладзіміра Грома, Віктара Кульпіна, Уладзіміра Бярберава ды іншых дудароў па ціхай зялёнай вуліцы мястэчка — з рытмічным каларытным "Шастаком"). І вось пры Беларускім універсітэце культуры воляю Грома нарадзіўся новы самабытны калектыў: "Гуды". І назва шматзначная, і дзейнасць шматгранная. У "Гудах" — некалькі унікальных інструментальных складаў: старажытныя драўляныя беларускія трубы, падобныя звонку да ўкраінскай трэмбіты; акарыны; дуды; дудачкі, жалейкі... Словам, цэлае сямейства народных духавых інструментаў! А сапраўдны бацька гэтага галасістага і досыць капрызлівага сямейства (не ў крыўду сказаць іншым таленавітым выканаўцам ды майстрам) — Гром!

Нядаўна ў Вялікай зале сталічнай філармоніі адбылася яго творчая вечарына. Уладзіміру Мікалаевічу споўнілася 50. Так што імпрэза прайшла як маляўнічае святкаванне "залатой" даты...

**С.БЕРАСЦЕНЬ**




*На здымку: дэбют ансамбля дудароў у Паставах.*
*Фота М.ЖЫЛІНСКАЙ*

# Уверх па лесвіцы Іакава...

Нядаўна доўга размаўляла з калегам, вядомым пісьменнікам, які ва ўсіх, як кажуць, на слыху.

Мне саюз ужо непатрэбны, — шчыра прызнаўся ён. — Што ад яго цяпер атрымаеш? А час такі, што трэба думаць пра сябе. Ды і мы гэтай краіне непатрэбныя. Ні я, ні ты. Ніхто з нас...

І безнадзейна махнуў рукой.

Я паспрабавала яго пераконваць. Нагадала, што калі фінансавую дапамогу нашы творцы атрымліваюць і сапраўды вельмі невялікую, то ўсё ж ёсць шмат іншых патрэб, якія хаця часам і незаўважныя, але ўсё ж патрэбныя ў нялёгкім пісьменніцкім жыцці. Нагадала, што нядаўна сам ён прыходзіў у саюз па даведку для кватэры (а без яе бралі б з яго лішнія грошы за дадатковыя метры), што мы пастаянна клапоцімся пра стыпендыі, гранты на выданне кніг, пра юбілеі пісьменнікаў, якія дапамагае адзначыць менавіта саюз (колькі б давялося плаціць толькі за арэнду залы!).І што, нарэшце, знікні СБП — што станецца з выданнямі, заснавальнікам якіх ён з'яўляецца — і яшчэ пра многае іншае. Ды вось жа прынялі толькі што новае папаўненне. Якія яны былі шчаслівыя! Колькі яны могуць зрабіць для беларускай справы!

А пасля той размовы адчувала доўгі час няёмкасць — гаварылі пра матэрыяльнае, а нічога, хаця мы маем справу са словам, не сказалі пра тое, што, магчыма, куды больш важны сёння для беларускіх пісьменнікаў духоўны асяродак, якім, нягледзячы ні на што, застаецца наша творчая арганізацыя.

Так, за апошнія гады адбылося шмат абразлівых , зневажальных дзеянняў, нібы наўмысна накіраваных на тое, каб штучна панізіць той высокі аўтарытэт, які заўсёды меў не толькі між творчых арганізацый, але і ў краіне наш Саюз пісьменнікаў.

Перш за ўсё гэта сама сённяшняя яго назва. Калі мноства грамадскіх арганізацый носяць назву — Беларускі (напрыклад, беларускі Саюз жанчын), то чаму мы — Саюз беларускіх пісьменнікаў? Хіба ёсць яшчэ адзін ці некалькі саюзаў пісьменнікаў? Татарскіх? Іспанскіх? Не. Лепшыя творцы краіны аб'яднаны менавіта ў гэтай арганізацыі.

Многім рэжа вока і слых нейкае чужое, непрыгожае скарочанае азначэнне ГА — грамадская арганізацыя, якая ўраўнівае які-небудзь саюз рыбаловаў, куды можа запісацца кожны, з творчым саюзам, у якім кожны чалавек — талент. А талент — рэдкасць, ён даецца нямногім, і звычайна лічыцца багаццем любой краіны.Не хачу зневажаць рыбакоў альбо аматараў піва (якія мелі нават сваю партыю), але ж розніца тут відавочная, і здавалася б, яе не трэба нікому тлумачыць. Але — прымусілі рэгістраваць арганізацыю менавіта так, і пратэсты нічога не далі. Не пакінеш жа арганізацыю незарэгістраванай....

Пратэсты пісьменнікаў, выходзіць, не адчувальныя для ўлады. А гэта — грозны сімптом. Нічога добрага ён не нясе ні для Саюза пісьменнікаў, ні для грамадства, ні для самой улады. Калі не прыслухоўваюцца да голасу пісьменнікаў — значыць, грамадства перакошанае ў бок непавагі да Слова, да культуры, да духоўнасці, прадстаўнікамі якіх у вялікай ступені з'яўляюцца творцы.

І сапраўды — на апошнім з'ездзе СБП шмат гаварылася пра тое, што з тэлевізійных праграм амаль зніклі літаратурныя перадачы, што пісьменніку месца на тэлебачанні проста няма. І што ж мы ўзамен бачым на экране? З раніцы да вечара — нізкапробныя, маламастацкія перадачы, драбнатэм'е. Такім густым правінцыялізмам патыхае ад пераважнай большасці перадач, што здаецца, нібыта стваральнікі іх з усяе сілы дэманструюць няздатнасць беларусаў да высокіх духоўных узлётаў, да няспыннай працы душы, якімі славіліся лепшыя творы нашай культуры.

Калегі-пісьменнікі, што некалькі год шчыруюць над разбурэннем г э т а г а Саюза беларускіх пісьменнікаў, перасталі тэлефанаваць са зласлівым пытаннем "Ну, як вы там, пасля таго, як м ы пазбавілі вас давольствія"? Мабыць, стаміліся чакаць, пакуль мы сыдзем з тых некалькіх пакояў, дзе размяшчаецца цяпер наша творчая арганізацыя і куды яны хацелі б увайсці на правах наваствoранага імі тайнага пакуль для ўсіх астатніх органа.

Што ж, яны сапраўды таго-сяго дабіліся — без аніякіх тлумачэнняў вось ужо на сем месяцаў перапынілася сціплае фінансаванне Саюза пісьменнікаў, асабліва неабходнае таму, што Дом літаратара, які перад з'ездам цвёрда абяцаў нам вярнуць віцэ-прэм'ер М. Дзямчук, усё яшчэ не вернуты, а грошы ад яго арэнды кормяць, як вядома, не пісьменнікаў. Гэты год пачынаецца з судовай цяганіны — замест таго каб траціць сілы на ўмацаванне нашай арганізацыі, чые трохгадовай даўнасці даўгі мы толькі-толькі выплацілі, мы падаём у суд на Міністэрства фінансаў. Здавалася, вось ужо пачыналася тое, дзеля чаго мы прыйшлі ў кіраўніцтва, — палёгка цяжкага пісьменніцкага жыцця, дапамога, стыпендыі на творчыя праекты. Ажно не! Пакуль мы працавалі, як кажуць, не паднімаючы галавы, нашыя "дабрадзеі" шчыравалі ў іншым кірунку.

З'езд не апраўдаў іхніх чаканняў — выбралі не тых, а з будучай рады выкінулі якраз тых, каго выкідалі як даўней, так і цяпер. А ім жа так хочацца прызнання! Хочацца прэмій і званняў, на шляху да якіх усё яшчэ стаіць г э т ы саюз.

Гэты — які прызнае толькі сапраўдныя таленты, а не тых, хто лічыць, што настаў іхні час і можна пралезці ў лаўрэаты, нягледзячы на адсутнасць сапраўднага таленту. Хто гатовы дзеля салодкага жыцця запрадаць і незалежнасць краіны, і ўсялякія гэтыя "дэмакратычныя штучкі", накшталт свабоды творчасці і права на ўласную думку. Хто заклікае пяяць толькі панегірыкі ўладзе, падпяваючы ўсяму, што яна ні зробіць — нават калі па касцях ахвяр сталінізму тая правядзе дарогу "да светлага будучага", не ведаючы, што нічога не знікае бясследна, асабліва ж пакуты нявінных... А што панегірыкі бяздарныя — хто ж сёння будзе разбірацца, наколькі графаманскі твор напісаў NN у нястрымным параксізме халуйства?

Толькі г э т ы саюз.

І таму — ату яго!

З вялікай трывогай сачу за ўсімі спробамі вось такога наўмыснага разбурэння нашай творчай суполкі. Таксама, здаецца, і ненаўмыснага, проста бяздумна-амбіцыёзнага. За апошнія гады вырасла цэлае маладое пакаленне, якому сцвярджалі розныя "настаўнікі", што Саюз пісьменнікаў — сталінская, састарэлая арганізацыя, што яе трэба замяніць. Маўляў, там адны бездары, паслужлівыя халуі былой камуністычнай улады. Называліся імёны — з малой літары: розныя панчанкі, макаёнкі. Цвяліліся з класікаў, скакалі па нябожчыках, некаторыя з якіх прайшлі і праз сталінскія лагеры.

Але апошняе дзесяцігоддзе паказала — пакуль што ў вельмі мадэрновых, вельмі рашучых гэтых "нізвяргальнікаў" няма не толькі значных, але і проста цікавых м а с т а ц к і х твораў, якія б захапілі чытача. А без чытача чаго вартыя ўсе высілкі? Пісаць адзін для аднаго і цешыць уласнае самалюбства, аб'яўляючы сябе геніямі — можна. А напісаць вершы, якія пішуць, напрыклад, самыя маладыя сябры саюза Янка Лайкоў альбо Ірына Дарафейчук, Валерыя Кустава ці Віктар Жыбуль, Вольга Базылёва ці Лера Сом — усе тыя, хто так ці інакш групуецца вакол Саюза пісьменнікаў — гэта зусім іншае...

Ва ўсе часы пісьменнікаў трымала перш за ўсё таленавітае Слова. Але сёння трэба гаварыць пра тое, што бязмерна ўзрасла адказнасць за яго.

Сёння час цяжкай, чарнавой працы — па ўмацаванні нашых выданняў, па ўзняцці іхняга ўзроўню, бо ідзе бязлітасная барацьба за чытача, а ягонае кола ўсё меншае, таму што катастрафічна скарачаецца колькасць беларускіх школ. Беларускаму Слову трэба выстойваць ва ўмовах неспрыяльных, нялітасцівых да яго. І таму асноўны ўдар прыходзіцца на пісьменнікаў.

Ці гатовыя мы выстойваць? Ці гатовыя мы бачыць свой саюз не як даёнку, а як духоўны асяродак, на які ўсё яшчэ раўняецца грамадства, у якім — усё яшчэ! — шукае духоўныя арыенціры і ад якога немінуча адвернецца, калі мы і далей будзем публічна наладжваць "разборкі палётаў", тапіць адзін аднаго ў брудзе і знявагах, калі мы ва ўласных выданнях будзем сцвярджаць, што літаратуры сёння няма, за выключэннем адзінак ?

А між тым варта ўзяць у рукі "Полымя" і "Маладосць", "Лім" і "Нёман" — літаратурны працэс працягваецца, і ў самых глухіх куточках Беларусі чытаюць нашы вершы , прозу і артыкулы. Так, сёння не час Літаратуры, але яна — ёсць!

Большасць пісьменнікаў пачынае разумець, што, толькі трымаючыся разам, працуючы не толькі на сябе асабіста, а на ўсіх дзеля ўсіх, мы здольныя ўздымаць наш агульны аўтарытэт, ствараць "ахоўны парасон" не толькі над сваім прафесійным саюзам, але і над народам, дзеля якога мы працуем.

Мы працуем над тым, каб ён не застаўся без роднай, тысячагоддзямі выпрацаванай ім жа мовы.

Мы працуем над тым, каб ён успомніў сваіх сыноў і дачок, што духоўнымі высілкамі ўздымалі яго да зорак.

Мы працуем, каб ён не растварыўся ў іншых народах, колькасна большых і спрытнейшых.

І забраць гэта ў нас могуць толькі тады, калі мы самі паддамося.

Правакацыям ці ўласным амбіцыям, калі крыўда ці непрыязнасць засцілае вочы, і мы не здольныя забыцца на іх і цвяроза ўбачыць, што калега, які непрыемны нам асабіста, усё роўна патэнцыяльны саюзнік, таму што ён, як і мы, працуе на Беларусь .

Самасці — можа, самаму страшнаму граху, калі здаецца, што навакольныя недадалі ўвагі і павагі, не зразумелі нашае геніяльнасці. Тады замест светлага імпульсу дабрыні і азоранасці пісьменнік генерыруе чорную, страшную энергію разбурэння...

Зайздрасці — калі не хочам верыць Лёсу, які раздае свае дарункі не пытаючыся ў нас. І яшчэ многаму, што атручвае самыя чыстыя памкненні і няўмольна згінае, спускае ўніз па той славутай "лесвіцы Іакава", па якой ідзе сталенне Душы і якая вызначаная на славутай іконе "Неапалімая Купіна" побач з Багародзіцай. Жанчынай, якая нарадзіла Хрыста і тым дала свету новае светаадчуванне , галоўнае ў якім пачуццё ахвярнасці за іншых, стварэнне новай этыкі чалавецтва.

Беларусь нездарма ў многіх паэтычных творах называецца таксама Маці ("Маці родная, маці — краіна, чым суцішыцца гэтакі боль?"), а мы адчуваем сябе ейнымі дзецьмі. Як напісаў Васіль Зуёнак, сярод нас ёсць "адраджэнцы і адрачэнцы". Дык хто кожны з нас?

Думаецца, што напярэдадні светлага свята Раства Хрыстова ўсім нам варта яшчэ раз падумаць аб гэтых простых і вечных ісцінах.

**Вольга ІПАТАВА,**
**старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў**

АБСЯГІ

*МАГІЛЁЎШЧЫНА...*

## Аб'яднанне святкуе юбілей

Сёлета святкуе юбілей народнае аб'яднанне "Мастацтва", якое дзейнічае пры Горацкім гісторыка-этнаграфічным музеі. Заснавана аб'яднанне дзесяць гадоў таму. А кіруюць ім Валянціна Белавусава і Таццяна Драздова. Сябры аб'яднання — людзі розных прафесій, знітаваныя любоўю да мастацтва. Яны ладзяць выставы, падтрымліваюць культурніцкія стасункі з магілёўскімі музеямі: краязнаўчым і мастацкім, а таксама з Краснапольскім, Шклоўскім краязнаўчымі і Нацыянальным мастацкім музеем у Мінску. Зараз "Мастацтва" рыхтуе ў Магілёве выставу работ жывапісца Алега Баравікова. Пяць год таму аб'яднанне выпусціла каталог, у які ўвайшлі звесткі аб мастаках і майстрах дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Сёлета мяркуецца выдаць удасканалены яго варыянт, кнігі па этнаграфіі, метадычныя брашуры па каляндарна-абрадавай творчасці.

**Лідзія МАХІНА**

*ВІЦЕБШЧЫНА...*

## Святло роднай песні

Фальклорны ансамбль "Весялухі" стаў, можна сказаць, візітоўкай гарпасёлка Коханава Талачынскага раёна. Амаль дваццаць гадоў дораць самадзейныя артысты сваё мастацтва людзям. Калі спяваюць — радуюцца душа і сэрца, поўняцца святлом роднай беларускай песні. А асабліва галасістая — кіраўнік калектыву Кацярына Варанко.

У 1988 годзе коханаўскім "Весялухам" прысвоена ганаровае званне народнага калектыву. Яны выступалі ў Маскве, Пецярбургу, Польшчы, у многіх гарадах і мястэчках Беларусі, з'яўляюцца неаднаразовымі дыпламантамі разнастайных фестываляў народнай творчасці. Зараз артысты выступаюць з навагодняй святочнай праграмай.

**Алесь МАЗУР**

*БРЭСТЧЫНА...*

## Змене — шырокую дарогу

Нядаўна ў абласным цэнтры адкрылася выстава маладых мастакоў Берасцейшчыны. Студыя маладых была створана летась, у ёй — 9 жывапісцаў. Але на выставе экспануюцца работы 26 аўтараў. Гэта ледзь не палова з агульнай колькасці сябраў абласной арганізацыі Саюза мастакоў. Сапраўдная змена. Не толькі колькасная, але й якасная. Як адзначыў на адкрыцці выставы старэйшына берасцейскага жывапісу Пятро Данелія, уражвае, што кожны з аўтараў — розны, кожны шчыра імкнецца да сапраўднага мастацтва. У экспазіцыі годна прадстаўлены жывапіс, графіка, кераміка, скульптура ў дрэве і метале. Творчы дыяпазон маладых майстроў надта шырокі: ад рэалістычнага, традыцыйнага народнага беларускага мастацтва да "супермадэрнізму". Старшыня абласной мастакоўскай арганізацыі Міхаіл Канькоў падкрэсліў, што аналагічныя выставы стануць традыцыйнымі, а дарога для маладых заўжды будзе адкрытая.

## Чарговае пасяджэнне

Апошняе леташняе пасяджэнне абласнога літаратурнага аб'яднання "Зараніца" (кіраўнік — празаік, выкладчык мясцовага дзяржуніверсітэта Мікола Сянкевіч) прайшло ў Брэсцкай гарадской бібліятэцы з актыўным удзелам чытачоў. Гаворка ішла пра новыя кнігі, найперш — маладых аўтараў, якія надрукаваліся летась, пра штомесячныя літаратурныя старонкі ў абласной газеце, сустрэчы з украінскімі пісьменнікамі. Гучалі вершы аўтараў, якія ўпершыню прыйшлі на пасяджэнне. Са сваімі новымі песнямі на вершы берасцейцаў пазнаёміла самадзейны кампазітар і спявачка Галіна Гедзік.

## "Жывая зямля"

Зусім нядаўна на паліцах кнігарань Берасцейшчыны з'явілася кніжка настаўніка, краязнаўцы і пісьменніка Аляксея Філатава "Жывая зямля". У ёй — лірычныя і гумарыстычныя мініяцюры, напісаныя аўтарам на працягу ягонага жыцця. Гэта ўжо восьмая кніжка берасцейскага празаіка, якога не песціла жыццё (Філатаў быў вязнем фашысцкага канцлагера) і які зараз поўны аптымізму і новых творчых задум. Прэзентацыя кнігі адбылася на сустрэчы з былымі малалетнімі вязнямі, прысвечанай 10-годдзю ўтварэння Берасцейскай абласной арганізацыі былых ахвяр фашызму.

**Сымон АКСЕНІН**

*ГОМЕЛЬШЧЫНА...*

## Прайшоў мастак праз вайну



Тэма Вялікай Айчыннай заняла цэнтральнае месца ў творчасці былога франтавіка, вядомага гомельскага жывапісца Мікалая Палянкова. Вучыўся ён у Віцебскай мастацкай вучэльні. Адсюль пайшоў на фронт. У жорсткіх баях пад Ржэвам цудам застаўся жывым — гарэў у танку. Дайшоў да Чэхаславакіі, дзе і сустрэў Перамогу. З вайны не вярнуліся многія выкладчыкі і студэнты вучэльні. У іх памяць Мікалай Сцяпанавіч напісаў карціну-рэквіем.

Вялікім зместам напоўнены твор "Бярозавік". У цэнтры палатна партызанкі і бярозы. Жанчыны частуюцца сокам роднай зямлі. Хутка вясна, хутка перамога! Рэпрадукцыі гэтай карціны змешчаны ў многіх выданнях. Яе ўключыў у сваю аўтабіяграфічную кнігу "Жыццё і творчасць" народны пісьменнік Беларусі І. Шамякін...

Творы мастака ацэнены па заслугах. Яны экспануюцца ў розных музеях, у тым ліку і ў Нацыянальным мастацкім.

Мікалаю Палянкову споўнілася днямі 80 гадоў.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

*На здымку: гомельскі жывапісец М. Палянкоў.*

*МІНШЧЫНА...*

## Ёсць на Клеччыне Парнас

Паэт Алег Нікулін жыве і творыць у вёсцы Гурнаўшчына, што на Клеччыне. Друкаваўся ў часопісах "Першацвет", "Маладосць" ды іншых выданнях. А зусім нядаўна ў якасці галоўнага рэдактара выдаў першы нумар часопіса маладых літаратараў Клецкага раёна "Вольны Парнас". У ім — навіны, публіцыстыка, літаратурныя творы, у тым ліку і самога Алега Нікуліна. Для цікаўных мае рацыю паведаміць рэдакцыйны адрас:

222641, в. Гурнаўшчына Клецкага раёна Мінскай вобласці, вул. Школьная, д. 34, тэлефон 4-16-95.

**Міхась МАЛІНОЎСКІ**

## *Новыя фарбы спрадвечнай зямлі*

**Дзіўная рэч — займеўшы за сваю нацыянальную гісторыю колькі літаратурных геніяў, і маючы сёння столькі вялікіх, выдатных, вядомых і проста таленавітых паэтаў і пісьменнікаў, мы ўсё чакаем з'яўлення свайго адзінага, існага Паэта і Прарока, які СКАЖА і — ЗБУДЗЕЦЦА... Так, так, збудзецца якраз тое — мройліва-запаветнае, аднойчы-магчымае...**

**Гэта як чаканне зямнога адкрыцця Ісуса Хрыста. Але ж, не забудзьма, што павінна папярэднічаць гэткаму ўсенароднаму святу — Апакаліпсіс...**

**Нешта блізкае да таго, апісанага Янам Багасловам у сваім "Адкрыцці", мы сёння ўжо маем: радыяцыйны Чарнобыль, нацыянальны і духоўны заняпад, уладнае цемрашальства і рабскае ідалапакланенне...**

**Ды, па ўсім відаць, гэтага недастаткова, каб усвядоміць, адпакутаваць і ачысціцца...**

**Але ўсё адно над кожным паэтычным дэбютам у друку, над кожным новым вершаваным зборнікам схіляешся з непераадольным душэўным трымценнем і з неспатольным спадзевам на тое самае АДКРЫЦЦЁ...**

**Так праз пошту атрымаў я новую кніжку вершаў Венанцы Бутрыма "У БАРВАХ ЗЯМЛІ". Аўтар — мастак з Баранавічаў. Чалавек з дастатковым і няпростым жыццёвым вопытам. Паэтычны "першынец" мастака пабачыў свет пад цёплым дахам грамадскай арганізацыі "Творчага згуртавання "Святліца", якім, не шкадуючы сваіх сіл і здароўя, апякуецца спадар Алесь Бакач. Паболей бы ў нашай Айчыне такіх самаадданых і заангажаваных нацыянальнай ідэяй нескароных патрыётаў.**

**Адрэдагавала ж кніжку наша выдатная паэтка Данута Бічэль, хоць баранавіцкія аўтары не ўваходзяць у яе гарадзенскую "парафію", а — у берасцейскую, прыналежную па тэрытарыяльна-адміністрацыйным падзеле да "юрысдыкцыі" абласнога літсакратара СБП Алеся Каско... Але ж хіба можа быць абмежаванай сапраўдная паэзія?!**

**Цяпер — што да самой кніжкі: да нутра, душы і "ўдзьмутага" ў яе творчага духу. (Прашу толькі прабачыць і дадаць, можа, недарэчны тут "празаізм": кніжка, як для правінцыйнага выдання, мае даволі прыстойны выгляд, 90 старонак добрага друку на адмысловай паперы, 200 асобнікаў накладу і гожае аўтарскае афармленне.)**

**Але будзем шчырымі, нават апускаючы сябе з высокага неба на грэшную зямлю, як наш аўтар у вызначэнні сваіх вершаў:**

*Яшчэ не песні — адгалоскі іх,*
*настройка струнаў...*
*Яшчэ не колер ўзноўленай палітры —*
а успамін...

**Венанцы Бутрым (якое імя і прозвішча! — нацыянальнае, паэтычнае, з асацыятыўнай алітэрацыяй да блізка-зямляцкага — усяго 5 км да Крошына! — міфалагізаванага класіка Паўлюка Багрыма) па сваёй адпрыроднай сутнасці — лірык. Адсюль — наскрозь мастацкі выпакутаваны погляд на свет... Каб не быць галаслоўным працытую колькі яго вершаваных строфаў, адначасна зазначыўшы, што ўсё ж цэльнай завершанай паэтычнай карціны дамагаецца ён, на жаль, не заўсёды. Але ўжо калі такое здараецца, то непадробнае паэтычнае майстэрства яго паўстае перад чытачом ва ўсёй сваёй выбітной завершанасці. Як вось гэтае васьмірадковае таемна-трапяткое дзіва:**

*Прылятала прыцемкам птушка,*
*а якая — ніхто не пазнаў.*
*Вецер нават лістка не кранаў,*
*сарамліва галінкай не гушкаў,*
*зухаватасць, сумеўшыся, траціў,*
*як на дрэва садзілася тое...*
*Пер'е мела яна залатое*
*і блакітныя вочы дзіцяці.*

**Таму-сяму можа падацца, што пры нашых сённяшніх грамадска-палітычных варунках вершы Венанцы Бутрыма недастаткова цвёрдыя і ўпэўненыя (як таго хацеў некалі, скажам, Максім Багдановіч: "трэба з сталі каваць, гартаваць гібкі верш" — што між іншым не зусім дастасоўвалася да яго іміджу паэта "чыстай красы"), затое ў радках Венанцы Бутрыма пульсуе бунтарная кроў і параненай птушкай б'ецца жывое пачуццё смяротнага зямнога чалавека. Працытую адзін з вершаў цалкам.**

*Флёксаў купіны тлеюць. А змрок*
*акрыяў, загусцеў, ападае.*
*Да акорда акорд — і вянок,*
*што не вяне і квет не губляе.*
*І цямней, і цямней. І пара*
*на дабранач сказаць тыя словы,*
*каб спакойна заснула трава,*
*і дзіванны схілілі галовы.*
*Нібы голас дзяцінства — ледзь чутны,*
*нібы пах несабранага мёду!*
*І зліліся хараллам магутным*
*дні: калыскі, жніва, адыходу...*
*Прыйдзе час — ўсё патоне ў начы.*
*Данясці. Не згубіць. Зберагчы.*

**Дай нам Божа гэтае (астатняе) спраўдзіць... А што тычыцца няспраўджанага нашым паэтам, то хто з нас дасканалы ў такой творчай дзеі, як паэзія? Рамеснікі мы — нават перад жывымі класікамі, але, хоць і не святыя, а ўсё ж гаршкі свае лепім... І верым, што адзін з наступных "выйдзе на славу".**

*Каб нехта ўбачыў — слаўны міг удачы! —*
*не слотай змучаны, здранцвелы лог,*
*а рай зямны для ўсіх — і не інакай! —*
*ступіўшы там, дзе я прайсці не змог.*

**Такі ён, Венанцы Бутрым. Самаадданы, незайздрослівы, няспешны і майстравіты "прыгонны" беларускай паэзіі (здаецца, метафорыка барадулінская). І чым больш будзе такіх "прыгонных", тым вальней будзе ў нашай Айчыне жыць, тварыць і "родным словам спавядацца"...**

**ЛеГал**

# Агмень беларускасці

Каб адчуць яго сонечнае ўздзеянне, раю заглянуць у 571 аўдыторыю галоўнага корпуса Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя Максіма Танка. І душа вашая, пазбавіўшыся гарадскога тлуму, ажыве і суцішыцца ў радасным узрушэнні ад судакранання з родным, дарагім і любым, што раней можна было ўбачыць у кожнай прыстойнай беларускай сям'і, у святочна-кірмашовых строях нашых адухоўлена прыгожых дзяўчат, маладзіц і бабулек. Дый тое, што прызначалася на побытавыя патрэбы, дзеля нялёгкай сялянскай працы, рабілася не абы з рук, а дыхтоўна і дбайна.

Пра гэта вы ўпэўніцеся ў названай вышэй аўдыторыі, — якой апякуецца кафедра тэорыі і гісторыі культуры.

Кафедра перасягнула нядаўна свой дзесяцігадовы рубеж, а аўдыторыі ад пачатку свайго, скажам так, адухаўлення — пяцігадовы. Узначальвае выкладчыцка-навуковы калектыў доктар навук, прафесар, пісьменнік і проста разумны і таленавіты чалавек Аляксей Рагуля.

Добра вядома ў навуковым і літаратурным асяроддзі імя Уладзіміра Васілевіча. Асабліва значны плён ім сабраны на ніве беларускай народнай творчасці. Чаго варты трохтомны фальклорны збор, які адразу ж знік пасля выхаду. Уладзіміру Аляксандравічу належыць ідэя і першынство і ў аздабленні той самай аўдыторыі, своеасаблівага музея, у якім багата прадстаўлены па рэгіёнах беларускае народнае ткацтва, вышыўка, разнастайныя прадметы побыту. І за гэты неацэнны скарб нікому не заплачана і капейкі. Усё адбылося на энтузіязме і нястомнасці найперш самога завадатара, а потым тых, каго ён натхніў сваёй высакароднай задумай. Гэта вясковыя людзі, да якіх штолета прыязджаў са студэнтамі запісваць песні, замовы і абрады. А заадно распытвалі пра рэчы матэрыяльнай культуры. Бо ці ж невядома, што многае ў вачах вяскоўцаў страціла сваю былую каштоўнасць і пыліцца ў старых скрынях і куфрах, а то і проста ў закутках на гарышчы. Яны, пачуўшы, што ўсё гэта, хораша падноўленае і пачышчанае, пачне зноў у пашанотным месцы радаваць чалавечае вока, аддавалі.

Ананімных дарункаў у гэтай захавальніцы народных скарбаў няма. Калі ты нават прынёс сюды такую малапрыкметную рэч, як верацяно, усё адно тваё прозвішча будзе занесена ў агульны спіс ахвярадаўцаў. А на саміх рэчах ёсць пазнакі, адкуль і ад каго яны паходзяць. Але найбольш поўную характарыстыку можна прачытаць у адмысловай кнізе, якая захоўваецца тут жа ў аўдыторыі, у шафе.

Мяркую, ніхто не будзе аспрэчваць, што заняткі ў такой аўдыторыі праходзяць зусім на іншым эмацыянальным узроўні, чым там, дзе вочы ўпіраюцца ў шэрыя, абшарпаныя сцены, падлогу і столь. Незалежна ад таго, які прадмет тут выкладаецца. Хачу адзначыць цікавую асаблівасць навучання ў гэтай вучэльні, што носіць імя славутага беларускага паэта, шчырага патрыёта роднага краю Максіма Танка. Рэктарам БДПУ працуе Леанід Нікановіч Ціханаў, па нараджэнні чалавек рускі, што зусім не замінае яму быць патрыётам Беларусі, глыбока разумець праблемы нацыянальнай адукацыі.

Зыходзячы з таго, што на Беларусі цяпер пераважае руская школа, выпускнікі якой недасканала ведаюць родную беларускую мову, у педуніверсітэце навучаюцца і набываюць дзве спецыяльнасці, у выніку чаго выходзяць адсюль настаўнікі, што маюць права побач з асноўнай спецыяльнасцю, скажам, геаграфіяй альбо сацыяльнай псіхалогіяй, выкладаць і беларускую мову. Ды найбольш істотна, што пры такім навучанні ва універсітэце яны авалодваюць роднай мовай так, каб можна было на ёй свабодна і нязмушана весці свой асноўны прадмет.

Кафедра, якую ўзначальвае Аляксей Рагуля, забяспечвае выкладанне такіх дысцыплін, як айчынная і сусветная культура, фальклор і этнаграфія. Апрача гэтага, супрацоўнікі часта выступаюць ініцыятарамі розных сустрэч, у тым ліку і з беларускімі пісьменнікамі. Так, зусім нядаўна на высокім эмацыянальным і інтэлектуальным узроўні зладзіліся вечарыны з Нілам Гілевічам і Генадзем Бураўкіным. Не кажу пра тое, як гэтыя майстры слова ўмеюць валодаць аўдыторыяй, бо гэта агульнавядома і ў гэтым не адзін раз пераконваліся чытачы-слухачы на сустрэчах з імі. Але не менш узрушвае і само ўспрыманне моладдзю іх вершаў, а таксама адказаў на вусныя і пісьмовыя пытанні. У такіх спатканнях з Генадзем Бураўкіным мне як выдаўцу яго-





най кнігі паэзіі "Паміж зоркай і свечкай" даводзілася браць удзел дзесяткі разоў. І не ведаю выпадку, каб хоць раз аўтар на якім пытанні "пракалоўся", каб ягоны адказ быў недастаткова аргументаваным, ухілістым і пакінуў аўдыторыю на пэўны час расчараванай. А пытанні, якія задавалі яму ў сценах і медычнай акадэміі, і тэхналагічнага універсітэта, і тут, у танкаўскім, вельмі няпростыя, яны сведчаць аб нараджэнні новага пакалення беларусаў з высокім узроўнем нацыянальнай свядомасці, культуры ўвогуле, глыбокага разумення становішча, у якім цяпер знаходзіцца народ і дзяржава.

Праз дзень пасля сустрэчы з Г. Бураўкіным у сценах той жа аўдыторыі меркавалася правядзенне кафедрай тэорыі і гісторыі культуры навукова-практычнай канферэнцыі "Традыцыйная народная культура і сучаснасць", куды я і атрымаў запрашэнне. І прыйшоўшы, не пашкадаваў. Хоць, скажу шчыра, у мяне на мерапрыемствы такога кшталту выпрацавалася алергія яшчэ падчас працы навуковым супрацоўнікам у акадэмічным інстытуце літаратуры. Бо даводзілася і проста выседжваць ці па абавязку службы, ці з увагі на выступоўцаў, а то і дзеля фармальнага запаўнення аўдыторыі ў незайздроснай ролі статыста. А тут было цікава ад самага пачатку.

Асноўным дакладчыкам быў Аляксей Рагуля. Асабліва парадавала ў яго выступе здольнасць бачыць сваю нацыянальную культуру ў сусветным культуралагічным кантэксце, у святле найноўшых тэорый і тэндэнцый.

Свежа гучалі на пленарным пасяджэнні і зацікаўлена ўспрымаліся аўдыторыяй, дзе пераважалі студэнты-старшакурснікі, выступленні выкладчыка БДУ Т. Навагродскага "Праблемы і задачы беларускай этналогіі", супрацоўніка Інстытута філасофіі НАН Беларусі С. Санько "Традыцыя і дэканструкцыя", выкладчыкаў БДПУ імя М. Танка І. Вуглік "Традыцыйная культура і псіхатэрапія" і Н. Здановіч "Фарміраванне традыцый вытворчасці дымленай і глянцаванай керамікі на Беларусі".

А па абедзе працавалі дзве секцыі: "Актуальныя праблемы фалькларыстыкі і этнаграфіі" і "Фальклорныя традыцыі ў гісторыка-культурным працэсе", якімі кіравалі В. Сухая і згаданы А. Рагуля.

Апрача гэтага, у перапынку нас усіх парадавалі беларускія народныя песні ў набліжаным да аўтэнтычнасці выкананні. Зладжана і хораша спявалі студэнткі Алеся Белая і Аліна Дзямешка, якія арганічна засвоілі выканальніцкую манеру народных спявачак. Зусім верагодна, што дзяўчаты ўліюцца ў фальклорны гурт "Гуда", што існуе пры кафедры гісторыі і тэорыі культуры, спявачкі якога — Вольга Карпцова і Вікторыя Міхно хораша выявілі ўменне выконваць беларускі спеў у яго праўдзівай народнай манеры. А вось Наталля Байдзіна — сапраўдная прафесійная артыстка, выкананне якой вызначаецца яркай адметнасцю, здольнасцю перажываць і перадаваць у народнай песні тыя непрыдуманыя, найчасцей тужліва-роспачныя пачуцці, тую душэўную перажывальнасць і шчырасць, якія былі ўласцівы тым, хто ствараў песню не дзеля забаўкі, а тым больш не дзеля заробку, а жыў у слове і мелодыі, выяўляў боль, скруху, а часамі і радасць, якімі поўніліся душы простых у паводзінах, але духоўна багатых беларускіх жанчын. Дык няўжо пад наступам так званай папсы ўсё гэта знікне і назаўсёды забудзецца?!. Каб засцерагчыся ад такой бяды, і робяць усё ад іх залежнае супрацоўнікі кафедры пад кіраўніцтвам А. Рагулі. Наталля Байдзіна выкладае тут вусную народную творчасць і беларускую культуру, а дасюль спявала ў вядомым гурце "Агмень", які разам са сваім арганізатарам і кіраўніком, вядомым музыкам і кампазітарам Алесем Рашчынскім аб'ехаў, маючы бясспрэчны поспех, шмат краін.

Цікава ў жыцці бывае: пасля канферэнцыі я зайшоў у майстэрню да свайго земляка і сябра Кастуся Качана. Пачаў расказваць пра толькі што вынесеныя з педуніверсітэта ўражанні.

— Дык я ж іх ведаю! — радасна ўсклікнуў Кастусь і дастаў з паліцы ладны стос папер. Як вывілася, гэта былі рэцэнзіі-ўражанні студэнтаў другога курса музычна-педагагічнага факультэта, напісаныя імі пасля наведвання майстэрні, куды іх прыводзіла толькі што згаданая Наталля Байдзіна.

Далучаць маладое пакаленне да прыгажосці і дабрыні, да глыбінных каранёў сваёй нацыянальнай культуры, своеасаблівасць і багацце якой па-сапраўднаму можна адчуць толькі ў абсяжным сусветным кантэксце — хіба гэта не высакародная мэта, якой ахвярна слугуе калектыў, што адзначыў сваё дзесяцігоддзе. Няхай ім шчасціць на сонечнай дарозе ў будучыню.

**Яўген ЛЕЦКА**
*Фота А. КАЛЯДЫ*

УРАЖАННЕ

# Літаратурная Лагойшчына

Назва, вынесеная ў загаловак, гэта не даследаванне, не гістарычны нарыс, а літаратурны музей, які дзейнічае ў СШ № 1 горада Лагойска. Даведаўся я пра яго, калі з земляком Міхасём Зарэмбам як былыя вучні гэтай школы прыязджалі туды па запрашэнні дырэктара Мечыслава Пятровіча Грузда з нагоды юбілею майго калегі і сябра. Сустрэча з вучнямі і настаўнікамі прайшла вельмі добра, уцешна было слухаць з вуснаў дзяцей, як яны чысцюткай беларускай мовай распавядаюць пра жыццёвы і творчы шлях пісьменніка, чытаюць яго творы, дзеляцца ўражаннямі ад прачытанага.

На той сустрэчы са школьнікамі і даведаўся пра музей. Захацелася паглядзець, пазнаёміцца з яго ўладкаваннем, экспазіцыяй, таму і звярнуўся да захавальніцы і арганізатара музея, настаўніцы роднай мовы і літаратуры Веры Рыгораўны Саўрыцкай.

Цікаўлюся: калі і з чаго пачынаўся музей? Вера Рыгораўна прыйшла ў Лагойскую СШ № 1 з Гайнаўскай, дзе працавала шмат гадоў. Прыйшла невыпадкова. Яе перавяла сюды загадчыца райана В. Гатоўка. "Перавяла з умовай, — прызнаецца Вера Рыгораўна, — што я ствару ў школе музей. А ёй гэту ідэю падкінуў, відаць, Віктар Антонавіч Несцяровіч. Ён некалі працаваў настаўнікам, пасля журналістам у нашай раённай газеце "Ленінскі сцяг", збіраў і збірае фальклор, народныя песні Лагойшчыны... Гэта яго ідэя".

Веры Рыгораўне, чалавеку энергічнаму, з арганізатарскімі здольнасцямі, ідэя была па душы, і яна адразу ўзялася за яе ажыццяўленне. Пачала з кансультацый са спецыялістамі Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы, а потым ужо збірала матэрыялы для экспазіцыі. Гэта было ў пачатку 80-х.

Вера Рыгораўна завяла мяне ў памяшканне музея і вымушана была ісці праводзіць урок, а я застаўся знаёміцца з экспазіцыяй.

Першы стэнд знаёміць з выдатнымі гістарычнымі асобамі, лёс якіх звязаны з гэтай зямлёй.

Найперш гэта прадстаўнікі магнацкага роду Тышкевічаў, які асталяваўся тут яшчэ ў XVI стагоддзі, набыўшы ў сваю ўласнасць Лагожаск з наваколлем. Пра графаў Тышкевічаў у БелСЭ напісана, што яны былі "жорсткімі прыгнятальнікамі бел., укр., літ. і польск. народаў". Мабыць, гэтае вызначэнне ў нечым справядлівае, але трэба мець на ўвазе, што тады быў такі свет, існавалі такія адносіны паміж саслоўямі. Між тым прадстаўнікі роду Тышкевічаў зрабілі значны ўнёсак у навуку і асвету, у развіццё тэатральнага мастацтва тагачаснай Беларусі. Так, Канстанцін Піевіч Тышкевіч (1806—1868) быў заснавальнікам навуковай археалогіі, сам быў археолагам і этнографам. Па ягоным шляху археолага, гісторыка, этнографа і краязнаўцы пайшоў і малодшы брат Яўстафій Піевіч (1814—1873).

Нечакана для сябе я даведаўся з матэрыялаў музея, што Мялецій Сматрыцкі (свецкае імя Максім Герасімовіч), беларускі і ўкраінскі царкоўны і грамадскі дзеяч, аўтар "Граматыкі...", якую Міхайла Ламаносаў называў "вратами своей учености", меў нейкае дачыненне да маёй малой радзімы — Лагойшчыны: нейкі час ён жыў у маёнтках князя Саламярэцкага (Саламярэч, Бараўляны, Лагойск)... Даведаўся, што ў Лагойску жыў Ігнат Шыдлоўскі — пісьменнік і перакладчык, нават славуты В. Дунін-Марцінкевіч, які ў аповесці "Вечарніцы" апісаў Лагойскі замак... Ёсць у музеі і выявы вокладкі і тытульнага ліста кнігі Мар'яна Даленгі-Хаданоўскага "Аб славянізме да хрысціянства", партрэт Эдмунта Вярыгі — аднаго з арганізатараў паўстання 1863 года пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага...

Далей разгорнуты галоўны стэнд, прысвечаны вялікаму песняру беларускага народа Янку Купалу, жыццё якога вельмі цесна знітавана з Лагойшчынай. Шмат экспанатаў грунтоўна расказваюць пра дзіцячыя гады паэта. Ёсць тут і характэрныя вытрымкі з аўтабіяграфіі паэта. Вось як гэта:

"Чытаць кнігі я пачаў рана. Памятаю, яшчэ ў Прудзішчах, калі бацька пасылаў мяне з сястрою на начлег пасвіць коней, як браў з сабою кнігі і пры святле кастра або месяца чытаў. Вядома, не абыходзілася без таго, каб я не заснуў, а коні тым часам траплялі ў шкоду".

Прыцягваюць увагу партрэт Янкі 1904-га года, яшчэ маладзенькага, і 1908-га, ужо сталейшага — засяроджаны, разумныя, уважлівыя вочы... Прадстаўлены на стэндзе, прысвечаным Янку Купалу, і многія вядомыя грамадскія дзеячы, літаратары, як, напрыклад, літаратурны крытык Уладзімір Самойла, Ядвігін Ш. (Антон Лявіцкі), Алесь Бурбіс і іншыя, чые лёсы былі звязаны і з лёсам песняра.

Чарговы ўрок у школе скончыўся. Прыйшла Вера Рыгораўна, і мы прадоўжылі гутарку пра музей.

—Перайшоўшы ў пачатку 80-х у лагойскую дзесяцігодку, — паведала яна, — я пачала думаць, з кім гэта яшчэ параіцца. Да нас неяк завітаў Ніл Сымонавіч Гілевіч, наш славуты зямляк. Ён параіў шукаць старых людзей, хто ведаў, меў нейкае дачыненне да самога Янкі Купалы, запісваць іх успаміны. Я адразу пачала шукаць, знаходзіла і запісвала. Раздзел жа пра Янку Купалу, я так разумела, павінен быць вызначальным. Тэлефанавала, дамаўлялася, мяне разумелі і згаджаліся на сустрэчу. Вельмі цікавая была адна з іх — з прататыпам гераіні апавядання Змітрака Бядулі "Пяць лыжак заціркі" Сцепчыхай, на самай справе Вольгай Вайцяхоўскай.

Вось адзін з матэрыялаў — Зоська Верас даслала. Да яе мы разам з Бяркоўскай Ірынай Мікалаеўнай ездзілі — яна яшчэ жывая была. Шмат што запісалі, нямала Зоська Верас дасылала ў лістах, фотаздымкі дасылала...

—А Змітрок Бядуля як прычыніўся да Лагойшчыны?

—Нарадзіўся ён у Пасадцы. А гэта таксама Лагойшчына.

—А Ядвігін Ш.?..

—Ядвігін Ш. жыў і пісаў у Карпілаўцы. Мы знайшлі адрас ягонай сястры, якая жыла ў Польшчы. Напісалі ёй...

—Леапольд Родзевіч?..

—Я даведалася, што ён нарадзіўся на хутары Кур'янаўшчына. Стрыечная сястра Леапольда Родзевіча Ядвіга Ігнатаўна расказала, што помніць Леапольда Родзевіча. Дачка дапаўняла яе. На жаль, ужо не жывуць ні Ядвіга Ігнатаўна, ні яе сястра. Рэпрэсаваныя былі і Леапольд Родзевіч, і Часлаў Родзевіч. Некалькі лістоў захавалася, паштоўкі... Але пісаць пра іх чамусьці яна не адважылася.

—Даслала я яшчэ і ліст у Варшаву, — працягвала Вера Рыгораўна, — Аляксандры Рыгораўне Бергман, якая разам з Леапольдам Родзевічам змагалася ў падполлі. Яна прыслала нам фотаздымкі — вось гэтыя чатыры. А напісаць пра Родзевіча нічога не напісала. І фотаздымкі прыслала не ў нашу школу, а ў "ЛіМ". Нам перадаў іх рэдактар Мікола Гіль.

Што яшчэ. Выйшла я на Інстытут гісторыі і на Інстытут літаратуры Акадэміі навук, на аўтара "Дела и люди КПЗБ. Воспоминания" Мікалая Арэхву. Потым сустракалася з ім. Ён параіў падрыхтаваць дакумент — запыт пра Родзевіча. Мне ж адказалі, што дакументаў пра Родзевіча ніякіх няма...

Вера Рыгораўна здабыла матэрыялы пра вядомых літаратараў, якія не нарадзіліся на Лагойшчыне, але ў пэўны час, ужо савецкі, прычыніліся да яе ў сваёй дзейнасці.

Напрыклад, Барыс Мікуліч нарадзіўся ў Бабруйску, а ў 40-х жыў у вёсцы Церахавічы, працаваў тры гады настаўнікам, там жа напісаў свае лепшыя творы... Уладзіслаў Нядзведскі нарадзіўся ў вёсцы Рахавічы Салігорскага раёна Мінскай вобласці, а выкладаў беларускую мову і літаратуру ў Гайнаўскай сярэдняй школе на Лагойшчыне (1955—1958). Вядомы беларускі пісьменнік Уладзімір Карпаў нарадзіўся далёка ад Беларусі, ды яго юнацтва прайшло на Гомельшчыне, а ў час вайны ён удзельнічаў у партызанскім руху на Лагойшчыне. Вызнаны навуковец, доктар філалагічных навук, прафесар Фёдар Янкоўскі таксама партызаніў на Лагойшчыне.

Вядома ж, што і пра ўсіх нашых сучаснікаў-землякоў, паэтаў і празаікаў Вера Рыгораўна сабрала ўсе, што магла, матэрыялы.

Вось паэтка Галіна Каржанеўская. Нарадзілася яна на Случчыне, але воляю лёсу скончыла Янушкавіцкую сярэднюю школу Лагойскага раёна, потым філфак БДУ і настаўнічала ў роднай школе, потым выкладала беларускую мову і літаратуру ў пасёлку Плешчаніцы Лагойскага раёна. Ну чым не "лагайчанка"?..

Стараннямі Веры Рыгораўны адразу ж "прапісаліся" ў музеі "Літаратурная Лагойшчына" браты Гілевічы — Ніл і Мікола Сымонавічы. Таксама слынны празаік, гонар не толькі Лагойшчыны, а і ўсёй беларускай літаратуры Іван Пташнікаў, аўтар глыбокіх высокамастацкіх твораў — апавяданняў, аповесцяў, раманаў... Усе яны ахвяравалі музею свае кнігі, публікацыі, фотаздымкі, аўтабіяграфічныя матэрыялы.

Цікаўлюся ў Веры Рыгораўны:

— Як вы паспявалі рабіць усё гэта: збіраць экспанаты, ліставацца, ездзіць і сустракацца з людзьмі? Вы ж працавалі ў школе, не былі вызвалены ад урокаў...

—Раней неяк і часу хапала. Як яно хапала? Зараз я і сама дзіўлюся: усе выхадныя ў нейкіх паездках, сустракаешся са сваякамі нашых знакамітасцяў — ці то ў Мінску, ці то ў іншых гарадах...

Цяпер, як паведаміла заснавальніца і захавальніца музея Вера Рыгораўна Саўрыцкая, да школьнай музейнай экспазіцыі далучыліся матэрыялы пра вядомага майстра дзіцячай літаратуры, земляка Міхася Зарэмбы і, дарэчы, аўтара гэтых нататкаў.

Музей размяшчаецца ў пакоі, які не большы за звычайны клас. Усе экспанаты, на жаль, не ўдалося размясціць на стэндах. Некаторыя захоўваюцца або ў шуфлядах сталоў, або ў шафах. Вось каб музею адпаведнае прасторнае памяшканне! А калі яму надаць статус гарадскога музея, ён стане славутасцю старажытнага Лагожаска. Там будуць шырэй і змястоўней ладзіцца вечарыны, сустрэчы, праходзіць культурна-асветныя мерапрыемствы, урокі па гісторыі і літаратуры краю. Але варта было б размясціць яго ў цэнтры горада, скажам, у гарадскім Палацы культуры, непадалёк ад берагу ракі Гайны.

Але вырашаць гэтае пытанне мусяць лагойскія гарадскія ўлады. Хочацца, каб вырашылі яны яго на карысць школьнага літаратурнага музея, жыхароў і гасцей старажытнага, а цяпер такога маладога горада.

**Уладзімір АНІСКОВІЧ**

КРЫТЫКА

# Гімн хараству

Аўтарскі падручнік Алега Лойкі "Старабеларуская літаратура" (Мн., "Вышэйшая школа". 2001) — вынік глыбокага асэнсавання выдатным навукоўцам шляхоў станаўлення нацыянальнага прыгожага пісьменства. У кнізе разглядаецца перыяд развіцця беларускай літаратуры ад XI стагоддзя, часу яе нараджэння, да першай паловы XVI стагоддзя.

Аўтар выпрацаваў бездакорны ў метадычным плане сінтэтычны прынцып выкладу матэрыялу: агульныя раздзелы ў падручніку вельмі лагічна перамяжоўваюцца з нарысамі творчасці найбольш яркіх пісьменнікаў. У аснову перыядызацыі літаратуры А.Лойка зусім слушна паклаў эстэтычныя крытэрыі, на падставе якіх справядліва вылучыў два буйныя этапы — Сярэднявечча (XI — XV стст.) і Адраджэнне (XVI ст.). Дастаткова абгрунтаваны выглядае наватарская прапанова А.Лойкі аб трох стадыях беларускага Адраджэння: першая — скарынаўская (10 — 40-я гады XVI ст.); другая — рэфармацыйная (60 — 80-я гады), знітаваная з дзейнасцю Сымона Буднага і Васіля Цяпінскага; трэцяя — позняе Адраджэнне (80-90-я гады), на якую прыпадае творчасць Андрэя Рымшы, Льва Сапегі, Гальяша Пельгрымоўскага, Яна Радвана.

Праца А.Лойкі "Старабеларуская літаратура" адрозніваецца яркімі навуковымі абагульненнямі, да ліку якіх, бясспрэчна, належыць сфармуляваны аўтарам тэзіс аб генетычнай і тыпалагічнай еўрапейскасці старабеларускай літаратуры, што выявілася на ўзроўні мастацкіх формаў, ідэй, эстэтычных каштоўнасцяў, творчага метаду. Паводле яго справядлівай высновы, старабеларуская літаратура — ад яе першых пачаткаў да апошніх барокавых праяў — уся цалкам еўрапейская, бо беларускія майстры слова, як і філосафы Францыі ды Англіі, Германіі ды Італіі былі "ахопленыя адзіным духам, адзінай прагай духоўнасці, падзвіжніцтва, тытанізму".

Аўтар пераканаўча аспрэчвае распаўсюджанае памылковае ўяўленне пра Сярэднявечча, як нібыта бясплённы перыяд у еўрапейскай гісторыі, якому бышцам бы быў уласцівы "сон розуму". А.Лойка на шматлікіх прыкладах паказвае: Беларусь у XIV і XV стагоддзях — гэта "не мёртвая пустыня, а ландшафт, шырока абжыты духоўна".

Да найбольш значных творчых набыткаў аўтара падручніка належыць дакладнае вызначэнне ім эстэтычнай і ідэйна-мастацкай сутнасці беларускага Адраджэння, для якога ў цэлым былі характэрныя народнасць, сцвярджэнне гуманістычных каштоўнасцяў, пашана да законаў.

Наватарскія і цалкам слушныя назіранні і высновы А.Лойкі пра шматузроўневыя сувязі старабеларускага пісьменства з нацыянальнай мастацкай культурай Новага часу, перадусім, па лініі эстэтыкі, сімволікі, творчых дамінантаў, жанравых формаў. Упершыню ў нашай навуцы выразна заяўлена пра генетычную непарыўнасць нацыянальнай мастацкай традыцыі: " З Сярэднявечча ў нас і сімволіка, і метафара, і народная казка, народная песня, і опера і балет, як і тэатр Уладзіслава Галубка... Казка і народная песня — з сялянскага асяроддзя таго часу, опера і балет — з палацаў Радзівіла і Агінскага, тэатр Галубка — з меладраматычнай карнавальнасці нашага народнага і школьнага тэатра таго часу".

Надзвычай каштоўныя ў кнізе старонкі, дзе раскрываецца адмысловая паэтыка беларускіх летапісных апавяданняў, паказваецца іх роля ў развіцці нацыянальных эпічных формаў.

Галоўнае месца ў падручніку адведзена, як і належыць, творчасці найбуйнейшых пісьменнікаў старажытнасці, сярод якіх пяць знаных майстроў слова: Кірыла Тураўскі, Рыгор Цамблак, Ян Вісліцкі, Мікола Гусоўскі, Францыск Скарына.

Асоба выдатнага майстра слова старажытнага часу Кірылы Тураўскага (каля 1130 — каля 1183) паўстае ў кантэксце ідэалагічнай і палітычнай барацьбы XII стагоддзя. А.Лойка паказвае Кірылу Тураўскага не толькі як таленавітага пісьменніка і прапаведніка, але і як каларытную інтэлектуальную фігуру, уплывовага рэлігійнага і грамадскага лідэра.

Цалкам наватарскі ў падручніку раздзел, што прысвечаны творчасці Рыгора Цамблака (каля 1364 — 1419). Найбольшая ўвага аддзена беларускаму перыяду творчасці пісьменніка, часу, калі ім былі напісаны больш за пятнаццаць твораў, сярод якіх — жыціі, пахвальныя словы святым, палемічныя трактаты, гімнаграфічныя песняспевы, царкоўныя і свецкія юрыдычныя акты.

У кантэксце развіцця літаратуры Беларусі разглядаецца творчасць лацінамоўнага паэта Яна Вісліцкага, аўтара эпічнай паэмы "Пруская вайна" (1516). А.Лойка ўпершыню ажыццяўляе культуралагічную атрыбуцыю спадчыны Яна Вісліцкага, даводзячы яе неаспрэчныя беларускія вытокі на ўзроўні вобразнасці, мастацкіх рэалій, логікі і семантыкі паэтычнага дыскурсу.

Годнае месца ў падручніку А.Лойкі займае рэнесансавы паэт Мікола Гусоўскі (каля 1470 — 1533). Акцэнт натуральна зроблены на паэме "Песня пра зубра" (1523), яе творчую гісторыю, традыцыі і наватарства, асаблівасці мастацкай паэтыкі. Аўтар падручніка вельмі скрупулёзна асвятляе галоўныя аспекты паэтычнага майстэрства М.Гусоўскага, кампазіцыйную будову "Песні пра зубра", багацце мастацкіх мікраэлементаў (сімвалы, метафары, эпітэты), яе пафас, асноўныя ідэі, ключавыя вобразы.

Фундаментальна ў падручніку прадстаўлена знакавая, культавая постаць беларускай нацыі — Францыск Скарына. А.Лойка дакладна вызначыў духоўную місію першадрукара менавіта як "бацькі беларускага Адраджэння", справядліва назваў яго творчасць "вянцом духоўнай працы нашых продкаў". Упершыню ў навуцы выяўлены галоўныя культурна-эстэтычныя і агульнанацыянальныя дамінанты сінтэтычнай творчасці Скарыны, яго шматбаковай працы над Біблііяй, сутнасць якой палягала ў межах такіх катэгорый, як асвета, веды, пазнанне. Цывілізацыйны феномен Скарыны, як правільна адзначае аўтар, выявіўся найперш у тым, што ім была пабурана манаполія рэлігійнага асветніцтва, а словы мудрасці, адукацыі, асветы пачалі зыходзіць не з рук святара ці мніха, а ад свецкага чалавека.

Вельмі карэктна ў падручніку сфармуляваны асноватворныя матывы выдавецкай працы асветніка — не дзеля таго, "каб узбагаціцца золатам, прадаючы яго, а каб узбагаціць мудрасцю землякоў сваіх, народ свой". У кнізе раскрыты асноўныя рысы светапогляду Скарыны, яго філасофія і грамадзянская пазіцыя, для якіх быў уласцівы патрыятызм, гуманізм і сацыяльны аптымізм. А.Лойка паказаў найважнейшыя праявы літаратурнага майстэрства Скарыны, яго наватарства як паэта і публіцыста, заснавальніка нацыянальнай лірыкі.

У цэлым, новая праца А.Лойкі "Старабеларуская літаратура" гарманічна спалучае навуковую глыбіню, метадычную дакладнасць, інтэлектуальны арыстакратызм і стылёвую вытанчанасць. У падручніку ёсць галоўнае — ён адкрывае эстэтычнае багацце і непаўторную мастацкую прыгажосць старабеларускай літаратуры, абуджае гонар за сваю нацыю, з'яўляецца добрым падмуркам духоўнага станаўлення грамадзяніна нашай краіны.

**Іван САВЕРЧАНКА,**
**доктар філалагічных навук**

# «Лес на далоні»

**Прыроду Хведар Гурыновіч вельмі любіць. З'яўляецца заўзятым паляўнічым. Праўда, апошняя акалічнасць можа ў некаторых выклікаць недаўменне: як быццам сумяшчаецца несумяшчальнае. Прадчуваючы гэта, Хведар Хведаравіч, звяртаючыся да юнага чытача сваёй кнігі «Лес на далоні», выпушчанай выдавецтвам «Юнацтва», зазначае: «Ты можаш папракнуць мяне за тое, што я і сёння бадзяюся па лесе са стрэльбай, здабываю ці птушку, ці звера. Я толькі адно магу сказаць у апраўданне: ніхто не ведае так,**




**не любіць і не беражэ прыроду, як сапраўдны паляўнічы. Вось такі парадокс». А наколькі моцная гэтая любоў у Хв. Гурыновіча, як ён хоча пераканаць іншых, што без прыроды чалавек становіцца намнога бяднейшым маральна і духоўна, і пераконвае кніга «Лес на далоні». Чаму такая назва? І на гэта ёсць адказ: «А ці бачыў ты лес на далоні? У нашым Старобінскім лясгасе (жыве Хв. Гурыновіч, як вядома, у горадзе Салігорску, а Старобін непадалёку. — М.Г.) ёсць гадавальнік, дзе вырошчваюць лясы з насення. У тым ліку і яловыя. Спачатку збіраюць у старым бары шышкі. Затым сушаць іх. Вылушчваюць з іх насенне ў спецыяльным барабане. Вясной высяваюць на градках. Іх чамусьці называюць школкамі». Тыя першыя парасткі вельмі кволыя, таму смела можна сказаць: лес на далоні. Кніга ж складаецца з вершаваных і празаічных твораў. І мае два раздзелы. У першым Хв.Гурыновіч расказвае пра розныя дрэвы і лясныя расліны, кветкі. Другая — па сутнасці «грыбная паэма». Дарэчы, так і называецца гэты раздзел. А абодва — прызнанне аўтара ў любові да прыроды, да лесу, які для Хв. Гурыновіча — нязменна «добры, мудры». Таму і гучыць у кнізе не проста песня яму, а сапраўдная ода. І ў паэзіі, і ў празаічных развагах, дзякуючы якім можна шмат даведацца пра тое, чым карысная тая ці іншая расліна, дрэва. Звесткі, якія прыводзіць Хв. Гурыновіч, энцыклапедычнага характару. Таму можна гаварыць, што «Лес на далоні» — свайго роду дзіцячая міні-энцыклапедыя пра прыроду. А карысць ад яе яшчэ і таму, што вельмі да месца шматлікія малюнкі, аўтарам якіх мастак У. Малахаў. Асабліва багаццем матэрыялу, умелай падачай яго ўражвае другая частка. Адразу адчуваеш, які заўзяты грыбнік Хв. Гурыновіч, як дасканала чытае ён саму кнігу прыроды. Пра трыццаць тры грыбы расказвае. Пры гэтым мала валодаць талентам, трэба яшчэ быць вельмі назіральным чалавекам. Для прыкладу, хораша гучыць верш «Лісічкі»:**

*Нібы град даспелых знічак,*
*Абсыпае ліст асіна.*
*Хто ж не ведае лісічак*
*З іх прывычкаю лісінай.*

*Так схаваецца ў лістоце*
*Каля саменькае сцежкі —*
*Не знайсці, хоць побач стойце.*
*Гэта вам не сыраежкі.*

*А калі адну ўжо знойдзеш*
*У бліскучым жоўтым глянцы,*
*Іх тут цэлы склад, дый годзе,*
*Надакучыць нахіляцца.*

**Дзеліцца Хв. Гурыновіч і сваімі грыбнымі набыткамі, яшчэ са школьных гадоў: «Аднойчы мы з татам за адну раніцу сабралі 516 баравікоў. Я на ўсё жыццё запомніў гэты лік. І ўсе адзін у адзін: чыстыя, зграбныя, невялічкія — з дзіцячы кулачок. Сярод іх быў трохпавярховы. Напэўна, грыбы-браты сталі адзін аднаму на спіну, каб пагляздзець, ці далёка грыбнікі?» У кнізе, вобразна кажучы, пахне самой прыродай. І чуецца біццё сэрца чалавека, па-сапраўднаму ўлюбёнага ў яе, які сваё замілаванне перадае дзецям, каб тыя, палюбіўшы прыроду, яшчэ лепш любілі родную Беларусь.**

**Алег ГУЛІЦКІ.**

---

ЗА ГАРБАТАЙ

***Музы паэзіі і музыкі, як вядома, павінны між сабою сябраваць. Калісьці яны ўвогуле былі сіямскімі блізнюкамі. А як сёння? Ці заўсёды адна муза шануе другую? Даўно хацелася пагаварыць пра іх лучнасць і плён тае лучнасці ў сучаснай беларускай сітуацыі. А каб гаворка атрымалася больш аб'ектыўнай, за адзін стол мусілі сесці прадстаўнікі і музы паэзіі, і музы, прабачце за таўталогію, музыкі. Таму сённяшняя лімаўская "гарбата" атрымалася незвычайная — на ёй дзве гаспадыні, ад двух лімаўскіх аддзелаў.***

**Рэдактар аддзела крытыкі, паэтка Людміла РУБЛЕЎСКАЯ.**

***Прасцей было б адмовіцца ад сустрэчы, мэта якой не надта акрэсленая, а вынік падаецца няпэўным. Але навошта адмаўляць сабе ў раскошы чалавечых стасункаў? Яны зазвычай шчыра і хутка ладкуюцца нават між выпадковымі суразмоўцамі, паяднанымі агульнымі акалічнасцямі, што вымушаюць разам бавіць час. Я ўявіла нашу стракатую кампанію ў дарозе: трапілі ў адзін вагон, дачакаліся гарбаты, знайшлі тэму для гаворкі— не з тым, каб красамоўнічаць або вырашаць праблемы, а проста — выказацца, памеркаваць. Тым болей, што ў гэтым "цягніку трывог" мы апынуліся ўсё ж невыпадкова...***

**Рэдактар аддзела музыкі Святлана БЕРАСЦЕНЬ.**

*У лімаўскі вагон-"гарбатню" ўзялі квіткі: кампазітар **Эдуард Зарыцкі;** творчая сям'я — **Уладзімір Карызна** (бацька) — паэт, **Уладзімір Карызна** (сын)— кампазітар; паэт, аўтар слоў многіх вядомых песень **Алесь Бадак;** паэт, бард **Эдуард Акулін;** кампазітар, музыказнаўца **Дзмітрый Лыбін;** музыказнаўца, сакратар Беларускага саюза кампазітараў, загадчык аддзела Нацыянальнага радыё **Таццяна Песнякевіч.***

# Мы ехалі, мы спявалі...



**Алесь Бадак.** Прагучала вобразнае параўнанне, што мы сабраліся ў адным вагоне. Але вам не здаецца, што мы — у цягніку, які імчыць у нікуды? Беларуская песня памірае. Чатыры гады таму я прыйшоў на радыё рабіць штомесячную перадачу, якая называлася "Беларускі хіт-парад". У кожнай мы выносілі на суд слухачоў шэсць новых песень. Праз два гады — па пяць. У мінулым годзе пачалі прапускаць перадачы — няма новых твораў! А што будзе далей? Некалькі гадоў таму на БТ была праграма "Песню бярыце з сабой", дзе гучалі толькі беларускамоўныя песні. У сённяшніх умовах такі фестываль неабходны, як ніколі, — ён незвычайна стымуляваў стварэнне песень на беларускай мове. Вядома ж, у нас ёсць маладзечанскі фестываль, але ж ён рэальна існуе толькі некалькі дзён на год. Не сакрэт, многія песні ў нас запісваюцца пад нейкі тэлепраект. І калі сёння "На скрыжаванні Еўропы" можна прыходзіць толькі з рускамоўнымі песнямі, многія так і робяць. Нашто ім яшчэ трацiцца і на беларускамоўныя? Тая ж праблема не толькі з эстрадным жанрам. Тут прысутнічае бард Эдуард Акулін, які б у любой іншай краіне, каб далі яму магчымасць даносіць свае творы да публікі, абавязкова зрабіўся б зоркай.



**Эдуард Зарыцкі.** Пра беларускую песню неаднойчы гаварылі, што яна памірае. Памерці яна не можа. Але гаворка зараз — пра яе будучыню, пра лёс маладых кампазітараў, якія толькі пачынаюць працаваць у гэтым жанры. Магу сказаць адно: каб я пачынаў сваю творчасць зараз, я б ніколі не "раскруціўся", не меў бы такіх дасягненняў, якія маю. Ва ўсім свеце песня вымагае агромністых укладанняў. А мы хочам усё патанней, "на халяву". Раўняемся спачатку на Расію, пасля на Захад. Але ў развіцці шоу-бізнесу ад Расіі да Захаду тая ж адлегласць, як ад нас да Расіі. Пры гэтым у нас хапае маладых людзей, здольных пісаць добрыя песні, а не адкрытую халтуру, якая зараз пануе на расійскай эстрадзе.



**Уладзімір Карызна (старэйшы).** Юрый Уладзіміравіч Семяняка мне таксама неяк сказаў: "Валодзя, я б зараз не прабіўся". І гэта сказаў аўтар такіх песень, як "Ты мне вясною прыснілася", "Явар і каліна"! Забываюцца карані культуры. Песня — гэта калыска нацыі. Наша беларуская песня не проста прыгожая, у яе, як і ў чалавека, ёсць душа . Зрабіць сёння новую аранжыроўку песні "Ты мне вясною прыснілася"— і яна зноў загучыць, зробіцца папулярнай. Аўтар яе слоў, Міхась Шушкевіч, нават не сябра Саюза пісьменнікаў. Надрукуй гэтыя словы як верш, і ён, напэўна, падасца банальным. Але колькі прыгажосці адкрываецца ў тых словах, калі яны спяваюцца на музыку! Вось спецыфіка песні. Не кожны добры паэт можа стварыць песенны верш. Сапраўдных песень зараз мала. І чаму тыя, хто мае ўладу, не задумваюцца, што будзе з народам, калі ў яго не стане сваіх песень? Я памятаю, пасля вайны, калі людзі аралі на сабе, калі не было ні хлеба, ні цяпла — як спявалі! Як ратавала песня! Калі не будзе песні — не будзе народа. Значыць, яго зваявалі, скарылі. Сучасная песня не дапамагае ні будаваць, ні жыць. І не толькі таму, што для яе развіцця грошай няма. Грошы, дарэчы, ёсць на грандыёзныя мерапрыемствы кшталту "Залатога шлягера", "Славянскага базару"! Калісьці рэпертуарная камісія Міністэрства культуры збіралася штомесяц. Пасля — раз у два месяцы. Цяпер — раз на год.

**Уладзімір Карызна(малодшы).** Сёння найбольшая ўвага надаецца знешняму боку, "паказухе". Адсюль і бясконцыя фестывалі. Знік кантроль за якасцю песні, за ўзроўнем прафесіяналізму. Не можа чалавек, які ведае два акорды, лічыцца кампазітарам. Само вызначэнне "кампазітар" страціла першапачатковы сэнс. Да таго ж няма і адпаведнай матэрыяльнай падтрымкі музычнай творчасці. У выніку страчана прэстыжнасць гэтай прафесіі. Прыходзіць малады чалавек, прадстаўляецца кампазітарам, дэманструе свой твор у стылі "тэхна". Пытаюся: "Прабачце, а вы ноты ведаеце?" — "Не. А навошта?"Да таго ж сёння распаўсюдзілася такая з'ява, як камп'ютэрная музыка. Для яе стварэння не трэба мець ніякай спецыяльнай музычнай падрыхтоўкі. Складай, як з гатовых цаглінак! У выніку — і дасканала па гуку, і прыгожа... Але хіба гэта праца кампазітара? Гэта хутчэй дызайн. На жаль, усё больш і больш наша сучасная эстрада ствараецца менавіта так, з "цаглінак". Беларуская песня, пра якую мы сёння гаворым, ніколі не будзе мець нічога агульнага з гэтай з'явай. Таму што як тыя "цаглінкі" ні кампануй, дух, мелодыку беларускай песні з іх не складзеш.

**Людміла Рублеўская.** У яшчэ большай ступені праблема матэрыяльнай падтрымкі і прафесіяналізму тычыцца беларускай літаратуры.

**А.Бадак.** Яшчэ нядаўна кожны дзень гучалі песні на словы прафесіяналаў — Рыгора Барадуліна, Генадзя Бураўкіна, Уладзіміра Някляева, Леаніда Дранько-Майсюка, прысутнага тут Уладзіміра Карызны. А зараз я сяджу на нацыянальным фестывалі і лічу, колькі ў тэксце кожнай беларускай песні ўжыта русізмаў! Таму што словы гэтых песень пішуць людзі, якія не ведаюць мовы, не з'яўляюцца прафесіяналамі ў літаратуры.

**У. Карызна (м.).** Затое ў людзей, што "раскручваюць" такія песні, ёсць грошы. У мяне, напрыклад, як у кампазітара, цяпер толькі адна крыніца прапаганды сваіх твораў — першы канал Беларускага радыё.

**У.Карызна (ст.).** А між тым, у нас багатая традыцыя "песеннай паэзіі". Адам Русак, які напісаў класічную "Лясную песню" з Уладзімірам Алоўнікавым, меў музычную адукацыю. А чаму сёння не гучаць песні на словы Анатоля Грачанікава? Іосіфа Скурко? А калі не гучаць сапраўдныя песні, на іх месцы ўзнікае смецце. Гэта не беларуская песня. Ніякая. Гэта проста смецце.

**А.Бадак.** У нас на Беларусі няма ніводнай студыі, якая была б зацікаўленая ў запісах беларускай песні. Не вырашаная праблема і з аўтарскімі правамі. У той жа Расіі многія аўтары папулярных песень могуць жыць на грошы, што ім ідуць ад паўтарэння іх песень у эфіры.

**У.Карызна (м.).** Уся ўвага — на "Славянскі базар". А на тым "Базары" амаль ніводнай песні не пачуеш сапраўды беларускай.

**Л. Рублеўская.** У тым азначэнні, якое дае песні "Беларуская Энцыклапедыя", падкрэсліваецца, што песня абавязкова павінна быць нацыянальнай, несці адбітак нацыянальнай культуры. Без розніцы — ці гэта песня народная, фальклорная, ці эстрадная, ці ў жанры класічнай музыкі. І мы з вамі ўвесь час ужываем азначэнне "беларуская песня". А што ж робіць песню беларускай? Музыка, словы? Калі на музыку беларускай эстраднай песні пяецца рускі тэкст, гэта песня ўжо руская, і наадварот?

**Эдуард Акулін.** Я ніколі не назваў бы песню на рускія словы беларускай. Гэтак жа, як не магу назваць беларускім паэта, які жыве на Беларусі, але піша па-руску.

**С.Берасцень.** Выканаўцы не сумняюцца, што пяюць па-руску, хаця рускі тэкст гучыць у іх часта з беларускай фанетыкай: "адзынокий", "эци", "прасци"...Гэта не "ўзаемаўзбагачэнне", а здзек з абедзвюх моў.

**У.Карызна (ст.).** Ёсць такое паняцце, як песенная інтанацыя. Песня Майбарады "Мы підэм, дэ травы похілы..."— украінская па інтанацыі. "Ой, рэчанька, рэчанька..." па інтанацыі — беларуская. Песня Уладзіміра Алоўнікава "Радзіма мая дарагая", інтанацыйныя вытокі якой — у народным шэдэўры "Ой, не кукуй, зязюленька", на якую б мову яе словы ні перакладалі, будзе беларускай.

**А.Бадак.** Але пра тую ж песню "Ты ж мяне падманула..." рускія скажуць, што яна руская , украінцы — што ўкраінская, беларусы — што беларуская.

**Э.Акулін.** Мне чамусьці згадаўся "Апокрыф" Максіма Багдановіча: "Добра быць коласам, але шчаслівы той, каму дадзена быць васільком... Бо спяваюць нават і жабы ў багне...". Песня — душа народа. І неабавязкова яе павінны ствараць прафесіяналы. Самы вялікі прафесіянал сярод нас — гэта народ. Тое, што створана народам-кампазітарам і народам-паэтам, — вышыня, да якой нам яшчэ ісці ды ісці. І дай Божа, каб хоць нешта, створанае намі, сталася народнай песняй. Як гэта здарылася з "Зоркай Венерай" Максіма Багдановіча.

**С.Берасцень.** Але ж у гэтай музыкі ёсць аўтар.

**Э. Акулін.** Пра яго апошнім часам забыліся. Гавораць — "музыка народная".

**С.Берасцень.** Не проста "забыліся": кампазітар быў рэпрэсаваны.

**Э.Акулін.** Я добра ведаю, што аўтар музыкі — Сымон Рак-Міхайлоўскі. Але прозвішчы за часам сціраюцца, а музыка, паэзія — застаюцца. І ніводны сучасны шлягер не заменіць народную песню "Ой, сівы конь бяжыць..."Яе спявалі да нас, і пасля нас будуць спяваць. І чаму мы гаворым толькі пра эстрадную песню? У любога песеннага жанру — свой слухач. Нехта ходзіць толькі на канцэрт эстраднай песні, некаму падабаюцца толькі фальклорныя ці бардаўскія спевы. Калі б бардаўская песня была запатрабаваная на дзяржаўным узроўні, яна была б не менш папулярнай, чым эстрадная. І гэта пайшло б на карысць нацыянальнай культуры. Толькі адзіны раз бардаў запрасілі на фестываль беларускай паэзіі і песні ў

Маладзечна. І пасля таго пра бардаў усе забыліся. Зараз, дзе я ні выступаю, у мяне пытаюцца: калі і дзе можна пачуць беларускіх бардаў? І я не магу адказаць на гэтае пытанне. Мяне часцей запрашаюць у Маскву, Вільню, Гарадок на Беласточчыне, чым на Беларускае тэлебачанне і радыё. Апошнія два гады я наогул нідзе сваіх песень не чую.

**У.Карызна (м.).** А я больш за 15 гадоў працую ў жанры песні. За гэты час мяне ні разу не запрасілі на Беларускае тэлебачанне.

**Таццяна Песнякевіч.** У мяне ўражанне, што мы зараз шукаем, хто вінаваты. Але "часы не выбіраюць, у іх жывуць і паміраюць". Мы і на радыё зараз пераходзім на рынкавыя ўмовы. Гэта значыць, будзем мець справу з тым "таварам", які "прадаецца", і разлічваць, як нам давялі, на людзей з грашамі. А гэтыя людзі не заўсёды маюць належны культурны ўзровень і дбаюць пра нацыянальныя духоўныя каштоўнасці.

**У.Карызна (ст.).** Страшна, калі ўсё прадаецца.

**Л.Рублеўская.** Апошні час даказаў, што любую, самую прымітыўную песню можна "прадаць", пракруціўшы дзвесце разоў па ўсіх каналах.

**У.Карызна (м.).** Павінны з'явіцца фестывалі, дзе б ацэньваліся не спевакі, а песні.

**Э.Зарыцкі.** Мне ўсё-ткі хацелася б давесці, што не ўсё у нас так дрэнна. На Маладзечанскім фестывалі гучыць толькі беларуская песня. Дзякуй Богу, ён праз чатыры гады адрадзіўся. У наступным годзе будзе юбілей Янкі Купалы і Якуба Коласа. Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі рыхтуе вялікі канцэрт паводле іх твораў. На вершы Янкі Купалы, як высветлілася, у нас багата песень. А на вершы Якуба Коласа — усяго шэсць-сем. Дзяржаўны канцэртны аркестр звярнуўся да мяне, каб я напісаў цыкл песень на вершы гэтага народнага паэта. Адбудзецца і вялікі вечар, прысвечаны творчасці Юрыя Семянякі і Уладзіміра Алоўнікава. Песні вяртаюцца.

**А.Бадак.** Маладзечанскі фестываль — гэта добра. Але, паўтаруся, ён адгучаў — і ўсё...

**Э.Зарыцкі.** Але аматары беларускай песні запісваюць упадабаныя творы, і яны пасля гучаць па ўсёй Беларусі.

**Э.Акулін.** Хоць эстрадныя песні і больш гучаць на тэлебачанні і радыё, беларускі рок і бардаўская песня, на маю думку, іх апераджаюць. І не толькі па ўзроўні, але і па выжывальнасці. Паглядзіце, колькі такія гурты, як "N.R.M.", "Крама","Новае Неба", выпускаюць касет, дыскаў, колькі гастралююць!

**А.Бадак.** Дык жа рок-музыка, як форма пратэсту, адразу была пастаўленая ў такія ўмовы, дзе трэба было выжываць.

**Э.Акулін.** Але ж ты не будзеш спрачацца, што рок-гурты маюць большую папулярнасць, чым папсовыя выканаўцы?

**У.Карызна (м.).** Магчыма, рок-музыка павінна існаваць, але яна не павінна заглушаць і нішчыць родную песню. Рок-музыка прыйшла да нас з Захаду. Але на амерыканскіх каналах яна вельмі мала гучыць. Я не супраць рок-музыкі наогул. Мяне трывожыць, што моладзь больш любіць беларускі рок, чым народную беларускую ці прафесійную эстрадную песню. Нацыянальна свядомым чалавек робіцца тады, калі ён выхоўваецца на сваёй мове, на сваёй песні. Тады ёсць патрыёт, ёсць грамадзянін.

**Э.Акулін.** У нас зусім іншая сітуацыя, чым у суседзяў. Беларускі рок таксама працуе на айчынную культуру. І калі мы гаворым пра песню як пра сродак выжывання нашай культуры, то трэба мець на ўвазе і песні рок-гуртоў, і эстрадныя, і бардаўскія. Іншая справа — ёсць розныя густы.

**У. Карызна (м.).** Густ выхоўваецца. І чалавек, які ніводнага класічнага кампазітара не чуў, ніколі яго і не палюбіць. І наадварот. Зрэшты, рок — гэта вельмі разнастайнае паняцце. Беларуская эстрада — гэта таксама рок.

**Л.Рублеўская.** Дзесьці я вычытала цікавую думку, што рускі рок у свой час зрабіў перабудову, падрыхтаваў для яе глебу. І наша беларуская рок-музыка і бардаўская песня канца васьмідзесятых зрабілі беларускае адраджэнне. Няхай гэта было яшчэ прафесійна недасканала, наіўна, але галоўнае было — нацыянальная ідэя, нацыянальны рамантызм, калі хочаце.

**Э.Акулін.** Рок-музыкі і барды таго часу адраджалі нацыянальную свядомасць.

**Дзмітрый Лыбін.** Я ўважліва ўсіх слухаў, але ў мяне ўражанне, як ад размоў дзвюх бабулек — суседак па лецішчы: "Над маім участкам сёння ішоў дождж, вымачыў маю цудоўную бульбу. Мачыў бы ўжо лепш суседзяў — у іх там нейкае замежнае зелле расце". Гэта бяда нашай беларускай ментальнасці. Кожны перажывае толькі за сваё. Праблема, пра якую мы гаворым, значна шырэй, чым тут прагучала. Вось яна закранула песенны жанр, і ўзрушыліся кампазітары і паэты, якія маюць да гэтага жанру дачыненне. Але Яган Себасцьян Бах дакладна такая ж народная нямецкая з'ява, як і швабская або цірольскія народныя песні, і ніяк нельга адасобіць яго ад культуры нямецкага народа паводле той прыкметы, што ён высокі прафесіянал. Гэтак жа беларуская культура, музычная і паэтычная, — напэўна, не толькі песня. Не думаю, каб тут была наша абмежаваная нацыянальная праблема. Прыблізна ў той жа сітуацыі, у якой зараз апынулася беларуская песня, знаходзіцца сёння і ўсякая добрая і больш-менш мастацкая з'ява. З тымі ж праблемамі сутыкнуліся яшчэ раней і іншыя жанры музычнай і паэтычнай культуры. Справа не ў тым, на якія словы — беларускія ці рускія, якім кампазітарам — з кансерваторскім дыпломам ці без гэткага — напісана песня, або хор, або сімфонія з хорам... Важна — як гэта зроблена, пa-мастацку — ці не надта па-мастацку. І на маю думку, сутнасць — менавіта ў ацэнцы мастацкасці тае ці іншае з'явы. Не таму "Зорка Венера" пяецца столькі гадоў, што яе стварыў добры паэт і прафесійны кампазітар. А таму, што яна з'яўляецца высокамастацкім творам. У супрацьлеглым выпадку было б усё адно, хто яе стварыў. Праблема экстрапалюецца ў матэрыяльную галіну. Штосьці падтрымліваецца дзяржавай, штосьці — не, і гэтую сітуацыю нам хацелася б змяніць да лепшага. Зараз шырока развіваюцца ўсемагчымыя шоу-жанры, разлічаныя на камерцыйны поспех. А відавочна, што Беларусь па агульным узроўні адукацыі і культуры насельніцтва не першая краіна Еўропы. Таму найбольшы поспех у масавай аўдыторыі атрымліваюць, як заззвычай, найбольш зразумелыя рэчы. Тое, што вымагае ад аўдыторыі наяўнасці інтэлекту, нейкай папярэдняй мастацкай адукацыі, не мае шырокага поспеху. Другая праблема — у размеркаванні тых сродкаў, якія выдаткоўвае дзяржава на развіццё культуры. Павінен быць нейкі прыярытэт у мастацкім адборы таго, што гучыць і паказваецца. У нас, на жаль, асноўны напрамак размеркавання няйначай як папуліцкім не назавеш. Падтрымліваюцца тыя самыя рэчы, якія ў іншых краінах не толькі дзяржавай не фінансуюцца, але і абкладаюцца падаткам на карысць развіцця прафесійнай культуры, агульнай адукацыі, паднясця культурнага ўзроўню аўдыторыі. Хваля ўсемагчымых фестываляў з пакасам даволі таннай, у мастацкіх адносінах, творчасці топіць мастацкую культуру. Беларускую — у тым ліку. Гэта адбываецца не толькі ў жанры песні. Тыя структуры, што адказныя за дзяржаўную падтрымку, не зважаюць на мастацкасць. Яны павернутыя тварам да камерцыйных інтарэсаў. У песні сітуацыя яшчэ не такая страшная, як у галіне акадэмічных музычных жанраў.

**Л.Рублеўская.** Магчыма, увага менавіта да песні звязаная з тым, што песня з'яўляецца самым даступным і эфектыўным сродкам прапаганды пэўных каштоўнасцяў, аж да "замбіравання", кшталту рэкламных ролікаў.

**Д. Лыбін.** Вядома, так. Якую б ідэалагічную нагрузку ні ўкладвалі ў оперу ці сімфонію, каб успрыняць класічны музычны твор, слухач задзейнічае свой інтэлект, прапускае пачутае праз свядомасць і такім чынам крытычна ацэньвае. А на эстрадзе ўсё інакш. Затое калі параўнаць ганарар нашага эстраднага артыста і філарманічную стаўку, думаю, у працэнтных адносінах атрымаецца тое самае, што ганарар расійскай эстраднай "зоркі" (за які можна было б правесці міні-фестываль камернай музыкі) у параўнанні з ганарарам "зоркі" беларускай. Трэба, каб уладныя структуры, адказныя за развіццё культуры, падтрымлівалі мастацкасць ва ўсіх жанрах, а не пэўную ідэалагічную функцыю. Відавочна, што шэраг сённяшніх мерапрыемстваў у шоу-бізнесе мае дастаткова выразную ідэалагічную афарбоўку. Толькі тады, калі мастацкасць пачне пераважваць над прыкладной ідэалогіяй, мы можам разлічваць, што і высокамастацкая песня, і не абы-якая сімфонія атрымаюць падтрымку. А для гэтага трэба задаць пытанне: наколькі тыя, хто кіруе развіццём культуры, у гэтым разбіраюцца?

**У. Карызна(ст.).** Калісьці наш класік Семяняка на адным з мастацкіх саветаў радыё, дзе я прысутнічаў, з болем казаў, што мы забыліся пра творчасць Цікоцкага, Пукста, Туранкова... Ужо і ён сам, маўляў, нікому не патрэбны — малады Захлеўны прыйшоў. А Леанід Захлеўны збянтэжана апраўдваўся: "Юрый Уладзіміравіч, ужо і мяне не прызнаюць студэнты 2-3 курса кансерваторыі. Кажуць, адстаў, а яны цяпер наперадзе". А кантата Леаніда Захлеўнага "Вянок" на народныя тэксты тады часта гучала ў эфіры. У ёй і традыцыі народныя, і прафесійнае майстэрства. Як Захлеўны адчуваў хор, аркестр, якая ў яго аранжыроўка! У яго песнях — вострая, сучасная аркестроўка, але захаваны народны характар, душа: і гэта не прымаецца?! Мы кажам: няма цяпер оперы, няма балета, няма сімфоніі. Дык чаму? Не толькі таму, што сёння кошт сімфоніі — гэта кошт трох песень. Яны, як і добрая беларуская песня, незапатрабаваныя! Мой знаёмы, вядомы артыст балета, доўгі час папрацаваўшы ў Італіі, зрабіў выснову, што нават славуты "Ла Скала" зломлены нашэсцем мас-культуры! У Францыі з той жа прычыны няма сучаснай нацыянальнай песні. У Расіі творчасць Пахмутавай ужо не модная! Наконт пратэсту ў мастацтве Алесь Бадак мае рацыю. Вось толькі не трэба шалець у сваім пратэсце і абвінавачваць народ у несвядомасці і адсталасці.

**Э. Акулін.** Калі ўжо рускія гавораць, што культура іхняя акупаваная Захадам, тады нам трэба весці гаворку пра акупацыю нашай культуры не толькі заходняй, але і расійскай маскультурай.

**У. Карызна (ст.).** Гэта агрэсія расійскай, маскоўскай рок-музыкі, пустазвоннай папсы. А руская, савецкая, класічная песня для беларусаў дарагая, як і родная.

**Э.Акулін.** Перадача "Спявай, душа народная!", якая гучала апошнім часам на радыё, мяне вельмі засмучала. Калі ў эфір тэлефануюць людзі і адну за другой спяваюць песні па-руску, я пачынаю думаць: "А дзе ж ты, душа народная?" Таму я хацеў бы, каб сёння мы гаварылі не пра абстрактную, а ўсё-ткі пра нацыянальную песню. Калі "Ляпис-Трубецкой" спявае па-руску — гэта не беларуская з'ява. Ці ёсць яшчэ гурт "Леприконсы"... Іх круцяць і ў Еўпаторыі, і на рынках у Маскве, але гэта не беларуская эстрада, не беларуская песня!

**У. Карызна (м.).** Гэта ўвогуле не той узровень, пра які варта гаварыць. Ведаю людзей: ні музычнай адукацыі, ні музычнага выхавання, якія запярэчылі б зараз: "Гэта кру-у-та!"А што ў тым "Ляписе" крутога?

**Д. Лыбін.** Калі тэксты таго "Ляписа" перакласці на беларускую мову — што, атрымаецца беларуская песня? І гэты рок, які пратэстуе... У 70—80-я гады я разумеў, супраць чаго ён пратэстуе, была нейкая палітычная афарбоўка. А цяпер? Можа, ён пратэстуе ўжо супраць мастацкай культуры? Пасля трагедыі на Нямізе, якой папярэднічаў рок-канцэрт з раздачай піва — паблізу храмаў, у свята Тройцы, высокія чыноўнікі казалі: "Мы не разумеем, чаму гэтак адбылося". Дык магу сказаць, чаму. Таму што там гучаў не Моцарт, а "цяжкі" рок. Нават не Глебаў, не Пахмутава. І калі б там гучаў "цяжкі" беларускі рок, хіба вынік быў бы іншы? Калі на ўпакоўцы наркотыка зрабіць надпіс па-беларуску, ён хіба зробіцца бясшкодным?

**А. Бадак.** Страшней за ўсё, калі мы пачнём ганіць не той ці іншы канкрэтны твор, а цэлы музычны жанр ці стыль! Гэта мы ўжо праходзілі! Да таго ж, перш чым нешта забараніць ці сказаць, што гэта кепска, трэба спачатку даць нешта іншае. Знайдзіце замену року, але каб моладзі гэта хацелася слухаць. Тыя 17-гадовыя дзяўчынкі і хлопчыкі, якія загінулі на Нямізе... Што вы маглі ім прапанаваць? На Глебава, на Семяняку яны б не пайшлі.

**У. Карызна (м.).** Алесь, калі б яны пайшлі на Семяняку, Глебава і Лучанка, яны б не загінулі!

**А.Бадак.** Ды не пайшлі б яны на іх, разумееце! Ды і, самае галоўнае, песням Семянякі месца ў канцэртных залах, а не на адкрытых пляцоўках, дзе процьма п'яных, якім усё роўна, якая гучыць музыка...

**У. Карызна (ст.).** Прычына — у выхаванні. Калі б яны пайшлі ў філармонію, засталіся б жывыя...

**Л. Рублеўская.** Або ў царкву...

**У. Карызна (м.).** Калі не выхаваць разуменне музыкі ў дзяцінстве, у 17 гадоў гэта рабіць позна.

**У. Карызна (с.).** Ёсць мудрае выслоўе: сапраўдная культура насаджаецца. І рабіць гэта нялёгка і дорага. "Танная" ж маскультура прыдатная толькі для выхавання нахабства і подласці.

**А.Бадак.** Нельга быць у сваім часе... мамантамі.У Францыі выхоўваюць не толькі на творах Бальзака, у Расіі — не толькі Пушкіным, у Амерыцы — не толькі Драйзерам. Сённяшнія 18-гадовыя глядзяць на свет іншымі вачыма, чым іх бацькі ў гэтым узросце. Давайце паспрабуем зразумець іх, перш чым казаць, што вось яны такія-сякія... Па вялікім рахунку, мы не працуем для іх. І таму нас для іх і няма.

**У. Карызна (м.).** Дык вось таму, што з дзяцінства падмяняюцца каштоўнасці, гэтага слухача ў нас і няма.

**Э.Акулін.** Мне здаецца, што мы едзем у адным вагоне, але ў розных купэ...

**У. Карызна (м.).** І ў розных напрамках...

**Э. Зарыцкі.** Хутчэй, у розных напрамках, але ў адным купэ!

**Э. Акулін.** Эдуард Зарыцкі, які мае дачыненне да арганізацыі песенных фестываляў, павінен зрабіць нейкія высновы з сённяшняй размовы. Каб да ўдзелу ў іх запрашалі і бардаў, і рок-музыкаў, і эстраднікаў. Калі б кампетэнтнае журы ўважліва падыходзіла да адбору рэпертуару, думаю, у кожнага аўтара знайшліся б дзве-тры вартыя ўвагі песні. І, магчыма, на такіх фестывалях мы маглі б "перасякацца" — паэты з кампазітарамі, рокеры з бардамі. І чаму б на секцыю паэзіі Саюза пісьменнікаў не запрасіць нашых маладых кампазітараў? Няхай бы паслухалі маладых паэтаў. Калі кампазітары, прабачце, не чытаюць паэзію, калі яны не арыентуюцца ў сучаснай літаратуры, яны ніколі не напішуць высокамастацкі твор, песню. Пакуль нейкі нахрапісты графаман нясе адзін, другі, трэці раз кампазітару свой тэкст, а сціплы таленавіты паэт гэтага не робіць, чакае, што сам кампазітар дзесьці прачытае яго верш і натхніцца, ніякага сапраўднага супрацоўніцтва ў нас не атрымаецца. Мы павінны не суіснаваць у розных купэ, а, магчыма, узяць квіткі ў агульны вагон і ехаць разам.

**Л. Рублеўская.** Сапраўды, дзве музы павінны сінтэзавацца. Але часам робіцца ўражанне, што муза музыкі ўспрымае музу паэзіі толькі ў якасці прыслугі, "спажывае" яе ў выглядзе тэкстаў. Нават паэта, якога ведаюць дзякуючы песням, успрымаюць не як паэта, а як аўтара тэкстаў. А здараецца, што гэта проста... розныя асобы! Вось — яго паэзія, глыбокая, філасофская, і вось — тэксты, напісаныя на "рыбу" ці ў разліку на песеннае ўвасабленне. Прагучала ўжо думка, што не кожны добры паэт можа быць аўтарам песні. І мне прыгадалася наша "гарбата", прысвечаная беларускай драматургіі, калі адзін вядомы рэжысёр скардзіўся на адсутнасць маладых драматургаў і патрабаваў "тэатральнай" п'есы. Яму, маўляў, "літаратура" ў тэатры не трэба, а патрэбная п'еса "тэатральная". Каб адразу ўсё было зразумела: і рэжысёру, як ставіць, і артыстам, як іграць, і гледачу — дзе смяяцца, а дзе плакаць. У той час як Станіслаўскі калісь змагаўся з тэатральшчынай і патрабаваў ад тэатра, каб ён ішоў менавіта за высокай літаратурай, і на першае месца ставіў яе, раскрываў для гледача глыбінныя думкі аўтара і гэтак далей. Тое ж і з музыкай... І ўвогуле, паэзія можа сутыкацца з музыкай не толькі на глебе эстраднай песні. Чаму пра гэта забываюць? Нядаўна ў касцёле святога Роха адбылася прэм'ера сімфоніі, напісанай нямецкім кампазітарам Готлабам фон Врохемам на тэкст паэмы Алеся Разанава. Кампазітар пачуў гэты твор у перакладзе на нямецкую на літаратурнай вечарыне ў Берліне, натхніўся. Зрабіў падарунак і паэту, і беларускай публіцы — бо дзейнічаў дабрачынна. Праўда, сімфонія аказалася канцэптуальнай, выконвалася з дапамогай раяля і шкляных шарыкаў...

**Э. Акулін.** Таму і з'явіліся шкляныя шарыкі, што Разанаў — не паэт-песеннік, а паэт-філасаф.

**Л. Рублеўская.** Вядома, кампазітару-песенніку тую паэму пакажы, ён скажа: пры чым тут музыка? Але тут судакрананне адбылося. І адбылася падзея, пасля якой людзі разважалі пра лёс цывілізацыі і шляхі сучаснага мастацтва, а не пра "увезу тебя я в Сочи".

**У. Карызна (ст.).** Нейкая ў нас, беларусаў, традыцыя: здзіўляцца ўсяму, што "адтуль" прыйшло. А што сваё вялікае ёсць — забыліся.

**С.Берасцень.** Паэзія і музыка — істоты родныя. Падобныя чымсьці нялюдным, хаця цудоўна жывуць адно без аднаго.Затое калі сустракаюцца і дасягаюць вышэйшага суладдзя, узнікае новая мастацкая рэальнасць. Чаму ж у нас шлях гэтых муза́ў адна да адной такі цяжкі, нібыта пралягае па бездарожжы? Калі б у нашых творцаў была большая цікавасць адно да аднаго, а яшчэ — элементарная павага, неабавязкова захапленне ці любоў, —не было б гэтага адчування "бездарожжа". Адчуваўся б устойлівы грунт, пласт культуры. А пакуль многія з'явы культурнага жыцця робяць эфект снежнага сумёту: вецер намёў гурбу, назаўтра разнёс па цаліку — як і не было. Роўна ўсё, спакойна — да наступнай завірухі (ці завірухі). Факт звароту нямецкага кампазітара да творчасці Алеся Разанава, безумоўна,

*(Заканчэнне на стар. 10—11)*

## «Я — чалавек»

Яшчэ адна надзіва арыгінальная кніга, адрасаваная самым маленькім, з'явілася ў выдавецтве «Юнацтва» — «Я — чалавек». Як відаць з назвы, асноўная мэта яе — пазнаёміць хлопчыкаў і дзяўчынак з імі ж самімі. Даць уяўленне аб органах пачуццяў, дзякуючы якім чалавек і знаёміцца з акаляючым светам, спасцігае яго і ў гэтым пазнанні фарміруецца як асоба. А пабудавана кніжка такім чынам, што малюнкі, аўтар якіх мастачка М.Цімохава, з тэкстамі складаюць адзінае




цэлае, узаемна дапаўняючы сябе. Адкрываецца зборнік невялікім вершам Нэлі Тулупавай «Маміна дачушка»:

*Гэта — вочкі,*
*Гэта — носік,*
*Гэта — роцік,*
*Гэта — вушкі,*
*Гэта — маміна дачушка.*

Тэкст надрукаваны так, што кожны радок «падмацоўваецца» адпаведным органам пачуццяў чалавека, а пасля змешчана выява дзяўчынкі. І іншыя творы падаюцца гэткім жа чынам: на фоне маляўнічых, цікавых ілюстрацый, як і верш Таццяны Мушынскай «Гарэзныя вочкі»:

*Ой, якія вясёлыя вочкі*
*У гарэзы, гарэзы сыночка!*
*Ён, свавольнік, дурэе, рагоча,*
*Насмяшыць сваёй хітрасцю хоча.*

У наступных жа строфах вочкі ўжо не вясёлыя, а шкадлівыя, спагадныя.

У Алеся ж Камароўскага іншая тэма, таму і называецца верш «Пальчыкі»:

*Любяць працу,*
*Летуценяць*
*Дзесяць пальчыкаў маіх.*
*Спачываюць на каленях,*
*Ды нядоўга — толькі міг.*

*Пальчыкі, пальчыкі.*
*Скачуць так, як зайчыкі,*
*Падкідаюць мячыкі*
*Паль-чы-кі!*

А поруч вершы Уладзіміра Карызны, Уладзіміра Мазго, Яўгена Хвалея, Міколы Маляўкі, Генадзя Аўласенкі, а таксама рускамоўныя — як аўтарскія, так і ўзятыя з фальклору. Да ўсяго У.Карызна прапанаваў і песенныя загадкі. Таксама пра вочкі, ножкі, вушкі, зубкі, ручкі. І кожная з іх вельмі дасціпная, а адказ лёгка рыфмуецца, таму яго не так і цяжка знайсці:

*Выйшаў месяц пагуляць,*
*Сеў каля дарожкі.*
*Каб з Алесяй бегаць стаў,*
*Дайце яму...*

Ножкі і намаляваны справа, тут жа і адказ. Ці яшчэ прыклад:

*У гародзе на градзе*
*Шмат салодкай бручкі,*
*А каб вырваць, трэба мець,*
*Як у Янкі...*

Прыкладна ў сярэдзіне кнігі, на развароце, змешчана выява сімпатычнага хлопчыка, а побач тэкст: «Пакажы, дзе ў хлопчыка вочкі, носік, роцік, шчокі, вушкі, валасы, ручкі, пальчыкі, ножкі...»

Несумненна, што зборнік «Я — сам» будзе з задавальненнем сустрэты і выхавацелямі дзіцячых ясляў і садоў, настаўнікамі малодшых класаў, стане ў іх паўсядзённай рабоце свайго роду настольнай кнігай.

Алег ГУЛІЦКІ

ПАЭЗІЯ

Васіль ЗУЁНАК



# Кастрычніцкія вершы

•

*Ніхто не чуў, ніхто не бачыў,*
*Калі жаўрук знікае ў вырай, —*
*Напэўна, сам сабе паплача,*
*Згубіўшы веснія клавіры...*

*І моўкне неба, і на сховы*
*Ключы ад лета шле за мора,*
*І мокне песня жаўрукова*
*На ветры золкім у разоры...*

## Такая была цішыня...

*Такая была цішыня:*
*У канюшыне ад мёду*
*Прыцмокнула зайчаня,*
*А луњ пачуў з асалодай;*

*Надрэчныя лазнякі,*
*Як ад ветрыку, хвалю гайдалі,*
*Калі ў цянёк матылькі*
*Шасцікрыла з лугоў заляталі;*

*Ратоўны паветра глыток*
*Закіпаў у буслової дзюбе;*
*Сойка цямнейшы куток*
*Шукала ў разгалістым дубе;*

*Нават сонца само астудзіцца*
*Ў вір загнала гарачыня... —*
*А таму і не трэба дзівіцца,*
*Што такая была цішыня...*

•

*Куды паехала свята —*
*Вясёлае і маладое,*
*Якою замовай закляты*
*Той шлях у часу прадоннє?..*

*Расстайны шлях перадснежны,*
*На стылых вятрах здранцвелы...*
*Няўжо гэта тое бязмежжа,*
*Дзе душы злятаюць ад цела?..*

*Самотны шлях, дзе вяртанняў*
*Хіба ўжо так і не бывае?.. —*
*Наіўныя ўсё ж пытанні*
*Штогод лістапад навявае...*

•

*На асеннім узвалку*
*Вецер жоўта кіпіць —*
*Кожны ліст, як запалка,*
*Непагасна ляціць.*

*Палымнее асіна*
*І агонь раздае —*
*Застаецца драўніна,*
*Цёмны смутак яе.*

*Ды крыло тэхналогій —*
*Уяўляецца мне —*
*Раптам з вывучкай строгай*
*Над асінай махне.*

*Быццам так і павінна*
*Шлях закончыць яна:*
*Кажуць, лепшай драўніны*
*Для запалак няма.*

*Не ламаюцца крохка*
*Ў цвёрдых пальцах начэй,*
*Узгараюцца лёгка,*
*А ўзлятаюць — лягчэй.*

*Ціха свецяцца й ясна,*
*Не смыляць, не чадзяць, —*
*Хоць не дужа сучасна —*
*Цемры ў вочы глядзяць.*

*Так асіна скрыжалі*
*Асвятляе свае,*
*Што калісьці назвалі*
*Грэшным дрэвам яе...*

*Захінайце ж, далоні, —*
*Нібы з лёгкай рукі,*
*Хай ляцяць з абалоні*
*Над зямлёй матылькі.*

*Дрэва светла асіліць*
*Векавечны праклён, —*
*У асенняй асіне*
*Спіць запалак мільён.*

## Штэмпель

*Яраслаў Васіліч Смелякоў*
*У застоллі пасля пятай чаркі*
*Плішчыўся запэўніць землякоў,*
*Што і ён ад беларускай скваркі,*

*Што і ён не дурань закусіць*
*Салам "Белавежскую" й "Зуброўку",*
*І — "у рыфму" — пачынаў "касіць",*
*Па-зямляцку тосты "будзьздароўкаў"...*

*І з кішэні "тот, бесценный, груз" —*
*Каб (пад Маякоўскага) засведчыць,*
*Што і ён, нарэшце, беларус, —*
*Даставаў з паставаю важнечай...*

*А было для пахвальбы адно:*
*Быў ад беларуса толькі штэмпель...*
*І было няўзнакі, што даўно*
*Зжэрлі корань "камунізму тэмпы"...*

*І застолле ўдзячнае гуло,*
*Што аддаў ён пашпарту на сховы*
*Цэлае жыццё, што адцвіло*
*Лёсам палахлівых смеляковых...*

•

*Бярозы. Магілы.*
*Як здань у вачах:*
*Чорныя крылы.*
*І крык крумкача.*

*Дзе слёзы ліліся,*
*Пясочак жаўцеў... —*
*Калі пасяліўся,*
*Адкуль прыляцеў?..*

*У змрочным чаканні*
*Глядзіць на крыжы —*
*І вусцішна стане*
*На кожнай душы.*

*Стваллы стрыжнявыя*
*Паспелі для трун.*
*І моўкнуць жывыя*
*Пад грознае: "Крум..."*

*Як лёс — непадступны:*
*Пытайся ці плач —*
*Аб тым, хто наступны,*
*Не скажа крумкач...*

•

*Religo — "зноў звязаць", "злучыць" —*
*Адказы ўсе на ўсе пытанні*
*Сказаць, калі душа маўчыць*
*Перад нябёс наканаваннем.*

*Рэлігія — звініць латынь*
*І кліча музыкай арганнай —*
*Паверыць зноў, як верыў ты*
*Яшчэ за тымі берагамі, —*

*Калі яшчэ зямной мяжой*
*Не быў узяты на запоры,*
*Калі зліваўся ты душой*
*З бясконцым часам і прасторай...*

*Зноў разарванае звязаць,*
*Зноў па складах нябёсаў кнігу,*
*Табой забытую, чытаць*
*З прачыстай вераю — religo...*

## У люстэрку Свіцязі...

*Дубоў града і ў градабой і ў замець*
*Харугвы непакорныя калыша.*
*Замкі вякоў на замкавым узвышшы*
*Вартуюць ад няверцаў нашу памяць.*

*Нішто блакіт высокі не запляміць —*
*У згодзе ён са свіцязанскай цішай,*
*І зорныя санеты неба піша*
*Рукой Міцкевіча,*
*каб дух ліцвінскі ўславіць.*

*Сівыя курганы паданні сняць:*
*Каб сцвердзіць край,*
*Міндоўг шыхтуе раць*
*І стольны горад праз вякі бароніць...*

*Навагрудак... Званы зямлі звіняць*
*І сэрцы акрыляюць нашы сёння,*
*Як рэха несмяротнае Пагоні...*

## Перавага

*Драч горла дзярэ на тры паплавы,*
*Бо ў лазняку салавей зацёхкаў...*

*"О, як крушына крышыцца крохка..." —*
*Зайздросціць травінка з ніцай травы...*
*А ўнізе паўзе чарвяк дажджавы:*
*Туды — сюды... —*
*не заносіць, не дрогка...*
*Дзе зад, дзе перад?.. — Якія правы?!. —*

*Дальбог, чарвяку жывецца лёгка,*
*Бо ў чарвяка няма галавы...*

## Вечна...

*Вечна: муза для ўлады,*
*Як у воку бяльмо.*
*Вечна: служба ці здрада, —*
*Як натхненне само...*

*І на ўзбочынах вершаў,*
*І ў кюветах навел*
*Вока пільнае "смерша"*
*Глядзіць у прыцэл.*

*"Смерць шпіёнам" — як лозунг,*
*Як творчасці ўздым, —*
*Каб паэзія з прозай*
*Не збівалі хады.*

*Спрэс — аблавы, заставы,*
*Вартавыя сычы:*
*Крок улева ці ўправа —*
*За ўцёкі лічыць.*

*Вечна: гэткі парадак —*
*Са штыком і пяром...*
*І пакуль будзе ўлада —*
*Творцу быць змагаром.*

•

*Пытаюся — і мне гучыць адказ,*
*Але не той, не самы, не галоўны,*
*І перапытваць — зразумеў — не час,*
*Ці проста: для смяротных нетактоўна...*

*Натое і памежжа паласа*
*Адзначана: спазнаць усё — замнога...*
*А з кім я гавару — не знаю сам:*
*Ці з космасам, ці з вечнасцю,*
*ці з Богам?..*



Фота Г. ЖЫНКОВА

ПРОЗА

***Іван Пташнікаў не з тых, хто разменьваецца на дробязі. Не прылічыш яго і да тых, хто спяшае надрукавацца. Маючы талент глыбіннай сілы, ён надзіва ашчадна ставіцца да слова, а за пяро бярэцца толькі тады, калі не можа не пісаць. Таму Іванам Мікалаевічам як быццам напісана не так і шмат. Аднак гэта лішні доказ таго, што сапраўдная літаратура ніколі не вымяраецца колькасцю створанага тым ці іншым аўтарам. Яна падпадае пад іншае вызначэнне, хоць само па сабе яно далёка не кожнаму падабаецца. Ды ў дачыненні да І. Пташнікава супраць ісціны не пойдзеш — гэтая жывая класіка. Наша беларуская класіка. Нацыянальная класіка. І падобнае вызначэнне тычыцца любога — увогуле рэдкі ў літаратуры выпадак — пташнікаўскага твора. Тым больш апавядання “Пагоня”, гонар надрукаваць якое першаму некалькі гадоў таму выпаў “ЛіМу”.***

***Цяпер такі гонар мае часопіс “Беларуская дума”, які ў першым—пятым нумарах за сёлетні год друкуе “Ненапісаную аповесць” І. Пташнікава. Сама назва новага твора пісьменніка зноў жа сведчыць на карысць таго, што Іван Мікалаевіч з-за сціпласці (яго б сціпласць ды і нам) даў аповесці менавіта гэтую, а не іншую назву. Як быццам сцвярджае: аповесць усяго фрагменты да чагосьці іншага, больш значнага, што павінна было напісацца, але не змагло. У сапраўднасці ўсё інакш. Перад намі і гэтым разам твор, за гонар мець які палічылі б у сваім набытку многія ганараваныя рознымі званнямі і ўзнагародамі пісьменнікі. Упэўніцца ў гэтым можна нават па адным, чацвёртым, раздзеле “Бацька”, які “ЛіМ” і прапануе ўвазе сваіх чытачоў.***

***У “Ненапісанай аповесці” І. Пташнікавым так шмат сказана, што іншаму не дадзена гэта зрабіць і ў “поўнаметражных” раманах. Лёгка пазнаеш менавіта пташнікаўскую прозу — сакаўную, багатую моўнымі дыяментамі, глыбока псіхалагічную. Гэта такая проза, што падпадае пад вызначэнне ЧАЛАВЕКАЗНАЎСТВА. Калі хочаце — яна ў нечым элітная. І разам з тым блізкая і зразумелая кожнаму. Бо гэта само жыццё. Жыццё, падгледжанае пільным вокам аднаго з самых выдатнейшых сучасных беларускіх пісьменнікаў, які даўно з’яўляецца народным па прызванні.***

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

Іван ПТАШНІКАЎ

# НЕНАПІСАНАЯ АПОВЕСЦЬ



## Бацька

Пайшла ад нас наша змучаная і схварэлая Рабіна, і, не дачакаўшыся і года пасля яе, у лютым, у самы снег і мароз пайшоў за ёй ад нас і наш бацька... Адпусцілі яго перад гэтым — з паўгода назад — з калгаса на адзін толькі год на работу ў леспрамгас вартаваць участак: кантору, канюшню, кузню, ды розныя там лесапілкі-сушылкі, бо трэба было ўжо даўно выплачваць крэдыт — пяць тысяч, што ўзялі ў дзяржаве на хату,— нават фінагент дамоў прыходзіў. Гразіўся апісаць усё, што было ў хаце. А ў хаце ў нас, акрамя трох драўляных ложкаў, што зрабіў з дошак сам бацька, ды стала-козлаў — і яго ён зрабіў сам — нічога не было.

І лепш бы бацька не хадзіў у той няшчасны леспрамгас за якую там сотню-другую рублёў... Гэта рэзчыкі з піламі маглі за месяц выганяць тысячы. А ён з хворымі лёгкімі прастыў на тым участку ноччу на марозе і схапіў двухбаковае крупознае запаленне лёгкіх. Згасаў ён на вачах ад вялікага палу і без зелля. Адвезлі яго нарэшце на санях у мароз у Плешчаніцы ў бальніцу, бліжэй бальніц не было, а дарога занесеная снегам, доўгая. Вечарам прывезлі, а назаўтра раніцай пазванілі на ўчастак з бальніцы: памёр...

Пра смерць у нас у хаце не любілі гаварыць. Рэдка ўспаміналі, што ў сорак пятым зімой, калі мы пасля вайны жылі «ў вуглах» у Танькі, пахавалі бабку Верку — памерла ад сыпнога тыфу; яшчэ раней, да вайны, пахавалі двое самых старэйшых дзяцей: Надзю і Віцю, але калі мы з бацькам засталіся раз удваіх у хлеве, ён паказаў на тоўстыя дошкі-дылі на вышках пад старым сенам:

— Мне на «хату», сын... Помні, дзе ляжаць... — адвярнуўся, і мы выйшлі скоранька з хлева. Бацька трымаў дошкі ў запасе.

Я пасля таго баяўся лазіць у хлеве на вышкі, нават не хацелася глядзець туды з праціўні на ластаўчына гняздо пад страхой на матачыне, дзе азываліся маленькія ластавачкі ў ладным шэранькім «мяшэчку», злепленым клінком, як асіны каўпачок.

Ляжаў бацька ў сваёй новай з добра абгабляваных сасновых белых дошак «хаце» — габлявалі цэлую раніцу і збівалі яе на двары ля хлева мужчыны з вёскі: Савэрка Міронаў, Кастусь Язэпчык, Валодзя Якубёнак і Кароль Курачоў — усе дваюрадныя ці траюрадныя яго браты,— ляжаў, чыста паголены, белы з твару, з зачэсанымі, як усягды, на рад сівымі валасамі — пасівеў ён рана, яшчэ да вайны,— ляжаў такі прыгожы і... усміхаўся: і вуснамі, чуцьчуць падцягнуў, абазначыўшы ямачкі на шчоках, і бровы падняў угару над заплюшчанымі лёгенька вачыма...

Гэтага — бацькавай усмешкі ў дамаўі з абгабляваных дошак — я стрываць не мог. Што-што, а каб усмешка... Зірнеш бацьку ў твар, як жывому,— хапае нешта, як рукой, за грудзі, цісне сухім калючым болем, душыць за горла, і падкошваюцца ногі. Падаеш яму на халодныя, як толькі што з двара, з марозу, рукі і крычыш нема, не чуючы, што крычыш і што крычыць нехта яшчэ збоку — на ўсю хату...

Калі я супакойваўся ля дамавіны — мяне, як усё роўна некуды адносілі, узяўшы на рукі — маці, ці хто? — і адтуль, аднекуль здалёку мне здавалася, што бацька жывы, што ён не ляжыць у дамаўі, а мы з ім ідзём па далёкай-далёкай дарозе... Дарозе не відаць канца, яна высака-высака паднялася ўгару; пад нагамі сухі брук і вострае каменне, над намі ўгары цёмнае неба з калючым маладзіком і ядранымі дробненькімі зоркамі, а мы ідзём па шашы ў Плешчаніцы — вядзём здаваць нашу Рабіну...

Цяпер ён перада мной нідзе больш не паяўляўся: ні ў Цянях на балоце, ні на лузе ля Віліі на Кратоўцы, дзе мы махалі косамі, ні на полі, ні ў агародзе за плугам, ні з пілой ці з тапаром у лесе, ні на калгаснай ферме, ні на леспрамгасаўскім участку ля канюшні ці ў канторы,— ён стаяў у мяне жывы перад вачыма толькі на шашы ў Плешчаніцы з Рабінай... Адкашляецца, схапіўшыся рукамі за грудзі, ад пылу, і мы зноў, накрыўшы Рабіну фуфайкай, ступаем і ступаем па вострым бруку. А дарога падымаецца ўсё вышэй і вышэй — пад самы калючы маладзік...

Назаўтра пасля палудня мы адвезлі бацьку ў дамавіне на санях, засцеленых яловымі лапкамі, на могілкі пад Сушкава. Мужчыны, усё тыя ж, што рабілі дамаўё, капалі аж дагэтуль яму. Зямля была глыбака прамёрзлая, і яны клалі спачатку агонь, чакалі, пакуль зямля адтане, дзяўблі ломам, тады зноў клалі агонь ніжэй: не пакладзі, не адагрэй — з-пад лома ляцяць толькі іскры, так умерзся пясок. Усё тыя ж: Савэрка, Кароль, Якубёнак і Язэпчык апусцілі на лейцах дамаўё з бацькам у глыбокую-глыбокую жоўтую яму, насыпалі зверху капец з жоўтага пяску, перамешанага з белым снегам і чорным вуголлем ад агню, і паставілі на магілу беленькі сасновы крыж, перавязаны чорнай істужкай. Здавалася, што з крыжа, як некалі ў бацькі з рота, ішла кроў, і крыж перавязалі, туга сціснуўшы, каб яе спыніць...

Калі мы, ужо вярнуўшыся з могілак, памінали бацьку за сталом — сталы, пазычаныя ў суседзяў, пастаўлены былі на ўсю хату, аж да парога, над сталамі дзве лямпы: адна, падвешаная на першую бэльку на куце, другая на апошнюю ў парозе,— а, памянуўшы, людзі ціхенька разышліся з хаты на мароз, у хаце асталіся толькі мы, дзеці, наша маці, знямоглая і ціхая, і яе родная сястра Наста з Грыневіч і цішыня — глухая, дзікая, калючая... Лезла ў вушы, востра падсвечаная зверху дзвюма лямпамі, халодная, аж пакуль не пазачынялі за людзьмі дзверы: стаялі аж дагэтуль адчыненыя і ў хаце, і ў сенчаках, пасыпаных жытнімі зярняткамі. Сыпалі наперад пад ногі, калі выносілі ў дамаўі бацьку...

Зачынілі дзверы і самі апынуліся ў глухаце, як у магіле... Маці трымалася ўвесь час да апошняга — трымалі людзі, а, астаўшыся з намі, падышла да нас, сабрала ўсіх у кучку, прыгарнула да сябе, абняла і загаласіла на ўсю хату: «А дзеткі ж мае...» Закрычала нема на ўвесь голас, і яе нельга было нічым суцішыць. Мы загаласілі ў адказ, просячы: «Мамка, не плач...» — і новая, складзеная з калгаснай пуні бацькавымі рукамі хата, так напялася ад плачу і крыку, што гатова была разваліцца: страха — сабе, сцены — сабе...

Добра, што была Наста. Яе прывезлі з Грыневіч у санях адразу, калі памёр бацька. Нам пазванілі на ўчастак з Плешчаніц, мы перазванілі з участка ў Грыневічы на пошту, Насці перадалі, і яна прыехала недзе «разам» з бацькам: прывезлі яго, счакаўшы — яе. Яна была старэй за нашу маці, жыла ў Грыневічах з дочкамі — Таняй і Аляй, хварэла на катаракту і была зусім сляпая.

Калі бацьку паклалі ў дамаўё, яна падышла, абмацала спачатку дошкі, знайшла ў дамаўі бацькавы рукі, пасля растапыранымі пальцамі пагладзіла яго па твары, пазнаўшы, пастаяла, заплакала і пайшла, зноў села на ложку ў куце ад вуліцы, дзе апошні раз перад смерцю ляжаў бацька. Падцягнула на ложак ногі: знала, што замінае, прыціхла і стала слухаць, што робіцца ў хаце.

І на могілкі Наста не пайшла, хоць і хацелі яе весці пад рукі,— нічога яна там не ўбачыць, а замінаць будзе. Падышла толькі ў хаце яшчэ раз да дамаўя, калі ўсе развітваліся з бацькам, пагладзіла яго пальцамі па руках; знайшоўшы лоб, нагнулася, пацалавала. Пасля ўжо, калі ўсе за дамавінай выйшлі з хаты,— выставіўшы ўперад рукі, знайшла ў парозе печ, апіраючыся на яе, намацала адчыненыя дзверы, выйшла аж у сенцы, сказаўшы: «правяла Мікалая...», вярнулася вобмацкам назад і, зачыніўшы дзверы, асталася ў пустой хаце адна.

Цяпер, пачуўшы крык і плач, яна ссунулася з ложка і схапіла адразу маці за плечы:

— Дзяцей пашкадуй, Уліма... Сама хочаш за Мікалаем пайсці? Яго не вернеш, а дзеці?..

Маці сціхла. Наста зноў села на ложак, высака, падцягнуўшы за сабой ногі, пасадзіла ля сябе маці.

— Эх, сястрыца, сястрыца... Успомні, якія мы былі, калі хавалі свайго бацьку... І яны ж дзеці... — паглядзела яна невідушчымі вачыма на нас, на хату.

— Каб, здаецца, агонь такі яркі не быў у хаце ў лямпах... — адказала маці. — Нічога цяпер не бачу, блішчыць толькі перад вачыма белы снег усюды, як на могілках... Не схаваешся нідзе...

— Не трэба кратаць агонь, сястра... Хай гарыць, пакуль сам не патухне. Агонь пасля Мікалая павінен у хаце гарэць усю ноч, давідна... — уздыхнула Наста,— каб яму, твайму Мікалаю, свяціць на дарожку *там*... А *там* цёмна... Каб ён мог *там* агледзецца, дзе ступіць...

Маці зноў заплакала на ўсю хату.

— Супакойся, сястрыца... Дзеці, вунь, ужо на ложку суцішыліся, змогшыся за гэтыя дні. Пашкадуй іх... Будзеш крычаць — і яны за табой... Думай цяпер толькі пра дзяцей. Ты адна асталася...

Наста была старэйшая за маці, сама многа пераджыла і пабачыла і цяпер «адводзіла» яе ад бяды і гора, як магла. Пачала ўспамінаць, як яны былі яшчэ малыя, якія былі дружныя сёстры, усе — Прузына, што цяпер у Амерыцы, яна, Наста, Ганна, якая пасля выйшла ў Краснае замуж за Шкеля, і якой ужо няма, Марыля, што ў вайну падарвалася на міне. Успомніла, як Марылю тады хавалі ноччу, як усюды стралялі — і немцы і партызаны. Успомніла братоў: Сяльвестру і Савэрку, якіх забраў «хапун» яшчэ да вайны. Сяльвестру з дому ў вёсцы, а Савэрку далёка ў Сібіры. Як жылі яны, усе сямёра дзяцей, у маленькай хатцы, якая служыць цяпер за варывеньку — іхняй братавай, пакуль збудавалі новую, на дзве палавіны вялікую хату, як пачалі пасля разлятацца па свеце, і па далёкім, і па блізкім... І што цяпер іх тут толькі двое, яна — Наста — і мая маці. І Прузына... Толькі яна далёка, аж у Кеваніі ў Амерыцы. І Прузына пахавала першага мужа — загінуў у шахце...

Маці супакоілася. Яны сядзелі на ложку, пакалыхваючыся, як ехалі на возе па сваёй доўгай калдобістай дарозе ў жыцці. Маці падперла рукой галаву і глядзела на засланыя белымі абрусамі сталы, як «засыпаныя снегам»...

Фаня з самым меншым маім братам Валодзем заснулі ў запечку на ложку, не распранаючыся; Іра з Анютай яшчэ варушыліся на другім ложку — ля акна ад агарода. Я сядзеў высака на палацях — яшчэ мы называлі іх дома палком. Ля печы, з таго боку, дзе пяколак — лазіць на печ, адступілі з метр і на ўзроўні пяколка прыбілі канцом да сцяны абгабляваную пругкую сасновую рэйку, за другі канец падвесілі яе на тоўстым дроце ўгары да бэлькі і заслалі дошкамі. Адны канцы дошак паклалі на печ, другія на рэйку. На палку было цёпла, і нам усім хацелася на ім спаць.

Я не клаўся на палок — у цеплаце лёгка можна было заснуць,— сядзеў, паставіўшы ногі на пяколак. Адгэтуль я добра бачыў і маці, і Насту — сядзяць на ложку ўпобачкі, як дзве сыраежкі зрасліся на імшанай купіне.

Як добра, што Наста засталася ў нас...

Не адзываючыся, каб не спужаць ні маці, ні Насту, я ціхенька спусціўся з палка на падлогу, знайшоў бацькавы старыя салдацкія чаравікі, у якіх ён вярнуўся дамоў з трафейнай роты з-пад Гродна і якія аж дагэтуль насіў, абуваючы рэдка. Усё ў лапцях, а летам босы. Чаравікі стаялі пад ложкам ля печы. Абуўшыся, зняў бацькаў кажух — кажух вісеў на сцяне ля печы,— насунуў на галаву выгаралую за столькі гадоў зімовую салдацкую вушанку, якую мне маці купіла на Камароўцы ў Мінску — памяняла на дамашні самасад адразу недзе пасля вайны,— і ціхенька, баючыся бразнуць клямкай, выйшаў на двор.

Трэба было ісці вартаваць леспрамгасаўскі ўчастак замест бацькі.

А што рабіць? Шура Трызніна — бухгалтар леспрамгасаўскага ўчастка, яшчэ ўчора, калі Кароль адганяў на ўчастак каня, прывёзшы з Плешчаніц бацьку, перадала, што Вугальнік — начальнік участка, сказаў: «Калі праз два дні ніхто не прыйдзе на работу, возьмуць другога...» Гэтулькі бацька дабіваўся яе, гэтулькі прасіў старшыню калгаса, каб адпусцілі, а тут... Узяў ды кінуў яе назаўсёды, ні ў кога не пытаючыся і не адпрошваючыся... І рабіце, што хочаце...

Ноч была ядраная-ядраная... Схапіла адразу на вуліцы такім марозам, што трэба было цёрці пальцамі нос — дубеў. Неба на захадзе за кароўнікам было чырвонае, як гарэла, і трашчалі недзе ў тым баку платы.

У лесе было זацішна, і не так хапаў мароз. У Агульніцы — так называлася пасека за маладым яшчэ лесам, дзе быў леспрамгасаўскі ўчастак,— я ўбачыў у шэрай цемнаце доўгую цёмную канюшню на белым снезе. Ля яе бліснуў ліхтар і застыў на месцы: нехта мяне чакаў, глуха кашляючы на марозе...

— Татка-а!.. — я ўздрыгнуў і закрычаў у цёмную ноч і ў белы ад снегу свет.

Але гэта быў ветэрынар з участка — Мікалай Ляшковіч, равеснік майго бацькі. На ўчастку было больш сарака коней,— і хварэлі, і ногі ламалі на вывазцы ў дзялянках,— і тут мелі свайго ветэрынара.

— Вартаваць прыйшоў? Замест бацькі цяпер будзеш хадзіць, пухам яму зямля...

Ляшковіч быў у шапцы-вушанцы з апушчанымі неяк крыва на галаве доўгімі «вушамі» і завязанымі пад падбародкам чорнымі тасёмачкамі, у чорным, добра падношаным бушлаце, які называў «марынаркай».

(Заканчэнне на стар. 14—15)

## Яе «Праменьчык»

**У свой юбілей кіраўніца вядомага ўжо і па-за межамі краіны брэсцкага ўзорнага ансамбля танца «Праменьчык» Тамара Натарава раптам расхваляваласа. Бо ў зале ўбачыла столькі прыхільнікаў танцавальнага мастацтва, што, паверце, не тое каб сесці — стаць не было дзе.**

**Першы падарунак майстар танца атрымала ад свайго «Праменьчыка». На сцэну вылецела дзятва, апранутая птушкамі. І падалося, быццам усе белакрылыя буслы Беларусі зляцеліся павіншаваць юбілярку. Госці, сябры-харэографы, бацькі, прадстаўнікі мясцовай улады не шкадавалі добрых слоў і кветак. У віхуры танца кружыліся пары. Кадрылю з прытуляннямі змяняла полька з прытупамі. Следам ішла каларытная замалёўка зімовага свята «Каляда». Лепшыя ансамблі Брэста: «Крынічка», «Прыбужжа», «Белая Русь», «Каскад», «Радасць» дасылалі свае танцавальныя віншаванні, ствараючы яскравае свята.**

**Гадоў 50 таму вось так танцавала і маленькая Тамара ў гуртку Дома піянераў Хабараўска. Многа і настойліва вучылася. З цеплынёй яна прыгадвае сваіх настаўнікаў — прафесара Ігара Смірнова, тады галоўнага балетмайстра Маскоўскага тэатра імя Станіслаўскага і Неміровіча-Данчанкі, і Маргарыту Смірнову, дацэнта кафедры харэаграфіі Маскоўскага інстытута культуры.**

**Калі Т.Натарава пачала працаваць з дзіцячымі ансамблямі, пераканалася, што выбрала менавіта свой шлях. За амаль чатыры дзесяцігоддзі яна выхавала не адно пакаленне аматараў танцавальнага мастацтва і прафесіяналаў, якія працуюць артыстамі ў ансамблях, балетмайстрамі, настаўнікамі харэаграфічных школ.**

**«Праменьчык» — яе цяпершані дзіцячы калектыў. На фестывалях і конкурсах у Балгарыі, Румыніі , Германіі, Францыі, Італіі ён быў у цэнтры ўвагі, станавіўся лаўрэатам.**

**Алена КАПАЧОВА**
*г. Брэст*

## Дары "Лістапада"

**У Мінску прайшоў VIII Міжнародны кінафестываль краін СНД і Балтыі "Лістапад-2001". Конкурсную праграму фэсту склалі шаснаццаць карцін, дзесяць з якіх належалі вытворчасці Расіі ( у Палацы Рэспублікі кінафестываль адкрыла расійская стужка, фільм-прытча К. Шахназарава "Яды, альбо Сусветная гісторыя атручэнняў"). І хаця на працягу ўсяго фэсту ў рэйтынгу глядацкіх сімпатый лідзіравала беларуская меладрама "Павадыр", у апошні вечар яна саступіла расійскай кіназказцы для дарослых "Прыходзь на мяне паглядзець", рэжысёрскаму дэбюту А. Янкоўскага. (Гісторыя паўтараецца: летась таксама ў апошні вечар конкурснага прагляду расійская стужка "Рускі бунт" нечакана апярэдзіла ў "сімпатыях" беларускі шэдэўр М. Пташука "У жніўні 1944...").**

**Такім чынам, галоўны прыз "Лістапада" — прыз глядацкіх сімпатый (журы гледачоў сёлета ўзначальваў Ю. Цвяткоў) звёз у Маскву малодшы брат прэзідэнта кінафэсту Р. Янкоўскага. "Срэбраным лісцем" быў уганараваны наш "Павадыр" А. Яфрэмава, а "бронзавае" атрымала камедыя Т. Кеасаяна "Прэзідэнт і яго ўнучка". Журы кінематаграфістаў адзначыла прызам за лепшую рэжысуру кыргызстанскую карціну "Маймыл", якая ў рэйтынгу глядацкіх сімпатый займала апошняе месца. Прызамі за лепшую жаночую і мужчынскую ролі, якія звычайна прысуджае журы кінапрэсы, сёлета былі ўганараваны К. Васільева ("Прыходзь на мяне паглядзець") і Л. Мазгавы ("Цялец"). На думку тэатральнага журы, лепшымі былі акцёры А. Адзінцова і П. Юрчанкоў-мал. у спектаклі А. Бяспалага "Поле бітвы" (Тэатр-студыя кінаакцёра).**

**В. Б.**

# Мы ехалі, мы спявалі...

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 6—7)*



выбітны, але хто з відавочцаў гэтай музычнай імпрэзы ведаў, што 20 гадоў таму інтэлектуальная паэзія Разанава натхніла тады яшчэ юную нашу кампазітарку Юлю Андрэеву? А хто задумаўся, якая даўняя і багатая на Беларусі гісторыя супрацоўніцтва дзвюх муз]аў практычна ва ўсіх жанрах? У балеце і музычнай камедыі, у оперы і вакальна-сімфанічнай музыцы, у харавой і камернай вакальнай... Адсутнасць належнай дзяржаўнай і грамадскай увагі да прафесійных мастацкіх каштоўнасцяў кепска адбіваецца і на якасці так званых папулярных жанраў. Але, нягледзячы ні на што, творцам варта прабівацца насустрач адно аднаму. Кампазітарам — актыўней гартаць літаратурныя выданні, уважлівей глядзець лімаўскія падборкі, бо там можна знайсці не толькі патэнцыяльныя песенныя тэксты, але і аснову для цыкла хораў, напрыклад, ці рамансаў, ці вакальна-сімфанічнай паэмы. Літаратарам — наведвацца на канцэрты, у тым ліку і нашага кампазітарскага авангарда. Вось у Эдуарда Зарыцкага ёсць песні на вершы практычна ўсіх значных беларускіх паэтаў. А на вершы Я.Коласа, А.Міцкевіча, Р.Барадуліна, Н.Гілевіча, Г.Бураўкіна, напрыклад, ім напісаныя вакальныя цыклы.Слова нашых сучаснікаў-паэтаў неаднойчы было ўвасоблена ў буйных музычных жанрах... 20-я гады мы можам "успомніць" толькі дзякуючы мемуарнай літаратуры, дакументам: які гэта быў плённы для беларускага мастацтва час, які магутны звяз існаваў паміж прадстаўнікамі розных галін творчай інтэлігенцыі!

**У.Карызна (м.).** Не думайце, што сёння кампазітарам нічым не цікавяцца, нічога не чытаюць. Чытаем беларускую паэзію. Але вельмі цяжка знайсці верш, які б стаў песняй. І ў "Маладосці" , і ў "Полымі", і ў "ЛіМе", і ў аўтарскіх зборніках. Песенны верш настолькі спецыфічны! Нават адно-два словы (не кажу пра рытм, рыфму) самім сваім гучаннем могуць паўплываць на маё ўспрыманне такім чынам, што я не змагу гэты верш лічыць песенным. Вершы— добрыя! Але каб асабіста мяне натхнілі на стварэнне мелодыі, здараецца вельмі рэдка.

**А.Бадак.** Ёсць яшчэ адна праблема, якая датычыцца ў першую чаргу нашых выканаўцаў. Даводзіцца часам чуць ад іх: "Па-беларуску так нельга праспяваць, можна толькі па-руску". Мне ж успамінаецца ўкраінская эстрада: там зараз ва ўсіх стылях, жанрах спяваюць па-ўкраінску. Дзівосна спяваецца! А ўкраінская мова вельмі блізкая да нашай. Стварэнне аўтарытэту мовы — частка дзяржаўнай палітыкі. Але гэта павінна быць і нашай палітыкай — паэтаў, кампазітараў, спевакоў. Па ГРТ, РТР і г.д. шмат разоў паказваўся кліп, у якім папулярная расійская група "Премьер-министр"спявала па- ўкраінску. І расійская спявачка Лаліта выпусціла кампакт-дыск з песнямі на украінскай мове. Відома, аўтарытэт украінскай культуры ад гэтага вельмі ўзрастае!

**У. Карызна (ст.).** Але народ гэтых песень сёння слухаць не хоча. Вось былі ў свой час "Верховіна, маты моя", "Рушнік"("Рідна маты моя"), "Чэрвона рута" — увесь былы Саюз спяваў... Песня — гэта лёс. Усе ведаюць песні на словы Някрасава, якія сталі народнымі — "Меж высоких хлебов затерялося...", "Коробейники", — а паэзія Пушкіна ў жанры песні незапатрабаваная! Пушкін ёсць у оперы, у рамансах. У песнях — няма. Ці ўспомніце "Уральскую рябинушку": цудоўная руская, радыгінская, мелодыя жывая, хаця тэкст у песні слабаваты. Іншая справа — раманс: якія тут імёны і паэтаў, і кампазітараў! Таму я лічу: каб стварыць песню, трэба вучыцца на рамансе — майстэрству, тонкасці, глыбіні і філасофскаму мысленню, бо раманса без філасофіі, без думкі няма. А вось песень бяздумных 99,9%. Ды і пошлых хапае.

**Э. Зарыцкі.** Мушу сказаць, што ў часопісах гатовага песеннага тэксту вы ніколі не знойдзеце. З паэтам трэба працаваць, гэта ўсе ведаюць. Можна толькі за два радкі зачапіцца, а потым за раялем разам з аўтарам шукаць далей.

**Э. Акулін.** Шукайце ж аўтараў! Кампазітары хай бы па кансультацыю звярталіся да рэдактараў аддзелаў нашых часопісаў або ў Саюз пісьменнікаў, калі ёсць нейкі сумнеў у выбары вершаў. Але я бачу, сумневу няма! Гэта што тады: безгустоўнасць кампазітарская або глухата такая... паэтычная?

**У. Карызна (ст.).** Сапраўдную песню стварыць цяжка. Кампазітару трэба, каб паэт прыслухаўся да яго патрабаванняў, дапрацаваў верш. Добра, калі паэт згаджаецца! А яшчэ аранжыроўка... Многія і не могуць самі рабіць сучасныя аранжыроўкі, вымушаныя заказваць іншым. Вось песня атрымалася, кампазітар і паэт знайшлі выканаўцу, уклалі вялікія грошы, песня адзін раз прагучала, была запісана... А пасля — запіс недзе губляецца, забываецца. А няздара тым часам прабіваецца ў людзі. Чыноўнікі ж у Міністэрстве культуры і вышэй зважаюць, здаецца, толькі на тое, як хто гляне, усміхнецца, падлашчыцца. Талент нібы нікому не патрэбны.

**Д.Лыбін.** Кампазітар — гэта чалавек, праўнукі якога, магчыма, за ягоную працу атрымаюць нейкія грошы. Гэта не прафесія і не хобі, гэтаксама, як і паэт: гэта — прызванне. Калі вы не можаце не пісаць музыку (ці то песні, ці то сімфоніі), пішаце. Калі вы можаце гэтага не рабіць, дык лепш няхай будзе так.

**Э. Акулін.** Сапраўды, можна мець нават дзве вышэйшыя музычныя адукацыі, але калі табе не дадзена пісаць музыку...

**Д. Лыбін.** Цалкам слушна. Але я хацеў бы дадаць яшчэ наконт размовы пра рок. Тут прагучала вельмі небяспечная думка: маўляў, моладзь не пойдзе слухаць сур'ёзныя рэчы. Самы просты шлях развіцця культуры — рабіць тое, на што "пойдуць" — скіраваны наўпрост да поўнай дамінацыі эрзац-культуры. Мы павінны змагацца, каб публіка пайшла на тое, што робяць прафесійныя і адораныя людзі, а не дамагацца, каб яны рабілі тое, на што "пойдуць".

**А. Бадак.** Яшчэ раз паўтаруся: сур'ёзныя рэчы трэба слухаць у зале, а на вуліцы няхай гучыць лёгкая музыка. Навошта, каб сімфанічны аркестр іграў на стадыёне?

**Э. Акулін.** А я перакананы: тое, што працуе на нацыянальную культуру, на беларускую мову, паэзію, музыку, — усё павінна існаваць. І зноў жа ў абарону нашых рокераў. Яны перажываюць хваробы росту. Але яны рыхтуюць глебу для прыходу іншых пакаленняў. Мы разам з сынам штогод ходзім на рок-каранацыю. Туды вельмі цяжка набыць квіткі ўжо за месяц. Гэта значыць, што такая музыка патрэбна. І кожны пачуе ў ёй, што хоча пачуць.

**У. Карызна (ст.).** Пачалася перабудоваломка, і паляцела ўсё: пыл, кавалкі цэглы, тут і загарэцца можа. З'явіліся рок-ансамблі. Іх раней і быць не магло! Культура сама — рэч не менш сур'ёзная, чым праца на зямлі, каб хлеб атрымаць; яна не менш адказная і небяспечная, чым праца на заводзе, фабрыцы або на высокіх чыноўніцкіх пасадах. Культура вызначае, якія будзе рабочы, інжынер, які будзе кампазітар, пісьменнік. Успомніце савецкі час: якія былі кампазітары, выканаўцы! Усё гэта была культура запатрабаваная, хаця маглі б інтарэсы і тады скіравацца на іншае. На іншую музыку, на вулічную, напрыклад. А вуліца — не двор! Ёсць царскі двор, ёсць панскі двор, ёсць двор сялянскі — гэта высакародна. Вуліца, на якой смецце, заўжды толькі разбэшвала. Стагоддзямі. Нельга паддавацца вуліцы! Дайшло ж да таго, што на свята Тройцы каля царквы ўсё літаральна дрыжэла ад рокмузыкі! Тое, што там адбылося, сведчанне вялікай дысгармоніі ў грамадстве, якой нехта кіруе.

**Л. Рублеўская.** Рок-ансамбляў у савецкі час не было не таму, што яны былі незапатрабаваныя, а таму, што тых, хто хацеў слухаць і граць іншую музыку, чым гучала па радыё і тэлебачанні, садзілі ў псіхушкі і лагеры, як Жану Агузарaву. Але запісы "Бітлаў", Высоцкага, Галіча, "Машыны часу", "Дынаміка" падпольна хадзілі па ўсёй краіне. Савецкая эстрада была запатрабаваная не таму, што такі быў густ усяго народа. А таму, што альтэрнатывы той эстрадзе не было. Або слухай Пахмутаву, або рызыкуй, што суседзі данясуць, што ўключаеш антысавецкія касеты... Ці што на хатні канцэрт рокера альбо барда, на якім ты прысутнічаеш, уварвецца міліцыя.

**Э. Акулін.** Сапраўды, такія адносіны да рока, якія адчуваюцца ў некаторых з прысутных, былі ў рускай, дакладней, савецкай культуры 20 гадоў таму. Бэсцілі "Машыну часу", "Акварыум"... Зараз іх лічаць за класіку рускага рока.

**Л. Рублеўская.** Барыс Грабеншчыкоў нядаўна прэмію "Трыумф" атрымаў, разам з Ігарам Маісеевым і Святланай Алексіевіч.

**Э. Акулін.** Я ўпэўнены: праз 20 гадоў будуць гэтак жа адносіцца да "N.R.M.", "Крамы", "Новага Неба". На Максіма Багдановіча ў свой час таксама многія скептычна глядзелі. У "Нашай Ніве" яго абвінавачвалі ў дэкадэнцтве, а Ядвігін Ш. казаў пра заходнюю манеру яго пісьма, што гэткай паэзіі не павінна існаваць, што трэба пісаць, як Янка Купала і Якуб Колас. Прайшоў час, і ўсе трое сталі класікамі — пасуседзіліся. Час усё расставіць па свае месцы. Давайце будзем не судзіць, а проста выказваць свае меркаванні. Дарэчы, можа, спадарыня Песнякевіч распавядзе пра сітуацыю на Нацыянальным радыё: якія там перспектывы ў беларускай песні?

**Т. Песнякевіч.** Не магу адказаць нічога пэўнага, бо на радыё — грандыёзная перабудова. Што ў выніку тут будзе з беларускім — мовай, паэзіяй, песняй, — пакуль сказаць цяжка. Маю на ўвазе асноўную, першую, праграму. Наконт другога канала — больш пэўнасці, бо сама за сябе гаворыць яго назва: "Культура". Дарэчы, і час вяшчання тут значна павялічаны. Паўтару, што мы ўступаем у рынкавыя адносіны. "Купіць" слухач "тавар" — ён будзе гучаць, не "купіць" — не прагучыць. На жаль, мы ўсе тут гаворым, што беларуская культура — незапатрабаваная. Пакольк і першая праграма цяпер транслюецца і ў FM-дыяпазоне, мы, як нам давяло кіраўніцтва, павінны "рабіць музыку" для тых, хто ездзіць у шыкоўных іншамарках і па дарозе ў свой офіс ловіць "эфэмаўскія" станцыі.

**Э. Зарыцкі.** Цяпер нават імёны паэтаў не аб'яўляюць па радыё: гучыць песня — паэта не называюць. Бывае, што і кампазітара таксама.

**Т. Песнякевіч.** Гэта ўжо справа прафесіяналізму людзей, якія працуюць на эфір.

**Э. Акулін.** Тут гаварылася пра аплату прафесіяналізму і таленту. Дык мы ўжо гатовыя працаваць бясплатна, абы нам давалі магчымасць свае песні спяваць. Мае бардаўскія песні 5-7 гадоў назад гучалі па радыё вельмі часта. Але ні разу мне ніхто ганарар не заплаціў. І я не ў крыўдзе: дзякуй Богу, была магчымасць у студыі Беларускага радыё запісацца! Дык і гэтага зараз не даюць. І другі канал, на які будзе скінута ўся культура, — гэта будзе падводная культура. Своеасаблівы айсберг: наверсе — эрзац-культура, а пад вадой — беларуская культура, якой ніхто не пабачыць і не пачуе.

**У. Карызна (ст.).** Дрэнна мы жывём... Калі непатрэбна культура нацыянальная, як жа тады жыць далей? Без нацыянальнага — няма развіцця, значыць, мы згінулі. Паесці, выпіць — і больш нічога не трэба? Уражанне, што ў нас сёння ўжо няма сваёй культуры, складваецца таму, што няма прапаганды сваёй культуры. Тое, што не прапагандуецца, нібыта і непатрэбна.

**Л. Рублеўская.** Песня, адзін раз "пракручаная", знікае.

**А. Бадак.** Клопат пра яе павінен быць, дзяржаўны клопат! Песня сама сябе будзе прапагандаваць , калі даць магчымасць, каб яе пачулі.

**Т. Песнякевіч.** А вось вы як паэт задаволены тым, як вашы вершы ў музыцы ўвасобленыя? Што, усе песні — аднолькава высокамастацкія? Як вы лічыце?

**А. Бадак.** Прынамсі, там няма пошласці. Справа ў тым, што гэта не зусім вершы. Тэксты для песень пішуцца па сваіх законах.

**Э. Акулін.** У маіх бардаўскіх песнях таксама няма цалкам скарыстаных вершаў — існуюць песенныя тэксты. Так бы мовіць — спецыфіка жанру.

**У. Карызна (ст.).** А я пісаў і пішу — вершы для песень. І згодны з Максімам Танкам і Аркадзем Куляшовым, што павінен быць верш для песні. "Зорачка мая", "Люблю цябе, Белая Русь" і іншыя — я пісаў як вершы. Але колькі перад тым я перайграў на акардэоне! І анталогію Цітовіча, і чатырохтомнік Шырмы, дзякуючы чаму "ўхапіў" музычную інтанацыю дый разабраўся, што ж такое народная песня. Народ шліфаваў песню стагоддзямі, і заставаліся сапраўдныя дыяменты, метафары, якіх не прыдумае самы вялікі паэт.

**А. Бадак.** Я перакананы ў адным: калі

**ЛіМ ЧАСАПІС**

## *Пад каляднай зоркай*



**“Музыкантаў з дыпломам — багата. Музыкантаў паводле душы, сэрца — нямнога. У гэтым канцэрце была душа, было сэрца, была музыка! Нават не чакаў, што так прагучыць! Дзякуй, што мая былая студэнтка не падвяла ні Беларускую акадэмію музыкі, ні свайго настаўніка.Пачуўшы такое, нельга не гаварыць...” — прызнаўся ўсхваляваны маэстра, народны артыст прафесар Міхась Дрынеўскі, які выйшаў да сцэны павітаць мінскі маладзёжны хор “Consonans”. У гэты вечар адбыўся філарманічны дэбют калектыву: пад кіраўніцтвам свайго хормайстра, магістра БАМ Алены Ісайкінай ён выступіў у Зале камернай музыкі, што на Залатой Горцы.**

**З хорам “Consonans” давялося пазнаёміцца летась, калі ён даваў велікодны канцэрт у сталічным Доме дружбы.Мы пісалі тады пра паспяховае выступленне гэтай своеадметнай музычнай суполкі, створанай у 1998 г. пры Польскім навуковым таварыстве Рэспубліканскага цэнтра нацыянальных культур.Спяваюць у хоры студэнты сярэдніх і вышэйшых навучальных устаноў і выпускнікі ВНУ, у рэпертуары прадстаўлены ўвесь спектр харавой літаратуры: ад старажытнай музыкі да сучасных партытур хрысціянскай і свецкай тэматыкі.**

**І вось — прыемны працяг знаёмства:першы філарманічны канцэрт, які адбыўся дзякуючы падтрымцы Польскага інстытута ў Мінску. Праграма каляднай музыкі дынамічна і эфектна прагучала ў акустычна спрыяльнай і святочнай атмасферы касцёла св.Роха.**

**Спявалі гадзіну без антракта.Сакральныя творы Анджэя Кашэўскага, Фелікса Нававейскага, Вацлава з Шамотул. “Вострая Брама” Юліюша Луцюка на словы кс. Стэфана Мізінца, калядка папулярнага сучаснага польскага аўтара Паўла Лукашэўскага і хрэстаматыйнае “Graduale” Антона Брукнера, праваслаўныя малітоўныя песняспевы Іпалітава-Іванава ды Свірыдава, аранжыроўкі вядомых спірычуэлс... Уражваў незвычайны для аматарскага калектыву ўзровень выканання: чысціня строю і тэмбравая сакавітасць складаных акордаў у партытурах сучасных аўтараў; пластычнасць вакальнай лініі ў поліфанічных творах; маладое, імклівае crescendo, збалансаванасць галасавых груп,высокая культура дыкцыі. Воклічам “брава!” хацелася ганараваць басоў: мякка, глыбока, чыста вялі хлопцы сваю партыю, трымалі сапраўдны арганны пункт!**

**Філарманічная прэм’ера хору “Consonans” адбывалася, можна сказаць, пад каляднай зоркай. І арганічным завяршэннем святочнай праграмы сталася малітва пра мір ды спакой Норберта Бляхі.Яна ўспрымалася як рамантычны харал, сугучны святочнаму настрою публікі...**

**С.БЕРАСЦЕНЬ**

## *Прызванне ў драматургіі*

**Іосіф Дорскі літаратурнай працай займаўся з 1930 года. Разам з К.Губарэвічам напісаў драму «Цэнтральны ход», што была пастаўлена ў 1940 годзе. У 1956 годзе пад назвай «Шчасце» набыла сцэнічнае жыццё яго п’еса «Права на шчасце». Але найбольшую вядомасць аўтару прынесла лірычная камедыя «Алазанская даліна», пастаўленая ў 1951 годзе.**

**Нарадзіўся Іосіф Львовіч у горадзе Мінску. Скончыў курсы кінасцэнарыстаў, вучыўся завочна ў Літаратурным інстытуце імя А.М.Горкага. Працаваў у рэдакцыі шматтыражнай газеты Мінскага дрэваапрацоўчага завода, кінасцэнарыстам на кінафабрыцы «Савецкая Беларусь», літсупрацоўнікам газеты «Рабочий», служыў у Чырвонай Арміі, быў загадчыкам літаратурнай часткі, а з 1948 года дырэктарам Беларускага дзяржаўнага тэатра імя Якуба Коласа. Памёр 7 снежня 1964 года, а 17 снежня сёлетняга з дня нараджэння І.Дорскага споўнілася 90 гадоў.**

# НЕНАПІСАНАЯ АПОВЕСЦЬ

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 9)*

— Сходзі ў кантору, пакуль Шура не спіць, агонь у яе аконцы яшчэ гарыць... Адзначся, што прыйшоў. А-то... Работы без бацькі губляць не трэба. А тады прыйдзеш і мне паможаш. У мяне тут Буланчык на падазрэнні. На каранцін запёрлі яго ў праварыне асобна ад усіх коней. Думаем, менінгіт, чорт бы яго ўзяў...

Я пастукаўся ў канторы да Шуры, яна жыла адна ў пакойчыку, адсюль, ад двара. Бежанка з Браншчыны ці Смаленшчыны. Пасля вайны засталася ў нашым баку, дамоў не вярнулася. Маладая яшчэ, гадоў трыццаці, жанчына, прыветлівая, з добрымі заўсёды вачыма і вечна з палачкай у правай руцэ: «не служылі ногі» ад нараджэння.

Шура пабедавала са мной, успомніўшы бацьку, спыталася, ці цвёрда я рашыў вартаваць за яго, каб сказаць гэта Вугальніку і аддаць загад на мяне, і я зноў выйшаў на мароз. Шура адразу патушыла лямпу — лягла спаць, а я, абышоўшы па скрыпучым снезе лесапілку, лазню-сушылку, дзе сушылі «чуркі» для леспрамгасаўскіх газагенаў, сходзіў аж да кузні, да самай дарогі, і зноў вярнуўся ў канюшню да Ляшковіча, добра змерзшы.

У канюшні сярод коней і сена, якое яны гломзалі ў сваіх праварынах, было нават цёпла; Ляшковіч завязаў матузкі зверху на вушанцы і расшпіліў «марынарку». Ліхтар «лятучая мыш» з добра падкручаным агнём — светла было на ўсю канюшню, чорны цень ляжаў толькі далёка ў кутку — прыткнуўся ў яго на сене ля ног.

— Прыязджаў з Плешчаніц Кірайкоў, наш галоўурач, са сваёй ветбаклабараторыяй. Падазрае менінгіт. Баімся, каб не паўтарыўся. У сорак сёмым быў. Пецярых каней тады не далічыліся...

Пачуўшы прозвішча Кірайкоў, я адразу ўспомніў Вольгу Антонаўну. Як агеньчык засвяцілася для мяне ў горкі час. Вот жа склаў нехта лёс...

Ляшковіч падняў з-пад ног «лятучую мыш» з вялікай чыстай шкелкай і павёў мяне ў самы канец канюшні. Там мы мінулі дзве пустыя праварыны; за імі ў самай крайняй стаяў, павярнуўшыся да нас задам, закладзены дзвюма пярэчкамі, малады яшчэ, гадоў трох-чатырох, Буланчык. Ад зыркага ліхтара жоўты і бліскучы, як іржышча на полі пасля сярпа. Стаяў ён ціха, толькі моцна стагнаў, задзёршы і павярнуўшы неяк нязвыкла галаву.

— Блізка не падыходзь,— сказаў Ляшковіч. — Калі менінгіт — ад каня чакай усяго... — Сам, падняўшы вышэй ліхтар, пасвяціў яму ззаду пад хвост. Пад хвастом бліснуў шклом тэрмометр — быў прывязаны каслаўкай валасоў. Ляшковіч дастаў у Буланчыка з-пад хваста тэрмометр і паднёс яго да ліхтара.

— Трыццаць дзевяць... Трошкі менш, як учора. Учора такой парой было сорак... Раніцай зноў буду калоць. Кірайкоў, агледзеўшы, прыпісаў яму пеніцылін і саракапрацэнтны раствор глюкозы ўнутрымышачна. Калю, вот, і тэмпературу правяраю. І за самім Буланчыкам сачу. Каб на сцяну з капытамі не палез. Калі ён на сцяну палезе, то ўжо можна і не калоць. Пасля сцяны яму ўжо... капытамі ў пясок... Калю, можа, і адратуем. Шкода жывёлы, гэтулькі яе гіне ў дзялянках, а тут... Менінгіт — гэта страшны галаўны боль і тэмпература... — пакратаў ён плячыма пад сваёй разношанай і абвіслай на ім марынаркай, ад дрыжыкі ці што? — Менінгіт — гэта...

Дастаўшы з кішэні марынаркі сваю «ветэрынарыю» — мятую-перамятую, скручаную-перакручаную даваенную «цубілію», як ён яе яшчэ называў, пачаў расказваць усё пра менінгіт у коней. Падносіў «цубілію» да ліхтара і паказваў «ілюстрацыі» — як конь пад прыступ лезе на сцяну...

«Тут і без менінгіту можна звар’яцець...» — падумаў я ўжо седзячы ля праварыны Буланчыка на сене. Сена прынёс з кладоўкі Ляшковіч, падсцяліў і сабе на зямлі і цяпер, нагінаючыся да ліхтара і да мяне, ён чытаў і чытаў мне пра менінгіт... Аж пакуль ліхтар не засвяціў мне маладзіком над галавой, а доўгі праход у канюшні не зрабіўся брукаванай шашой на Плешчаніцы... Пасля бацька вёў па шашы за повад Рабіну і... усміхаўся, лежачы ў дамаўі. За ім у куце на ложку сядзелі маці з Настай. Тады нехта мацерынай рукой забраў у Ляшковіча яго «цубілію» і запхнуў яму ў кішэню марынаркі...

Адплюшчыўшы вочы ля праварыны Буланчыка, я доўга не мог здагадацца, дзе гэта я...

Ржалі коні, грукалі пярэчкі ў праварынах, тупалі капыты, бразгалі цуглі і далятаці здалёку мужчынскія галасы. Ліхтар вісеў на цвічку ля праварыны высака ўгары і кідаў адтуль сляпы водсвет, але ў праходзе ля праварын было відна — святло ішло з расчыненых насцеж дзвярэй, з двара. У праёме якраз была відаць ядраная чырвоная зара — схапіла за канторай паўнеба. Днела. Коні выскоквалі з канюшні адзін за адным, беглі, як на злом галавы, пад чырвоную зару, што на пажары ў агонь. Прыйшоў конюх Кізіна, стары мужчына, я яго ведаў, і яшчэ додніцай выганяў іх на вадапой, куды яны, знаючы сваю ранішнюю дарогу, ішлі самі. Гэта — аж у вёску за нашу хату на лог да ракі, адкуль варочаліся самі, бо за гэты час Кізіна насыпаў ім у кармушкі па вядру аўса.

Ляшковіч у расхрыстанай марынарцы стаяў ля Буланчыкавай праварыны — у адной руцэ «цубілія», у другой градуснік — і пераступаў з нагі на нагу. Здавалася, што ён прастаяў тут, ля праварыны, з градуснікам у руцэ ўсю ноч.

— Трыццаць дзевяць... Не адпускае... Пайду днём званіць з канторы ў Плешчаніцы Кірайкову... А ты ноччу хроп. Коні фыркалі, а ты хроп. Буланчык стагнаў на ўсю канюшню... А ты ідзі дамоў, не мучайся. Ніхто тут за ноч нічога не зачапіў і не зачэпіць...

На двары з-за канторы разанула па твары халодная чырвоная зара, і аглушылі мужчынскія галасы. У другой палавіне канторы была «бытоўка», як яе звалі, там стаялі раскладушкі і на іх спалі рабочыя — рэзчыкі, — іх набіралася гэтульхі, што яны ляжалі покатам і на падлозе. Цяпер яны, падняўшыся яшчэ додніцай, выбягалі на двор, спаласквалі твары і вадой з вядра, і проста снегам, грызлі сухі хлеб з рыбай-траской, запівалі хто варам з алюмініевай кружкі, калі паспеў засіліць у грубцы з гаршка, а хто проста халоднай вадой, зачэрпнуўшы на ганку з вядра. Курылі, апраналіся, гаманілі, «шукалі» Сідарука, які павінен быў іх адвесці ў лес, дзе яны будуць пачынаць новую дзялянку, падпяразваліся белымі бліскучымі піламі поверху па фуфайках. Пілы бразгалі і звінелі стальным вострым звонам. І галасы рэзчыкаў, і звон піл і тапара даганялі ў лесе конскае ржанне і зліваліся ў адзін ядраны ранішні рабочы гул...

Гэты гул быў чуваць, аж калі я выйшаў з лесу да вёскі, і прыглушаў мой боль...

Калі я падыходзіў да сваёй хаты, дзе не было бацькі і ніколі ўжо не будзе, скрываўленая зара на ўсходзе зайшла па небе за ракой мне аж наперад. Там, недзе ў марозным сінім тумане далёка-далёка былі Плешчаніцы...

Дома маці і Наста сядзелі ўсё яшчэ на ложку, прыхінуўшыся адна да адной, як і вечарам. У хаце было відна ад акон, але лямпа над сталом у куце яшчэ гарэла.

— Гэта ты, сын? Хадзіў на ўчастак замест бацькі? О-хо-хо... — азвалася маці. — Дзеці пайшлі ў школу, не трэба ім яе прапускаць. Іра ў хлеве, Маліне закіне за драбіну і прыгледзіць. Маліна даўно ўжо значыць. Рыкае часта. Пасля Рабіны мы яе цялічкай набылі, ты, сястрыца, ведаеш,— павярнулася яна да Насты. — Дык гэта тая, вырасла ўжо і свайго прыплоду чакае. Не праваронiць бы... Патушы, сын, агонь і паглядзі чаго сабе на стале. І ў місцы паглядзі, і ў талерцы.

Есці мне не хацелася. Я патушыў лямпу, у запечку зняў з сябе кажух, павесіў пад палком на цвік у сцяне, разуўся і залез на палок. Выцягнуў босыя ногі на печ, на цёплы чарэнь, і мяне ў цяпле адразу пачало ўсяго калаціць — зуб на зуб не лучаў. Так трасло, не адпускаючы, што я, нагнуўшыся з палка, дастаў са сцяны бацькаў кажух і накрыўся ім з галавой.

Калі я, мусіць, сагрэўшыся на палку ля печы і пад кажухом, бо мяне адпусціла, больш не трасло, пасля ўздрыгнуў і прачнуўся, то пачуў ядраны мацерын голас. У хаце вісіць нейкая густая цішыня, аж ціснe на вушы, і ў гэтай цішыні чуваць яе голас — яна ўсё расказвае і расказвае Насце, супакоіцца, тады зноў гаворыць і гаворыць, як нітку цягне з кудзелі на вілачкі ў калаўрот...

Бацькаў кажух споўз у мяне з ног і ляжаў на пяколку: мог упасці на падлогу і нарабіць шуму. Я падцягнуў яго і паклаў ціхенька на печ, сам, павярнуўшыся, падняў на палку галаву. Наста сядзела адна на ложку, а маці гаварыла і хадзіла па хаце — ад Насты да мяне, да печы, і назад. Гаварыла голасна, на ўсю хату, як злавала... Я стаў слухаць...

— Пісьмо з Амерыкі пасля вайны, ужо аж у сорак шостым годзе першая прыслала наша Прузына. Мы ёй не пісалі, не ведалі, можна пісаць ці не, дойдзе яно ці не дойдзе, а яна прыслала — шукала нас, ці жывыя мы пасля вайны, ці не. Увесь свет пра нашу вайну ведаў, ведала і яна... Сядзела я ў той вечар летам на двары ля гародчыка на траве на каленечках, бульбу маладую перабірала, нагнуўшыся, мне і падаў пісьмо ў вароты, злезшы з калёс, старшыня сельсавета Шапараў. Ехаў у Леснікі, а гэта праз нашу вёску, ля самых нашых варот. Зайшоў ён нечага там раніцай на пошту, яго і папрасілі перадаць. Ляжала ўжо з тыдзень, пошту ў вёску тады ніхто не насіў: калі што каму — перадавалі.

А Прузына пра ўсё пыталася ў пісьме. Ці цэлая хата, ці ўсе жывыя асталіся, дзе жывём... Дзеці недзе ўжо ладныя, павырасталі... Гэта ж больш пяці гадоў, лічы, прайшло, калі мы перапісваліся. Ці ёсць за што жыць, ці ёсць што адзець, абуць... Пра ўсіх пыталася, пра цябе, сястрыца, пра Марылю, пра Ганну, пра сваякоў, далёкіх і блізкіх. Там, у Кеваніі і Спрынгфельдзе многа хто чакаў адгэтуль пісем. Прасіла, каб мы пра ўсіх, у каго сваякі ў Амерыцы, напісалі, а яны там, сабраўшыся разам, перададуць усё адно аднаму.

Пісала, што можа прыслаць пасылку. І прадукты, і, калі што трэба, з адзежы. Каб толькі знаць, хто які вырас. Мяне і Мікалая яна помніла яшчэ зусім маладымі. Адзежыну выслаць лягчэй, можа і сама сабраць пасылку, а каб прадукты — трэба з Кеваніі перасылаць даляры ў Чыкага на фірму, а яны там, на фірме, самі складуць пасылку і пашлюць... Пакланілася яна нам усім у пісьме і адзін даляр яшчэ паклала. І даляр дайшоў, ніхто не выняў. Яна і пасля ў кожным пісьме па даляру клала, і даходзілі.

Напісалі мы ўсё, як было. Толькі ж сястрыца, як ты ў адным пісьме ўсё апішаш... Напісалі, сын сам адрас падпісаў, сам аднёс тады ў Грыневічы на пошту. Пакуль, сястрыца, яно даківалася да той Кеваніі... Мы ўжо думалі, што яно дзе згубілася... Паслалі мы яго ўвосень, а недзе ўжо вясной, калі пасля снегу пачало падсыхаць і можна было хадзіць босаму, прынёс сын з Грыневіч з пошты звяшчэнне на пасылку. Толькі тады трэба было па яе ехаць самой у Плешчаніцы на пошту. У Грыневічы газеты з Плешчаніц вазілі на кані, ты, сястрыца, помніш. А пасылку вязці пабаяліся, ці што? Я тады аж спужалася...

Трэба было самой ісці ў тыя Плешчаніцы. Дарога далёкая, але ж мы, бабы з вёскі, хадзілі пасля вайны пехатой аж у Мінск. Насілі на Камароўку табаку: бесарабку і мультанку — мяняць на адзежу. Вясной сеялі ў гародзе на градах, а мультанка добра ў нас расла, увосень сушылі, крышылі і няслі. А гэта з дому вёрст за сотню. Выйдзем додніцай, па дарозе пераначуем дзе-небудзь у вёсцы, а назаўтра зноў пайшлі. Нацянькі, вёскамі — карацей, зналі ўжо дзе ісці. І даходзілі, і прыносілі хоць што, каб і самому і дзецям голым задам не свяціць.

Паклала я тое звяшчэнне на пасылку сабе ў кішэньку нажуткі, перагнуўшы яго ў дзве столкі, перакінула праз плячо вялікую пяньковую хустку — пойдзе дождж, можна ўскінуць на галаву і пасылку ў яе можна будзе завязаць і — за спіну; узяла ў рукі Ірыны сінія зношаныя прарызінкі, каб пальцы на нагах аб каменне ў Плешчаніцах не збіваць, і пашлэпала босая на кладкі праз балота на Кур’янаўшчыну: бліжэй на шашу. Іду, іду і падбягу дзе на сцежачцы. Ведала, што дома чакаюць і дзеці, і Мікалай.

У Плешчаніцах у мяне ўжо адымаліся ногі, чуць паднялася ад моста па Вароўскай вуліцы на горку, дзе была пошта — мне падказалі,— і чуць узышла на высокі дашчаты ганак па ступеньках, чапляючыся за іх растаптанымі прарызінкамі.

На пошце не было ні чалавека. Толькі пасля ўжо згледзела за высокай агародкай за сталом маладую дзеўчынёху з чорнымі кучаравымі валасамі і чорнымі бліскучымі вачыма. Узяўшы ў мяне з рук «звяшчэнне», яна хуценька зірнула на яго і гэтак жа хуценька схавалася за дзвярыма ў другі пакойчык-баковачку. Пачакаўшы, выйшла адтуль і гэтак жа хуценька паклала перада мной на агародку — на агародцы зверху ляжала прыбітая выслізганая рукамі, некалі фарбаваная ў чырвонае, шырокая дошка — ладны цвёрды карычневы папяровы мяшок, складзены ўдвая, з прыліплымі сургучнымі пячацямі і беленькімі тоненькімі аборачкамі пад імі.

— Вот ваша пасылка,— сказала яна. — Распішыцеся, што палучылі... — і яна пачала падсоўваць мне па вышмальцаванай дошцы яшчэ нейкую паперку.

Я хуценька адхінула адну столку мяшэчка, і ён увесь расцягнуўся роўненька на некалі чырвонай дошцы. Мне зрабілася горача ўсёй, затрасліся рукі, але я засунула дрыжачую руку па локаць у мяшэчак. Пальцы ўчапіліся ў нешта цвёрдае, як сухарык, вострае і калючае, выцягнулі наверх і адразу, неяк спопаразку, паднеслі да рота. Я нават, разгубіўшыся зусім, адкусіла ад яго кавалачак зубамі. У роце адразу зрабілася соладка, пасля язык скруціла ліпкая гарката... Я не ведала, што рабіць.

— Яна ж пустая!.. Пасылка пустая!.. — закрычала я на ўсю пошту. — Дзе на-

чальнік пошты? Дзе Гуз? Пазавіце яго сюды. Я распісвацца не буду. Дзе пасылка? Што вы мне прынеслі?

— Пасылка ваша,— гаворыць мне недзе, як з-пад стала, як схаваўшыся, кучаравая галава, я яе зусім не бачу. — Пасылка ваша,— зноў спакойна адказвае мне кучаравая галава,— праверце адрас...

Я перавярнула цвёрды папяровы мяшок на адзін бок, на другі. Пасылка была падпісана мне. І адрас адтуль, амерыканскі я злавіла вокам. І яшчэ нейкія там беленькія бліскучыя наклейкі...

— Яна пустая... Я яе браць не буду. Дзе Гуз? — зноў закрычала я.

— Гуза цяпер няма. Будзе пазней,— адказала мне чорная струкаватая галава.

— Я буду яго чакаць... — сказала я, пайшла села ля акна, на лаўку. Сэрца ў мяне аж выскоквала з грудзей. Што рабіць? Начальнікам пошты ў Плешчаніцах быў Гуз. Я яго ведала яшчэ па нашым Крайску. І ён мяне ведаў, ведаў і што ў мяне сястра ў Амерыцы. Пытаўся нават пра яе — што піша? Што пасылку абакралі — гэта было ўжо ясна. Але дзе? — думала я, седзячы на лаўцы і гледзячы на вуліцу на дашчаты тратуар, дзе тузаліся вераб'і. — У Мінску? Не. Дзе раней? Не. Там яе зачапіць баяліся, каб і хацелі. Як тады пустую пашлеш у Плешчаніцы? Яе ж тут не прымуць. Гуз адашле назад, і стануць разбірацца. А з Плешчаніц у Крайскую пошту можна і не пасылаць. Рабі, што хочаш, тут ніхто не праверыць, тут няма каму. Можна выклікаць чалавека за трыццаць вёрст і падсунуць яму пусты мяшок. Дзе Гуз? У міліцыю пайду, у суд, у райком. Не дарую... Хоць палавіну пасылкі вярну... Хоць пару якіх кіло дзецям галодным дамоў прынясу.. Я ім пакажу: і Гузам, і Тузам... Каб ім жыць збрыдала...

Гразілася я, гразілася ў душы, а тады падумала... Ну, схаджу я ў міліцыю, заяўлю, ну, спытаюць яны ў Гуза — добра, калі яшчэ спытаюць,— што такое? Адкажы. А ён адкажа, што Мінск такую прыслаў. А чаму прынялі аграбленую? А таму, адкажа Гуз, што з Мінскам не хацелі звязвацца: там абласное начальства. І ў міліцыі скажуць: што гэта дурная баба выдумляе? Што ёй яшчэ трэба, калі тут замешана абласное начальства. Гуза ведаюць і там і тут. Калі ісці, то толькі ў райком. Пайсці і расказаць усё. Але ж ты, сястрыца, відаць, ужо знаеш, як адзін наш старшыня калгаса папрасіў адразу пасля вайны ў свайго брата, што жыў у Амерыцы, каб ён прыслаў яму брытву. Некалі, яшчэ да вайны, ён яму прысылаў. Надта ж добрая была. А ў вайну яна прапала. Дык расказваў ён сам пасля, што пазвалі яго ў райком на бюро — камуніст жа быў — і так адбрылі, што ён, хоць і партызаніў у вайну, чуць з работы не выскачыў... Што? Амерыканскай брытвы захацелася? Свая ўжо не рэжа? Дык свая можа і галаву з барадой адрэзаць...

Сяджу я і галавой сваёй замарочанай ківаю... — расказвала далей маці. — А яна ў мяне баліць, аж развальваецца... На пошце ўвесь гэты час было ціха. Забегліся толькі ваенныя з гарадка, што ля Плешчаніц, нарабілі грукату і смеху — купілялі канверты, пасля выбеглі, саскочылі з ганка, укуліліся ў кузаў машыны і паехалі ў гарадок.

— Грамадзянка,— клікнула мяне струкаватая галава з-за агародкі. Дагэтуль яна ўсё мітусілася, выходзіла некуды, прыходзіла. — Начальнік сказаў, калі яго да дзвюх гадзін не будзе, то каб яго не чакалі. А ў нас ужо хутка тры гадзіны. На сцяну, на гадзіннік, паглядзіце...

Я хацела павярнуць галаву і паглядзець на гадзіннік, але пачула, як ціхенька стукнулі на ганку дзверы, і следам за ваеннымі з ганка па ступеньках спускаўся Гуз — я яго пазнала здалёку: лысіна на ўсю галаву, гарбаты нос і чорныя вусы пад носам. Я нават хацела пастукаць у акно, але мяне, як хто схапіў за руку. Гуз быў не адзін, з ім спускаўся з ганка яшчэ адзін чалавек у ваеннай форме. Вяла размахваючы рукамі, яны перайшлі вуліцу і скіравалі недзе ў бок ваенкамата. Гэтага чалавека я знала...

Маці ўсё хадзіла і хадзіла па хаце, як усё роўна яшчэ ішла па тую пасылку шашой у Плешчаніцы, гаварыла і гаварыла. Наста сядзела на ложку, маўчала і ўсё слухала, толькі паварочвала галаву ўслед маёй маці, калі яна адыходзілася ад яе аж да печы.

Прынясла я тады дамоў тую «пасылку»: пусты папяровы мяшок,— расказвала далей маці,— ужо было пад вечар. Дома мяне даўно чакалі: і Мікалай, і дзеці. І братавая Александрына сядзела ля стала. Я ім усё і расказала. Перавярнула пасля мех і высыпала з яго на стол усё, што асталося ад пасылкі. Александрына, а яна ж пажыла ў Амерыцы, узяла на зуб усё тое, што я каштавала ў Плешчаніцах, і сказала, што горкае, гэта натуральны шакалад, што ён павінен гарчыць, хоць і салодкі. Яго было толькі два востранькія кавалачкі, як усё роўна што разломанае наўкасяк. А чорненькія цененькія плітачкі ў бліскучай паперы — гэта натуральная чорная кава, яе трэба, адрэзаўшы скрылёк, кідаць у шклянку ў вар, растварыць, дабавіць цукру і піць. Можна дабаўляць і малака, будзе кава з малаком. На стол з мяшка вываліліся яшчэ акуратненька ўпакаваныя пакецікі з мяккай-мяккай белай і шэранькай паперай. Іх было ладне. Александрына сказала, што гэта салфеткі і туалетная папера. Туалетную паперу Гуз пакінуў, не спатрэбілася.

Што далей было, сястрыца, пытаешся? Э-ха-ха... А ў той час прыехаў у водпуск да Александрыны яе сын, Аркадзя. Такі ж самы з твару, як наш Сальвестра. І крошкі яго пабраў, так падобны. Служыў Аркадзя пасля вайны ў Германіі, у нашай зоне. І ў водпуск прыязджаў часта. Я і яму ўсё расказала. Ён і даў адрас адной нямецкай сям'і, з якой быў добра знаёмы. Сказаў, каб мы пераслалі гэты адрас Прузыне ў Амерыку, а Прузына хай па ім вышле пасылку на Германію, калі будзе больш слаць. На нямецкі адрас. А ён тады ад немцаў перашле яе нам сам. І што ж ты думаеш, сястрыца? Праз якія паўгода, а мо і раней, прыходзіць нам па палявой пошце з Германіі пасылка з адзежай ад Аркадзі. Палучылі: палявую пошту не зачапілі, палявую пошту і Гуз баяўся ўскрываць. Пасылка была цэлая, мы палучылі ўсё, што спакавала сваімі рукамі наша Прузына. Эх, сястрыца... Каб жа ты магла бачыць... Мікалая мы і пахавалі ў амерыканскіх штанах з той Аркадзевай пасылкі. І ў дамаўі ён ляжаў у тых жа штанах. Каб жа ты магла бачыць...

Прывязлі яго з Плешчаніц, памылі, пагалілі, ляжыць ён на ложку... «Будзем, дзеці, збіраць бацьку ў апошнюю дарогу...» — кажу я дзецям, а яны толькі плачуць. «Адзець у самае лепшае»... — гаворыць Александрына. Яна і мыць Мікалая памагала. А што ў нас самае лепшае? Пазвала я сына і кажу: штаны з пасылкі былі якраз па табе, тыя, белыя ў дробную клетачку, баваўняныя. Якія мы афарбавалі ў чорнае, хто ж белае ў вёсцы носіць. Яны і бацьку падыходзяць. Якраз як на яго пашыты. А там, будзем жыць — купім. Сын памог мне адчыніць куфар, дастала я тыя пафарбаваныя штаны і рубашку разам — таксама з пасылкі,— бежавую, расхрыстаную, яе можна было адразу накідваць на плечы, як распашонку, не нацягваць праз галаву, як нашы — такіх мужчынскіх рубашак я яшчэ не бачыла. Кажу Александрыне, што і рубашку са штанамі амерыканскую адзенем на Мікалая... Прыбяром апошні раз... А на рубашцы ззаду на плячах вялікімі чорнымі не нашымі літарамі напісана Davidovich. Можа, Прузынінага сына каторага рубашка, можа мужа... Александрына, там яна і на фабрыцы працавала, дык яна кажа, што там у кожнага рабочага было на плячах напісана ягонае прозвішча вялікімі літарамі, каб гаспадар здалёку бачыў, хто стаіць ля станка, а хто куды адышоўся. Падумала я і кажу Александрыне: не. Мы Мікалая не адправім на той свет, пямечанага чужым імем... Каб там яго прынялі за чужога... Александрына сама адклала ўбок тую рубашку, а я знайшла ў куфры старую, але яшчэ на выгляд зграбную чорную Мікалаеву рубашку, ён надзяваў яе некалі ў святы, любіў... Пусціла яе пад прас, дык яна стала, як новая. Надзелі мы на яго нашу чорную рубашку і пафарбаваныя штаны з пасылкі. Знайшлі новыя шкарпэткі. Абулі... Ляжаў мой Мікалай у дамаўі і ўсміхаўся, каб ты толькі, сястрыца, відзіла... — маці залілася слязьмі. — Апусцілі яго ў дамаўі мужчыны ў магілу, а я стаю, як нежывая. І рукі адымаюцца, і ногі. Трымае мяне Александрына пад паху, шэпча на вуха, што трэба мне хоць тры жменькі пяску сыпнуць у магілу... Я помню, што трэба, а нагнуцца, дастаць рукой зямлі не магу. Тады мне памагла дастаць жменьку жоўтага пяску Александрына. Пясок быў халодны-халодны... А куды я яго буду сыпаць? У галовы — на твар і на вочы? Дык жа яму хапіла ў жыцці таго пяску і пылу ў вочы... На дарозе, на полі... Толькі паспявай было закрывацца. На рукі? Дык жа яны гладзілі па галоўцы дзяцей і кроілі хлеб... І я папрасіла Александрыну, каб яна падвяла мяне ў канец магілы. І я высыпала сваю халодную жменьку ў канец дамавіны. Яму пад ногі... Каб яму там мякенька было ступаць па жоўценькім пясочку сваімі натруджанымі нагамі... Гэтулькі яны яшчэ не дахадзілі па зямлі... Яму ж ішоў толькі сорак сёмы год... Ну, не верыцца мне, сястрыца ты мая, што яго ўжо няма і ніколі не будзе...

Маці ашчапіла на ложку за плечы Насту і зноў залілася слязьмі, прымаўляючы на ўсю хату: «А Мікалай ты мой... А дзеці вы мае... А як жа мы жыць будзем... А што ж мы рабіць будзем...»

Ззыбнуўся пада мной палок — я ўсхапіўся, каб не ўпасці разам з ім, але мне гэта толькі здалося: палок цвёрда трымаў мяне — быў моцна прыбіты да сцяны бацькавай рукой.

# Юрый МАРУХІН

Беларускі кінематограф панёс незаменную страту. 20 снежня 2001 года, на шэсцьдзесят чацвёртым годзе жыцця, пасля цяжкай працяглай хваробы памёр Юрый Аляксандравіч Марухін.

Ю. А. Марухін пасля заканчэння УДІКа працаваў на кінастудыі "Беларусьфільм" больш як 37 гадоў. Сярод майстроў беларускага кіно Юрый Аляксандравіч займаў асаблівае месца. Ён плённа працаваў і ў мастацкім, і ў дакументальным кіно. Дзякуючы яго выдатнаму таленту аператара былі створаны і атрымалі высокую ацэнку гледачоў такія фільмы, як "Масква — Генуя", "Чакай мяне, Ганна", "Чорнае сонца", "Магіла льва", "Лясныя арэлі", "Час выбраў нас", "Пункт адліку", "Паводка", "Заціштша", "Сад" і іншыя. Глыбіня творчай асобы, патрабавальнасць да сябе як да мастака, арыентацыя на нацыянальныя тэмы ярка праявіліся ў работах Юрыя Аляксандравіча ў якасці рэжысёра-пастаноўшчыка, асабліва ў карцінах "Радаўніца", "Маці Урагана", "Чалавек, які браў інтэрв'ю".

Важным укладам у нацыянальнае кіно з'яўляецца шэраг дакументальных кінастужак, створаных рэжысёрам Ю. А. Марухіным, дзе майстар звяртаўся да рознабаковых сфер жыцця нашай краіны, да партрэтаў сучаснікаў, да традыцыйнай культуры беларускага народа. Гэта фільмы 1994—95 гг. "Будзьце здаровы", "Дрывасек, дзядок і тутэйшыя", "Адам і Марыля".

Адна з лепшых карцін апошняга часу (1998 г.) — аператарская работа на беларускай кінакарціне "Тры жанчыны і мужчына".

У выніку творчага супрацоўніцтва Ю. А. Марухіна з расійскімі, нямецкімі і амерыканскімі кінематаграфістамі быў створаны шэраг сумесных фільмаў.

Кожная кінастужка Ю. А. Марухіна — урок майстэрства. Ім выхавана цэлая плеяда выдатных аператараў беларускага кіно, у яго прайшлі школу аператарскага майстэрства такія вядомыя майстры як, Д. Зайцаў, У. Спарышкоў, А. Суханава, Э. Садрыеў, С. Пятроўскі і іншыя.

Юрый Аляксандравіч актыўна ўдзельнічаў у грамадскім жыцці. Узначальваючы Беларускі саюз кінематаграфістаў, ён займаўся прапагандай беларускага кінематографа за межамі нашай краіны.

За заслугі ў развіцці беларускага кінамастацтва Ю. А. Марухіну было прысвоена ганаровае званне "Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР". Ён узнагароджаны ордэнам "Знак Пашаны", медалямі "За працоўную адзнаку", "За доблесную працу", "Ветэран працы", Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР, шэрагам ганаровых дыпломаў і прэмій.

Светлая памяць аб таленавітым майстры кіно, мудрым педагогу, добрым і чулым чалавеку назаўсёды захаваецца ў сэрцах яго калег, вучняў і гледачоў.

**Г. В. Навіцкі, У. Р. Латыпаў, У. Н. Дражын, С. Н. Князеў, Л. П. Гуляка, М. В. Падгайны, І. А. Карэнда, У. С. Басалыга, І. І. Вашкевіч, І. В. Волчак, У. А. Гілеп, У. В. Гасцюхін, А. А. Дудараў, М. П. Дрынеўскі, Л. С. Екель, А. В. Яфрэмаў, І. М. Дабралюбаў, Д. Я. Зайцаў, В. М. Іпатава, Р. Б. Смольскі, А. В. Сцяпанаў, В. В. Спарышкоў, А. І. Суханава, С. І. Сухавей, Д. А. Сурскі, М. М. Пташук, В. П. Рыбараў, Л. А. Крушынская, В. В. Шанько, А. В. Шкадарэвіч, Ю. М. Цвяткоў.**

ПАМЯЦЬ

# Богу і Бацькаўшчыне

22 снежня 2001 года на 86-м годзе жыцця завяршыў свой зямны шлях старэйшы беларускі каталіцкі святар, дастойны айцец Уладзіслаў Чарняўскі. Не стала пастара, які ўсё сваё свядомае жыццё шчыра і аддана праслужыў Богу і Беларусі. Пастара, які цэлае пакаленне беларусаў далучаў да несмяротнага Божага вучэння. Не стала чалавека, які асабістым прыкладам вучыў людзей любіць бліжняга свайго рабіць дабро і супраціўляцца ўсеабдымнаму злу.

А нарадзіўся айцец Уладзіслаў Чарняўскі 14 студзеня 1916 года ў засценку Амбружына каля Гальшан у вялікай і беднай сялянскай сям'і. Вучыўся ў Вішнеўскай і Крэўскай школах, Ашмянскай польскай гімназіі. У 1934 стаў вучнем гімназіі імя Стэфана Баторыя пры Друйскім кляштары, якую закончыў у 1937 годзе. А ў 1938 яшчэ ў Друі паступіў у навіцыят ордэна марыянаў. Затым была вучоба ў Віленскай духоўнай каталіцкай семінарыі, якую паспяхова скончыў у 1945 годзе. Працаваў пробашчам касцёла святога Мікалая ў Вільні, потым у Укмерге, Гегужыне, Ерніішках, Варэнах, Эйшышках на Літве. А з 1954 — у мястэчку Вішнева, што на Валожыншчыне...

Усе, каму пашанцавала ведаць гэтага незвычайнага чалавека, не пераставалі здзіўляцца яго сціпласці, дабрыні і чалавечнасці. Ён заўсёды лічыў, што размаўляць з Богам трэба толькі на роднай мове. І таму словы: "І слаўце імя Маё мовай сваёй" былі для яго не пустым гукам, а сэнсам жыцця.

Давялося за такія погляды зведаць шмат непрыемнасцяў і перашкод, але ніколі ні пры якіх абставінах ён не зламаўся, не адступіўся ад сваіх перакананняў. Да апошніх дзён свайго жыцця ўдасканальваў тэкст перакладзенай ім на беларускую мову Бібліі, іншай рэлігійнай літаратуры. Заставаўся чалавекам з вялікай літары. Такім і застанецца ў нашай памяці і нашых сэрцах.

**Краязнаўца Міхась КАЗЛОЎСКІ, гісторык Эдвард ЗАЙКОЎСКІ, мастак Генадзь СЕЛЯДЗЕЦ, мастак Сяргей ШУСЦІЦКІ, грамадскі дзеяч Алесь КАПУЦКІ, паэт Сяргей ПАНІЗНІК, паэт Мар'ян ДУКСА, мастак Васіль ЛАЗОЎСКІ.**

Постаць айца Уладыслава Чарняўскага, былога пробашча касцёла св. Марыі, у славутым Вішневе, што на Валожыншчыне, яшчэ пры жыцці стала не толькі сімвалам, але і ўзорам непахіснага змагання за Бацькаўшчыну, служэння як Богу, так і Айчыне. Гэтая постаць надзвычай сціплага, непараўнальна простага чалавека настолькі значная і велічная для нашага народа, што ўсведамляецца пакуль вельмі нямногімі з нас.

Ксёндз Уладыслаў быў рахманы і разважлівы чалавек, ён добра ўсведамляў, што зрабіўшы першы крок, пачаўшы весці набажэнствы і казанні ў касцёле па-беларуску хоць і цяжка, але зусім не тое, што зрабіць другі, а гэта значыць, зрабіць пераклад усяе Бібліі на беларускую мову. Толькі і на гэтае, пэўна, была Божая воля, бо з яго ласкі побач, у Вішневе, стала пражываў цудоўнейшы чалавек-аднадумца, мовазнаўца і паэт, арыгінальны перакладчык твораў Адама Міцкевіча і вялікі патрыёт Пятро Бітэль, які з гатоўнасцю дапамагаў у гэтай задуме айцу Уладыславу.

Але як ведаем — і гэты шлях за спіной, а перад намі Божае слова ў новым перакладзе на нашай Богам прадвызначанай мове.

На 86 годзе жыцця сэрца айца Уладыслава спынілася. З нагоды гэтай страты мы, сябры клуба, разам з іншымі суайчыннікамі, якія вераць у Бога, шануюць і любяць родную мову і праз яе імкнуцца спасцігнуць таямніцы Свету, выказваем наш глыбокі смутак, журбу ды роспач. Бацькаўшчына яшчэ неаднойчы належна ўшануе велічны подзвіг святара з Вішнева. У будучым музеі нашай мовы, спадзяёмся, яго постаць знойдзе сваё вартае месца, а для зацікаўленых дадамо, што імя святара будзе ўшанавана ў стэле-помніку змагарам за беларускую мову каля сядзібы-музея збіральніка Анатоля Белага ў Старых Дарогах.

**Сябры грамадска-асветніцкага клуба "Спадчына"**

# Мы ўсе яе любілі

Не стала Ларысы Іванаўны Галаванавай. Звыш трыццаці гадоў назад яна прыехала з Масквы ў Мінск, і з таго часу Беларусь стала яе другой радзімай. Яна прыехала да нас забыцца пра страшэнную бяду — страту роднага сына Сашы, і ўсе свае сілы, талент, любоў яна аддала працы ў Мінскай абласной журналісцкай арганізацыі. Сярод нас няма ніводнага, хто б не любіў, не паважаў Ларысу Іванаўну. Чым магла, яна дапамагала кожнаму — каго ўладкаваць на працу, каму дастаць пуцёўку, з іншымі проста сардэчна гутарыла, давала парады. Колькі цікавых сустрэч для журналістаў з артыстамі, музыкантамі, вучонымі яна арганізоўвала, праводзіла творчыя вечары газетных, радыйных, тэлевізійных журналістаў. Колькі хвалявання, душэўных сіл, эмоцый, здароўя каштавала ёй кожнае такое свята!

Сярод сяброў Ларысы Іванаўны — журналісты, пісьменнікі, мастакі, артысты, вось толькі некаторыя імёны — празаікі Святлана Алексіевіч, Марыя Вайцяшонак, паэтэса Ніна Галіноўская, мастак Іван Стасевіч... Апошні, дарэчы, стварыў цікавы лірычны партрэт адзінага сына Ларысы Іванаўны, які заўсёды вісеў у яе кватэры на самым ганаровым месцы.

А колькі было ў яе сяброў сярод журналістаў! Яна заўсёды выглядала вельмі маладой. Не дзіўна, што ёю захапляліся людзі розных узростаў. Адны знаходзілі ў ёй дабрыню, сардэчнасць, другія — цікавы, неардынарны розум, інтэлект, эрудыцыю, талент. Але ўсе не маглі не заўважыць прыгажосць і абаяльнасць. Таму смерць яе — такая горкая і цяжкая страта. Ларыса Іванаўна Галаванава вернецца туды, адкуль прыехала — яе урна будзе пахавана ля магілы яе любімага і адзінага сына Сашы.

**Вера КРОЗ**

**Калектыў праўлення ГА "БСТД" выказвае глыбокае спачуванне вядучаму спецыялісту праўлення Святлане Яўсееўне КЛІМАКОВАЙ у сувязі са смерцю маці.**

